мы сядзелі моўчкі, але я ведаў, што абодва яны спачувалі мне і, пэўна, хацелі супакоіць. Аднак спачуванні цяпер не мелі сэнсу, і яны самі, відаць, няблага разумелі гэта.

— Пакуль там што — давайце перакусім,— сказаў Грынюк і, нешта дастаўшы з кішэні, падаў мне.

— Што гэта? А-а-а...

— Галеты, таварыш лейтэнант. Маханькоў, давай фляжку.

Маханькоў з гатоўнасцю падаў флягу, і я, амаль недаўменна (якая фляга, навошта фляга?), нібы прасынаючыся ад душэўнага змярцвення, узяў яе. Гэта была тая ж, знаёмая, нядобрай памяці шкляная фляга і ў ёй важка, нібы жывая істота, з ціхім пляскам боўталася з паўлітра гарэлкі.

— Выпіце, лейтэнант,— неяк проста, па-свойску сказаў Грынюк.— Для сугрэву не пашкодзіць.

Я патрымаў флягу ў руцэ, падумаў і вырваў гумовую пробку. Гарэлка была страшэнна сцюдзёная і гарчыла ў роце, больш чым на тры глыткі ў мяне не хапіла дыхання. Пасля, пакуль я з нечаканым апетытам жаваў скрыпучую галету, глытнулі патроху Маханькоў і Грынюк.

— Во і добра! Сугрэўней стала. А то ночка — не мамачка.

Сапраўды, зрабілася неяк трохі цяплей, а галоўнае — быццам весялей нават, з душы нібыта зваліўся гнятлівы цяжар, і мая вялікая бяда стала раптам патроху меншаць.

— Грынюк, як у вас з патронамі?

— З патронамі? Анічога. Ёсць патроны.

— Маханькоў, перадай па ланцугу фляжку. Кожнаму — адзін глыток.

Маханькоў падняў галаву, нібы чагось не разумеючы, і я паўтарыў:

— Перадай, перадай! І — падрыхтавацца да атакі.

— Зараз? — здзівіўся Грынюк.

— Так, зараз.

Грынюк заёрзаў па снезе, высмаркаўся, выцерся рукавіцай і, яўна не адабраючы маё рашэнне, шумна ўздыхнуў. Мяне ж ці то ад гарэлкі, ці таму, што я толькі цяпер пачаў усведамляць усю незайздроснасць свае перспектывы, пачала распіраць неспатольная прага да дзеяння. Хацелася неадкладна кудысьці бегчы, нешта рабіць, здаецца, я пачынаў адчуваць у сабе сілу і рашучасць супраціўляцца абставінам.

Грынюк жа, мяркуючы па ўсім, адносіўся да гэтага інакш.

— Пачакаем. Да раніцы цэлая ноч.

— Ну і што? За ноч хутар бліжэй не стане. Маханькоў, бяжы спытай колькі часу.

Маханькоў, прыгнуўшыся, шмыгнуў у канаву і пабег да байца Бабкіна, у якога быў трафейны гадзіннік, а Грынюк, задраўшы падбародак, паглядзеў у неба, дзе час ад часу з'яўляўся з-за дранага ашмоцця воблакаў амаль правільны дыск месяца.

— Хоць бы гэта бяльмо схавалася. А так...

— Напляваць! Колькі, Маханькоў?

— Дваццаць хвілін першай, таварыш лейтэнант,— сказаў Маханькоў і апусціўся на адно калена.

Я ўстаў з акопа.

— Так! Падрыхтавацца да атакі. Дазарадзіць магазіны. Падрыхтаваць гранаты.

## 4

Я ледзьве вытрымаў, каб не падняць узвод зараз жа, цярпліва счакаў каля паўгадзіны і тады з дрыготкім сэрцам выйшаў з акопчыка. Поплеч адразу ж ускочыў Маханькоў, пасля ўсталі яшчэ, і ледзьве прыкметны ў прыцемках ланцужок рушыў па снежным полі ў напрамку да хутара.

Хутар ужо амаль дагарэў, і толькі некалькі агеньчыкаў слаба бліскалі ў цемры на самым краі поля. Я на ўсе вочы ўзіраўся ў гэты край, бо ад таго, заўважаць нас або не раней чым мы зблізімся на кароткі рывок, залежала для мяне ўсё. Мне здавалася, што раней чым немцы спахопяцца, узвод паспее прабегчы хоць бы палавіну поля, астатняе, вядома, давядзецца адольваць пад нямецкім агнём. Напэўна, гэта было не самае лепшае, але іншага спосабу вярнуць хутар я не знаходзіў. Зрэшты, у адным нам як бы быццам пашэнціла — месяц, здавалася, надоўга схаваўся за густым навалаччам хмар і ноч добра-такі сцямнела.

Пад ботамі і валёнкамі ціха паскрыпваў марозны снег, халодны нямоцны вецер апякаў твары. Я вельмі спяшаўся і то шырокім крокам, то бягом усё далей вёў узвод ад дарогі. Было цёмна і ціха. Вядома, з хвіліны на хвіліну немцы павінны былі павесіць ракету, я чакаў яе, каб адразу ж залегчы, пакуль яна яшчэ будзе на ўзлёце. Але атрыма-

лася так, што іх чамусьці ўзнялося тры разам. Прадчуваючы нядобрае, я тут жа расплстаўся на снезе, непадалёк пападалі байцы, і толькі на правым фланзе хтосьці недаравальна прамарудзіў — доўгі трайны цень яго наздрадніцку заматляўся па бязлітасна асветленым полі.

Ракеты не паспелі дагарэць, як з-за хутара імкліва ўзляцелі яшчэ тры, і тут жа прывідны ў іх святле прастор над галовамі прашылі першыя паскі трас. Чэргі вылецелі з аднаго месца, трошкі лявей ад хутара, пасля ў паветры да іх далучыліся іншыя, затрашчалі новыя кулямёты, і ў глухой дагэтуль начной цішыні ўсчаўся такі вэрхал, якога, здавалася, не было ўдзень, калі наступаў полк.

Я ўголас вылаяўся, уціснуўся ў снег, амаль фізічна адчуваючы, як мая ўзнёсласць і мая рашучасць уступаюць месца роспачнай злой безвыходнасці. Было зразумела, што замысел мой разлятаўся ўшчэнт, наступаць пад такім агнём было самагубствам.

Ткнуўшы падбародак у снег, я пакутліва згадваў, што рабіць. У душы нядоўга паныла ды і сканала нясмелая надзея на тое, што гэта — так, што немцы ўсчалі такую страляніну, каб напалохаць, што нас яны не заўважылі. Думалася, а раптам усё сціхне. Але дзе там! Сотні агняных светлякоў, пераганяючы адзін аднаго, скрыжоўваючыся і размінаючыся, шалёна несліся ў наш бок, дзёўбаліся аб снег, зламаўшы траекторыю, узляталі зноў. У небе пад аблокамі няспынна віселі ракеты, і было відаць, як вецер марудна раскручвае на небасхіле блытаніну іх дымных хвастоў.

Ад такога знішчальнага агню нас ратавала толькі адлегласць. Усё ж да хутара было не меней чым кіламетр, і таму рассейванне іх чэргаў было вялізнае. Па сутнасці, немцы сеялі імі па ўсім полі.

Павярнуўшы голаў, я паглядзеў на свой узвод. Няроўны яго ланцужок, нібы замершы адразу, ляжаў пад зіхоткай агнянай мітуснёй уверсе, здавалася, ніводным рухам не дэмаскіруючы сябе ў гэтым полі. Але цяпер гэта яго нерухомасць ужо не была перавагай — нас, пэўна ж, убачылі. Мабыць, трэба было падаваць каманду, каб вяртацца назад.

Аднак я марудзіў. Я чакаў, усё яшчэ спадзеючыся на штосьці раптоўнае і спрыяльнае для нас, як цуд. Уздоўж ланцуга, грудзямі рассоўваючы снег, поўз Грынюк. Я бачыў яго, але сяржант перш чым загаварыць, патузаў мяне за бот і праз трэскат і гром пракрычаў:

— Лейтэнант! Чаму ляжым? Камандуйце па-пластунску наперад!

«Дзякуй, Грынюк!» — падумаў я. А то мне здалося, што ён прыпоўз не за тым. Давялося б ваяваць, узяў бы яго на месца Хазяінава. А так... Але куды тут па-пластупку?

— Параненых многа?

— Ды быццам няма. Давай наперад. Замярзаем.

— Бачыш, што робіцца?

— А! Была не была. Усё роўна ўбачылі.

Вядома, убачылі, цяпер літасці ад іх не чакай. Цяпер ужо можна збліжацца адкрыта. Толькі што мы зробім, калі і зблізімся? Пакласці пятнаццаць чалавек пры такім агні з блізкай адлегласці — работы на пяць хвілін. Загублю ўзвод і сам лягу. Не, так нельга.

Але ж тады як?

Ракеты над полем свяцілі без упынку. Толькі пачынала дагараць адна — зараз жа ў дымнае ад папярэдніх неба ўзлятала наступная. Ноч поўнілася стогалосым траскоццем стрэлаў і д'ябальскай несціханай мітуснёй агню ўгары, супраць якога ў нас не было сродкаў. Адзіны выхад здаваўся там, ззаду, дзе засталася наша канава ў рэдзенькай маладой пасадцы. Яна, вядома, схавае, уратуе ўзвод, але не мяне. Мне месца там няма — там мая пагібель.

Але што ж,— пэўна такі ўжо лёс!

Глытаючы тугі камяк у горле, я скамандаваў па ланцугу адыход.

## 5

І вось мы зноў у нашых неглыбокіх акопчыках і чакаем цяпер ужо недалёкае раніцы. Немцы маўчаць. Ноч сціхла, усё навокал стаілася і змоўкла. У зорным праяснелым небе ярка блішчыць месяц, канчаткова нішчачы мае апошнія надзеі як-небудзь пазбыцца гэтай бяды.

Да світання засталася гадзіна. Маханькоў толькі што збегаў да Бабкіна і, паведаміўшы мне гэтую болей чым невясёлую вестку, паныла апусціўся на край майго акопчыка.

З непазбыўнай цягучай журбой у душы я глядзеў у срабрыстае ад месячнага святла поле, і думкі мае былі далёка ад гэтага злашчаснага хутара, які бліскаў здалёк двума агеньчыкамі, ад канавы з пятнаццаццю аўтаматчы-

камі і дарогі, на якой мне так хутка суджана было закончыць жыццё. Я думаў якраз аб гэтым сваім такім няўдалым жыцці.

Дурань, пянцюх і няўдачнік. А яшчэ столькі марыў аб подзвігах! Зубрыў у вучылішчы статуты, стараўся па службе, меў выдатныя характарыстыкі. Экзамены здаў на пяцёркі. Выпусцілі па першым разрадзе з правам датэрміновага прысваення чарговага воінскага звання. Навошта цяпер гэтыя правы і гэта першае званне, якое стала і апошнім. Расстраляюць, як сабаку, за невыкананне баявога загаду, як парушальніка дысцыпліны і ваеннай прысягі. І ніхто нават не даведаецца ніколі, што перажываў перад смерцю камандзір узвода аўтаматчыкаў і якое было ў яго жыццё.

— Ось так, Маханькоў!..

У мяне гэта вырвалася ўголас, і Маханькоў зябка пацепаў плячыма пад сваім шынялькам.

Ну што ж — праз гадзіну мяне расстраляюць, я ведаў гэта, але зусім не мог адчуць сябе мёртвым. Нечага ў мяне не хапала для таго — уяўлення, ці што? Або, можа, дастатковай упэўненасці ў грозную рашучасць камандзіра палка. Быццам застрэліць чалавека на вайне такая ўжо хітрая справа. І тым не менш менавіта гэтая няздольнасць адчуць смерць, як ні дзіўна, напаўняла мяне неўсвядомленым, амаль інстынктыўным пачуццём неўміручасці. Здавалася, камандзір палка пагражаў не мне. І хутар здаваў не я. Расстраляны таксама будзе нехта другі, таму што проста неверагодна забіць мяне, бо я ж — вось ён, жывы.

Але дзе там, думаў я, усё гэта глупства, вядома. Дарма чакаць цуда, на штосьці спадзявацца, час не спыніцца. Ды і Маханькоў, напэўна, выдатна разумеў мой незайздросны лёс і ўсім сваім выглядам сведчыў сваё спачуванне, ад якога, зрэшты, мне не рабілася лягчэй.

А вось Грынюка, здаецца, гэта зусім не турбавала. Пэўна, занудзіўшыся ў адзіноце на сваім не такім ужо і аддаленым флангу, ён прыйшоў да нас па пратаптанай над канавай сцяжыне і спыніўся за спіной Маханькова.

— Нейкі крык там. Чулі?

Я падняў галаву. Маханькоў таксама насцярожыўся, хвіліну мы глядзелі на Грынюка, услухоўваючыся, але ніякага крыку не было.

— Там вунь, каля пагорка. Ці, можа, мне здалося.

— Быццам нічога няма,— сказаў Маханькоў.

— Ну здалося тады,— Грынюк зябка пастукаў абцасам аб заднік.— Фляжачку б для сугрэву, га? Маханькоў, у цябе там нічога не засталося?

Маханькоў здзіўлена паглядзеў на яго, не адказаўшы, і той, відаць, зразумеў, што турбавала нас.

— Кіньце вы гаравацъ, лейтэнант.

— Ага, кінеш! Вунь гадзіна засталася.

— Го! Цэлая гадзіна! Цэлая гадзіна — гэта ого!

Я маўчаў. Ён мяне злаваў, гэты няпрошаны аптыміст, які, прытанцоўваючы ад марозу, казаў, на мой погляд, абсалютную недарэчнасць.

— Гадзіну — яе пeражыць трэба.

— Вы — пeражывіцё.

— Можа, пeражыву, а можа, і не. На вайне яно ўсяляк бывае.

Грынюк патопаў яшчэ і апусціўся на калені ля акопчыка. Затым, паціраючы рукі, даволі бадзёра, з нейкім нават уздымам падаўся да Маханькова.

— Закурым, ці што, дзяцюк. Каб дома не журыліся.

Я адвярнуўся. Было, бадай што, агідна глядзець на гэтую яго беспадстаўную бадзёрасць, якая злавала мяне, акалелага ад сцюжы, змарнелага ад пакут гэтай жахлівай для мяне ночы. А тут яшчэ нясцерпна мерзлі ногі, але ўставаць і грэць іх няхітрым салдацкім спосабам у мяне проста не было сілы. Сцяўшы ў рукавіцах азяблыя рукі, я журботна глядзеў у начныя прыцемкі, дзе знікала дарога і дзе быў палкавы НП. І, пэўна, таму і адразу ж пачуў у тым баку адзіночны вінтовачны стрэл, які рэзка бахнуў у чуйнай ранішняй цішыні. Праўда, мая ўвага амаль не затрымалася на ім: ці мала страляюць уначы па перадавой ды і ў тыле. Але ў той жа момант таропка бабахнула яшчэ і яшчэ. І праз секунду затрашчэла, зашыпела, заахала. Трасіруючыя, мабыць, з рыкашэта, веерам разляцеліся над пагоркам.

Маханькоў і Грынюк з недакручанымі цыгаркамі збянтэжана знерухомелі каля акопа.

— Што такое?

— Ачумелі яны там, ці што?

— Вартавы можа? З упуду,— сказаў хтосьці ў канаве.

Не, мабыць, гэта не з перапуду. На выпадковы перапалох гэта наогул было мала падобна — дужа ўжо апалела трашчэлі аўтаматы. Грымнуў, мабыць, гранатны выбух, і зноў — аўтаматы і рэдкае важкае баханне вінтовак.

— Што за халера?

Грынюк сунуў непрыкураную цыгарку за адварот шапкі і ўскочыў на ногі.

— Бадай, нелады. Трэба б паслаць каго.

— Ось і давай! Бяры аддзяленне і — бягом!

Малодшы сяржант кінуўся ўздоўж канавы, і Маханькоў таксама пераскочыў акопчык.

— І я.

На секунду ён затрымаўся, чакаючы мае згоды, але я трохі памарудзіў — штось ва мне раптам запярэчыла супраць таго, каб і ён бег туды. Пэўна, падзеі апошняй ночы зблізілі нас, і цяпер мне проста не хацелася заставацца тут без яго. Але я ўспомніў, колькі ўжо мала засталося хвілінак з майго апошняга часу, і махнуў рукой. Сем чалавек Грынюка выбягалі на дарогу, і Маханькоў, закінуўшы за плячо аўтамат, дагнаў іх.

Страляніна тым часам усё разгаралася, здаецца, сапраўды ў нашым тыле ішоў бой. Дзесьці за хутарам завухкалі нямецкія мінамёты, цяжкія іх міны, скаланаючы зямлю, пачалі рвацца на пазіцыях батальёнаў. Неба завыла, зашуршэла, заварушылася. Але я ўсё не мог пагадзіцца з думкай, што праз баявыя парадкі палка прарваліся немцы — у такім разе мы самі апынаіся ў акружэнні, а гэта ўжо было горш за ўсе нашы ранейшыя беды. Аўтаматчыкі ў канаве ўсе насцярожыліся, павярнуліся ў акопчыках і, паглядваючы ў бакі, услухоўваліся ў загадкавую калатнечу.

І тады на дарозе невядома адкуль з'явіўся баец. У непадпяразанай гімнасцёрцы, з аўтаматам у руках ён быў не наш, и адразу сцяміў тое і, нешта адчуўшы, падняўся яму насустрач. Баец, раптам згледзеўшы ўзвод, закрычаў амаль у роспачы, як гэта магчыма, толькі калі трапіш у бяду:

— Аўтаматчыкі?.. Аўтаматчыкі — усім бягом туды! Чуеце? Немцы прарваліся...

— Куды прарваліся? Дзе прарваліся? — ужо ведаючы, што сталася кепскае, зацятым голасам пытаўся я.

— Камандзір, так? Начштаба загадаў: бягом!..

Баец раптам змоўк, нібы праглынуў словы, і пахіснуўся, хапаючыся за бок. Мы ўсе маўчалі, а ён стаў хіліцца ніжай і ніжай, каб не ўпасці, няўпэўнена пераступіў на дарозе.

— Рабяты, бінта...

Нехта кінуўся да яго з канавы, мяне ж у тую хвіліну нібы скаланула штосьці. У свядомасці бліснула здагадка-

надзея, і я нават сцяўся ад думкі, што магу спазніцца. Выскачыўшы на палатно дарогі, я крыкнуў узводу: «За мной бягом!» — і ашалела пабег насустрач візгу і ціўканню бою. Ён цяпер не палохаў мяне, самае страшнае — хутар і дарога — заставаліся ззаду, а смерць там, на НП, здавалася мне ўзнагародай.

## 6

І вось я не згінуў, а толькі паранены і нават лёгка – у руку. Тое, што адбылося потым на схіле пагорка з назіральным пунктам, заняло дзесяць хвілін і помніцца цяпер да кожнай драбніцы. Аказваецца, немцы абыходзілі мой узвод, каб ударыць па ім з тылу, ды налезлі ўначы на палкавы НП. На шчасце, мы былі побач і прыбеглі для паратунку ў час. Аўтаматчыкі ўварваліся ў траншэю, калі ў ёй ужо былі немцы — пайшлі ў ход гранаты, лапаты, нажы. Васемнаццаць нямецкіх трупаў засталося на гэтым бугры. Але перапала і нам.

Калі ўсё было скончана, у траншэі на мяне наскочыў начштаба, ён пацiснуў маю здаровую руку і адразу ж запісаў імя і імя па бацьку — для ўзнагароды. Спачатку мне здалося, што ён жартуе, але капітан спытаўся яшчэ і прозвішча таго малодшага сержанта, аддзяленне якога падбегла да пагорка першым і тым на хвіліну ўзяло на сябе агонь немцаў.

— Грынюк — было яго прозвішча,— сказаў я.

— Што — таксама?

— Таксама.

Капітан яшчэ больш спахмурнеў, на палявой сумцы хруснуў яго аловак. Начштаба вылаяўся.

Цяпер я сам не разумею сябе — адбылося нешта супярэчлівае і загадкавае. Недзе ў глыбіні душы я рады, амаль шчаслівы і ў той жа час мне як ніколі крыўдна і хочацца плакаць. Я ледзьве стрымліваю слёзы і не знаходжу сабе месціны ў гэтым сяле. Я ўцякаю ад падворка камендацкага ўзвода, дзе на акрываўленай саломе ляжаць пад брызентам Грынюк, Дудчанка, Усольцаў і Бабкін. Я стараюся больш не падыходзіць да хаты з раскіданай выбухам страхой, дзе ляжыць на лаве такі супакоены і чужы цяпер да ўсяго маёр Варонін. Не хочацца мне ісці і ў санітарную роту. Зараз там гаманліва, накурана, параненыя чакаюць снядання, машын з медсанбата, а цераз сені насупраць памірае з расшкуматаным жыватом Маханькоў. Кажуць, везці яго ў медсанбат ужо няма сэнсу.

Да маёра ў мяне, не зважаючы ні на што, адно толькі — ціхае шкадаванне. У яго пагібелі я не маю віны, мы сумленна стараліся выручыць яго на НП, але я ўсё думаю: няхай бы ён жыў. Можа б, і не расстраляў, як аб тым гразіўся. І тут самае кепскае ў тым, што ніколі ўжо і не даведаешся, ці ён сапраўды хацеў выканаць сваю пагрозу, ці толькі палохаў. Гэта ўжо навек застанецца для мяне загадкай.

Машыны, мяркуючы па ўсім, будуць пяхутка. У небе над вёскай вісіць невысокае сонца, за лесам, напэўна, усё на тых жа пагорках грыміць бой. Невядома, як пашанцуе сёння нашым батальёнам...

Краем вуліцы я памалу брыду да школы. Там на невялічкай пляцоўцы пад вокнамі чацвёра маіх уцалелых аўтаматчыкаў капаюць магілу. Адну, брацкую. Спярша камандзіра палка хацелі хаваць асобна, але камісар сказаў: не варта старацца. Ды і няма каму. Усяго жывых-здаровых у мяне засталося сямёра — трох аддалі на папаўненне роты сувязі, чацвёра пахаваюць забітых і пойдуць у стралковы батальён капітана Паршына.

Па рыхлай вохкай зямлі я ўзбіраюся на гліністую кучу і моўчкі гляджу ўніз. Хлопцы, навесіўшы цераз плячо дзягі, працуюць у адных гімнасцёрках. Усе маўчаць, чутно толькі, як тупаюць, скрыгочуць па суглінку рыдлёўкі, зморана адрывіста дыхаюць байцы. З ямы, раз за разам абсыпаючы мае боты, вылятае зямля. І я не збочваю ад рыдлёвак,—я адчуваю да гэтай магілы нейкае невыказнае сваё дачыненне. Напэўна, таму, што сярод тых, хто хутка ляжа сюды, вельмі нават магчыма мог бы ляжаць і я. Лёс або выпадак дамогся інакшага, і ўсё ж нейкая часцінка майго Я будзе вечна знаходзіцца тут — з Грынюком, Дудчанкам, Усольцавым, Бабкіным. Ды і з маёрам Варонінам таксама.

*1966*

# СТРАТА

— Матузка, а Матузка! Аглух ты, ці што?

Над шэрай кучай зямлі пад плотам перасталі ўзлятаць угору дробныя камякі і паказалася аблезлая пілотка і кірпаты апечаны сонцам твар.

— Лейтэнант кліча, не чуеш? — сказаў вусаты баец Піліпчук, які, пазвоньваючы медалямі, акопваўся побач.

Матузка зірнуў у бок дарогі з вербнымі прысадамі, дзе, высунуўшыся з канавы, нешта махаў яму іх камандзір.

— Матузка!! — гукаў лейтэнант.— Бягом за вёску, перадай Галкіну, каб у лес цераз лагчыну не пусціў ніводнага фашыста. Сам пакуль што застанешся з ім. Давай хутчэй!

Калі загадана — трэба бегчы. Баец пашкадаваў крыху свайго ўтульнага сховішча, але што зробіш? Прыхапіўшы вінтоўку, ён спрытна выскачыў з акопчыка і, шмыгнуўшы пад жэрдку паламанага плота, апынуўся ў агародзе.

Летняе сонца ў бясхмарным небе, ужо з раніцы набрала сілу і моцна паліла прастор. Вялае бацвінне, не ачуняўшы за кароткую ноч, бяссільна ляжала на сухой зямлі; жоўклі і курчыліся на градах агурковыя калівы. Капуста і тая згарнула абмяклае лісце і зморшчылася, нібы пастарэўшы да часу. Шморгаючы ў агародніне загнутымі наскамі стаптаных ботаў, Матузка бег між градак і не азіраўся назад, дзе над выганам паспешліва акопваліся яго таварышы — байцы паходнай заставы, урапку напаткаўшай ворага.

Знарок дзеля маскіроўкі баец трымаўся гумнаў і агародаў, і хутка яму трапілася сцяжынка, якая вілася ля саду. Цераз паркан на абцяжараных галінах звісалі буйныя, яшчэ недаспелыя яблыкі, хлопец, па-дзіцячаму азірнуўшыся, на бягу сарваў адзін і памчаў далей. Рухавасці ў яго хапала, хутка неслі ногі, і заўзята, без роздуму, сігаў ён цераз высокія платы і драцяныя загароды. Першае самастойнае баявое заданне было прычынай яго незвычайнай энергіі і спрыту. Хоць Матузка і не першы дзень на вайне, але неяк здаралася, што яму не давялося трапіць у бой: усё выпадаў рэзерв або марш ці другі эшалон. Толькі вось сёння, здаецца, будзе нешта сур'ёзнае.

Так, па загуменнях і агародах, Матузка амаль ужо мінаў вёску. Захоплены ўласным спрытам і жвавасцю, ён на час забыўся пра пагрозлівыя абставіны, таму зусім неча-

капа для яго ўгары заверашчэла нешта страшнае, і, страсянуўшы наваколле, грымнулі тры выбухі. Якраз у тым кірунку, куды трэба было бегчы, у адно імгнене знесла саламяную страху з хаты. У паветры мільганулі кроквы, шматкі саломы, кавалкі коміна, і ўсё знікла ў гушчары садоў, толькі воблака пылу ціха паплыло ў блакітнае неба.

«Міны»,— падумаў Матузка і здзівіўся, адчуўшы пад сваім целам цвёрдыя галінастыя сцяблы бульбоўніку. Падаць не меў ён намеру, а выйшла гэта неяк само сабой, неўпрыцям. Страшныя выбухі развеялі ўзнёслы настрой байца, але, каб не траціць часу і не напаткаць якой бяды, Матузка не стаў асабліва смуткаваць і яшчэ паскорыў бег.

* * *

Зрубленая з яловых вярхоў, счарнелая ад дыму і часу старэнькая лазня, у якой шмат гадоў мыліся людзі гэтай вёскі, набыла цяпер новае значэнне. Яна стала апорай непрыкрытага правага фланга, над якім навісла цяпер пагроза абыходу і які асабліва непакоіў лейтэнанта. Гэта было глухое месца наводшыбе, ля самага лесу. Вакол лазні густа і згодна лезлі ўгору і ўшыркі быльнёг, крапіва, дзядоўнік і іншая расліннае непатрэба, якой нямала развялося на спустошанай вайною зямлі.

Матузка абышоў лазню, але Галкіна нідзе не ўбачыў. Тады ён прыслухаўся і пачуў шамаценне галля: гэта кулямётчык маскіраваў свой акоп на ўзмежку пад лазовым кустом. Ён ужо акапаўся і цяпер старанна хаваў сляды свежай гліны, рассыпанай наўкола. Хлопец працаваў распрануты, у прапацелай бруднай майцы, а гімнасцёрка яго ляжала пад дыскамі побач з кулямётам на брустверы.

У паветры тым часам завылі новыя міны, і Матузка, не чакаючы запрашэння, скочыў у цесную ячэйку, якая ледзь змясціла дваіх. Трохі здзіўлены кулямётчык не вельмі прыязна агледзеў нечаканага пасланца. Гэта быў дужы і сур'ёзны хлопец, ненамнога старэйшы, але з выгляду куды мажнейшы за Матузку. Рысы яго твару вылучаліся той грубаватай буйнаватасцю, якая разам з некаторай панурасцю ў поглядзе рабіла яго старэйшым за свае, можа, і невялікія гады. А свежы кірпаты твар Матузкі, па пераноссі крануты рабаціннем, і тонкая постаць падлетка ўжо завельмі маладзілі яго. Такім чынам, розніца ў выглядзе двух байцоў, зведзеных вайсковым лёсам, была даволі прыкметная.

З хваляваннем выклаўшы загад лейтэнанта, Матузка чакаў, што Галкін паскардзіцца на цяжар новай задачы, аднак кулямётчык флегматычна заўважыў, гледзячы ўдалячынь:

— Вядома, не пушчаць, а то абыйдуць.

Матузка хоць і бачыў раней гэтага байца, але мала ведаў яго. Галкін служыў у кулямётным узводзе, трымаўся заўсёды сваіх хлопцаў і толькі ўчора быў перададзены стралкам для ўзмацнення галаўной паходнай заставы. Размаўляць жа ім давялося толькі першы раз, таму малады баец хацеў бліжэй пазнаёміцца са сваім часовым начальнікам.

Але Галкін маўчаў, і гэтая маўклівасць усё больш не падабалася Матузку. Ён пачаў здагадвацца, што кулямётчык сваёй негаварлівасцю хоча трымаць яго воддаль, маўкліва напамінаючы маладому салдату, што не час яшчэ ім раўняцца. І сапраўды, Галкін, які быў ад прыроды не лёгкі на слова, гэты раз і зусім не меў жадання пачынаць размовы. З раніцы яго дапякала незразумелая трывога.

Ён ведаў, што з правага боку няма больш нікога, усе сілы паходнай заставы згрупаваны на тым баку вёскі. Праўда, дагэтуль тут было спакойна, гітлераўцы паказаліся недзе на левым фланзе, спрабуючы, відаць, ударыць па дарозе, але хто ведае іх сапраўдныя намеры? На вайне трэба быць асабліва пільным, каб не даць ашукаць сябе, і Галкін, ладзячы пазіцыю, увесь час пазіраў у нізіну і прыкмячаў усё, што рабілася ў баку ворага.

Ад лазні на ўвесь прасцяг праглядалася нешырокая травяністая лагчына, якая падступала да вёскі. Справа, уздоўж лугавіны, цягнуўся па адхону ельнік, зараснікамі шырокага ўзлеску амаль даходзячы за ўпадзіны. Там, дзе палоска маладога алешніку заходзіць далёка ў нізіну, гітлераўцы могуць паспрабаваць прабрацца ў лес, каб абысці вёску з яе безабароннага боку. Кулямётчык ужо заўважыў у тым кірунку некалькі постацей, занятых невядома чым, і таму байцу было зусім не да размовы.

Прыціснуўшыся да халаднаватай сцяны акопа, Матузка таксама пачаў угледацца ў гэты небяспечны ўчастак. Вінтоўку ён паклаў на бруствер побач з кулямётам, але ў гэты час за вёскай затрашчалі рэдкія стрэлы, і баец падцягнуў яе да сябе. Галкін не зварухнуўся. Схіліўшы на бок галаву, ён прыслухоўваўся да гукаў бою і сіліўся зразумець па іх, што адбываецца ў вёсцы. На яго заклапочаным твары не шмат адбівалася думак, аднак ніводная

праява яго пачуцця не заставалася непрыкмечанай яго напарнікам.

Тым часам страляніна ў вёсцы мацнела, і міны пачалі рвацца часцей і бліжэй. Матузка ў акопе хоць і не вельмі баяўся, але, не ўмеючы яшчэ валодаць сабою, уздрыгваў пасля кожнага выбуху. Толькі ўпэўніўшыся, што міны не набліжаюцца больш да лазні, ён перастаў турбавацца. Хлопец з радасцю адзначыў гэтую перамену ў сабе і падумаў, што прывыкае.

Праз якую гадзіну бой за вёску пачаў сціхаць. Аўтаматы і вінтоўкі змоўклі, толькі кулямёты яшчэ пускалі доўгія чэргі па далёкіх цэлях. Відаць, першая атака гітлераўцам не ўдалася, і цяпер трэба было чакаць другой.

Трымаючы кулямётны прыклад ля пляча, Галкін не зводзіў вачэй з нізіны — і не дарма. Накапіўшыся ў раўчуку злева, гітлераўцы высыпалі ў нізіну і, выстройваючыся на хаду ў няроўны блытаны ланцуг, кінуліся да лесу. Галкін пачакаў, пакуль усе высыплюць на адкрытую мясцовасць, і пусціў доўгую чаргу.

Ад першых стрэлаў кулямёта Матузка ўздрыгнуў, мацней сціснуў сваю вінтоўку, але стрэліць не здолеў. У яго зашчымела ў грудзях, млосць разлілася па целе. Цяпер толькі ён адчуў і зразумеў упершыню, што вось пачалося тое, да чаго ён рыхтаваўся гэтулькі часу. Узрушанасць была моцная, яна хваляй уварвалася ў душу маладога салдата, але хутка і прайшла. Барацьба, у якую ўжо ўступіў юнак, патрабавала яго непасрэднага ўдзелу, не лічачыся з настроем, і Матузка зразумеў гэта. Прыклаўшыся да вінтоўкі, ён убачыў ля мушкі многа маленькіх фігур, якія паднімаліся, беглі і падалі. Побач страляў кулямёт, і неяк у такт яго стрэлам, ці мо' ў такт сэрцу, сціснутаму ў грудзях, ва ўсе бакі хадзіў ствол вінтоўкі, не даючы прыцэліцца. І ўсё ж Матузка выбраў момант, зацяў дыханне і стрэліў. Потым яшчэ і яшчэ...

Нечакана сустрэтыя кулямётным агнём з фланга, гітлераўцы спачатку кінуліся наперад, а потым прыцішылі бег. Многія з іх пападалі на лугавіну, іншыя, змяшаўшыся, пачалі бязладна бегчы назад у раўчук, адкуль толькі што выйшлі. Наўздагон ім Галкін апаражніў дыск і вылаяўся, не стрымаўшы злоснай радасці.

Матузка ўслед за кулямётчыкам з прыкметнай неахвотай пакінуў страляць і паклаў па бруствер вінтоўку. На яго твары ззяла такое шчырае захапленне першым поспе-

хам, што Галкін не ўтрымаўся ад усмешкі і, мімаволі паддаючыся настрою памочніка, амаль весела запытаў:

— Ну, як?

— Адбілі,— проста адказаў Матузка.

Кулямётчык выцер пілоткай узмакрэлы лоб і, нібы скінуўшы з плячэй які цяжар, зморана ўздыхнуў.

— Нічога, братка,— цёпла сказаў ён, адклікаючыся, відаць, на нейкія свае думкі.— Як-небудзь. Давай напоўнім дыскі.

Ён узяў з-пад ног рэчавы мяшок, наладаваны патронамі, і развязаў лямкі.

— Патронаў, здаецца, хопіць, а вось хлеба няма. Прыйдзецца патрываць пакуль што.

— У мяне ёсць крыху,— азваўся Матузка, узрадаваўшыся, што чым-небудзь можа ўслужыць старэйшаму таварышу.

— Давай тады заадно падмацуем і жываты, каб весялей жылося. Цябе як завуць?

— Мікалай,— паведаміў Матузка.

— А мяне — Змітрок.

Матузка выняў з кішэні загорнуты ў паперу кавалак усохлага хлеба, разламаў на дзве палові і большую аддаў таварышу. У гэты час ён быў перакананы, што Галкін зусім някепскі хлопец, з ім можна сябраваць, і пашкадаваў, што яны не пазнаёміліся раней. А Галкін, смачна хрумстаючы яблык з хлебам, піхаў у дыск патроны і думаў, што з маладога байца, пэўна, будзе толк.

Так яны паснедалі несамавітым харчам, павесялелі ў адносінах між сабой і, задаволеныя добрым пачаткам справы, мала думалі, што яшчэ іх чакае.

* * *

Апоўдні над вёскай і полем запанавала нудная пяпэўная цішыня. Прасторы, размораныя спёкай, ціха драмалі, адпачываючы ад шматгадзінных трывог барацьбы, ахапіўшай наваколле.

Галкін і Матузка ў дзве пары вачэй сачылі за лагчынай, каб у час заўважыць новыя спробы немцаў абысці вёску. Але ў нізіне і ў полі было зусім пуста. Ніводнай жывой істоты, ніводнага руху не назіралася ўдалечыні, толькі над чаротам, пэўна, на добрае надвор'е, дрыжала гарачае марыва.

Можна было меркаваць, што немцы кінулі намер ава-

лодаць вёскай і адышлі на іншы рубеж ці змянілі кірунак наступу. Аднак да хлопцаў ніхто не прыходзіў, і Галкін, як баец з вопытам, ведаў, што ў такіх выпадках трэба выконваць ранейшы загад.

Разам са спакоем прыйшлі і новыя клопаты. Пасля сухога снедання нясцерпна хацелася піць, а спёка яшчэ больш узмацняла смагу. Нейкі час хлопцы моўчкі змагаліся з ёю, але нарэшце Галкін не вытрымаў.

— Ты з кулямёта страляць умееш? — запытаў ён у таварыша.

— Ага.

— Тады папільнуй тут, а я пашукаю вады.

Ён дастаў з рэчавага мяшка пагнуты кацялок і павольнай хадою падаўся за лазню.

Застаўшыся гаспадаром у акопе, Матузка агледзеў дыскі, пацікавіўся, які прыцэл стаіць на калодцы і, паклаўшы палец на спуск, прымерыўся да кулямёта. Ён адчуваў сябе рашучым і моцным у гэты час, і на момант яго нават з'явілася жаданне, каб у лагчыне паказаліся немцы. Ужо ён даў бы ім перцу! Толькі да звароту Галкіна нічога не здарылася, Матузка ўволю напіўся смачнай сцюдзёнай вады, а рэшту паставіў пад куст, каб не грэлася на сонцы.

Сонца тым часам пасунулася ў небе і павярнула цень ад куста, які дагэтуль крыху хаваў іх. Стала вельмі горача, і Матузка, пазіраючы на рудыя плечы сябра, параіў:

— Ты б апрануўся, а то спячэшся.

Галкін паслухаў і, пераклаўшы дыскі на дзядоўнікаў ліст, апрануў заношаную і засаленую гімнасцёрку з двума медалямі «За адвагу».

Уладкаваўшы свае справы, хлопцы зноў сталі пільнаваць лагчыну.

Галкін, мала адпачыўшы ноччу і зმораны напружаннем раніцы, адразу пачаў дзёўбаць носам, стоячы за кулямётам. Не давяраючы яшчэ аднаму Матузку, ён імкнуўся назіраць сам, але ўваччу непрыкметна наплываў туман, галава марудна хілілася долу і павісала, амаль кранаючы зямлі. Тады кулямётчык усхопліваўся і як мага шырэй расплюшчваў пачырванелыя вочы, аднак праз хвіліну цішыня, зморанасць і спёка зноў бралі сваё. Матузка трымаўся болей бадзёра. Хоць і на яго дзейнічала нерухомасць і спакой у полі, але ён не думаў пра адпачынак. Наадварот, бачачы, як стаміўся таварыш, ён яшчэ пільней у соты раз аглядаў поле, якое вывучаў да апошняй драбніцы.

Так прайшло некалькі расцягненых бяздзейнасцю гадзін, і ў паўдзённай цішыні выспела нарыхтаваная ворагам бяда.

Спачатку ні Галкін, ні Матузка не звярнулі ўвагі па тое, што дзесьці за лесам нібы чмыхнула нешта раз і другі. Гукі гэтыя былі слабыя і амаль не нагадвалі стрэлаў. І тым не менш з-за лесу ўзяў пачатак і набліжаўся востры пранэзлівы віск. Матузка на нейкую секунду разгубіўся, а потым інстынктыўна ўцяў галаву ў плечы і прыціснуўся да бруствера. У гэты ж момант з аглушальным крэктам цяжка здрыганулася зямля, і блізкі выбух амаль болем аддаўся ў целе. Матузка ўчапіўся за Галкіна, а той, мігам адолеўшы сон, падаўся да кулямёта. Калі ж хлопец глянуў наперад, дык убачыў непадалёку ад акопа дзве свежыя чорныя варонкі, над якімі ў цішыні курылася сухая зямля.

Зрабілася надзвычай ціха, толькі ненадоўга. Зноў — тыя ж глухія гукі з-за лесу, і цераз паднябессе з пранэзлівым скрыгатам паляцелі міны. Галкін схапіў кулямёт і, тузануўшы Матузку, прысеў на дно ячэйкі. Магутныя выбухі ўскалыхнулі зямлю, апаліўшы алешнік на ўзлеску, якраз ззаду іхняга акопчыка.

— Эге, братка,— зірнуўшы са сховішча, сказаў кулямётчык.— Гэта па нас вілку ўзялі. Ну, цяпер трымайся!

І сапраўды, не паспелі хлопцы што-кольвечы падумаць, як зноў угары заверашчала ў шмат галасоў, і шумна ды жудасна панесліся на іх шэрыя цяжкіх, буйнакаліберных мін. Матузка адчуваў, як з кожным імгненнем, непадуладнае цяпер яму, напружвалася яго цела, а сэрца, пэўна, спынялася, ахопленае прадчуваннем пагібелі. Выбухі грымелі зусім побач і так моцна, што, здавалася, пад іх ударамі шчапалася зямля, на ўсю глыбіню працятая страшнай трацілавай сілай. Адзін гучней за другі, як лютыя перуны, білі яны знямеўшыя ў роспачы нетры, і грымотнае рэха калыхала лясныя абшары.

Так цягнулася, здаецца, вельмі доўга. З бруствера на спіны байцоў сыпалася зямля, пахла пылам і нейкім паленым смуродам, а яны, прыпаўшы да самага дна, ні разу не варухнуліся. Амаль фізічны боль працізваў істоту, і хоць не было ран, Матузка дрэнна адчуваў, жывы ён ці ўжо мёртвы.

Галкін чакаў, калі скончыцца агнявы шквал, ды чакаць давялося доўга. Калі ж выбухі крыху аддаліліся, ён, адчуўшы нядобрае, хуценька падняўся ў акопе і ўскрыкнуў.

Карыстаючыся агнявым прыкрыццем, цераз лагчыну ў лес бегла некалькі дзесяткаў ворагаў. Нярэднія дасягнулі ўжо сярэдзіны лужка, і баец схапіў кулямёт.

За таварышам падняўся з акопа і Матузка. Кусты па ўзмежку парадзелі, нібы скінулі лісце; лазня з выбітым вуглом і раскіданай сцяною павалілася на бок. У вёсцы нешта гарэла, і дым рудымі клубамі валіў угору. Травяністы дол наўкола быў перамешаны з зямлёю, а ад багатай расліннасці не засталося і следу.

Зноў трапіўшы пад флангавы агонь, гітлераўцы збянтэжыліся і заляглі. Злосна засакаталі ўдалечыні іх лёгкія кулямёты, і недзе побач у паветры пачулася нядобрае «ф'ю-ф'ю». Хлопцам аднак не было калі прыслухоўвацца да новай небяспекі: яны выконвалі загад. Галкін, упёршы прыклад у дужае плячо, разам з кулямётам троссяўсім целам. Ён баяўся прапусціць хоць бы адзін рух ворага і біў частымі кароткімі чэргамі. Побач, спяшаючыся і хвалюючыся, страляў Матузка, ад перажытага страху яшчэ дрэнна валодаючы сабой.

Гітлераўцы нарэшце зразумелі, што прабіцца ў лес, пакуль на фланзе дзейнічае кулямёт, ім не ўдасца. Відаць, уцямілі яны і тое, што сілы ля лазні невялікія, і кароткім імклівым ударам можна знішчыць дакучлівую перашкоду.

Там, у траве на лузе, яны перастроілі свой ланцуг і кароткімі перабежкамі пачалі пасоўвацца да лазні. Потны і брудны ад пылу Галкін толькі скрыгатаў зубамі: высокая някошаная трава добра хавала ляжачых салдат, а біць адзіночак, якія зрэдку перабягалі, было нязручна і трацілася шмат патронаў.

Злева, за вёскай, таксама разгарэўся моцны бой, там стрэлы і выбухі зліліся ў суцэльны гул, гітлераўцы адразу атакавалі на ўсім участку.

Некалькі хвілін Галкін страляў і страляў, а ворагі, не зважаючы на агонь, павольна, але ўпэўнена пасоўваліся наперад.

— Ах, сволачы! — крыкнуў хлопец, адарваўшыся ад кулямёта.— Паўзуць!

Ён вызначыў, што затрымаць ворага на адлегласці не ўдасца, а наблізіўшыся, гітлераўцы скарыстаюць хмызняк і блакіруюць кулямёт. На твары кулямётчыка адбілася злосць, і вочы заснавалі па прасцягу, шукаючы выйсця. Адчуўшы, што настаў рашучы момант, ён увесь ажывіўся, наліўся сілай і спрытам.

— Мікалай,— звярнуўся ён да таварыша.— Вось што, братка: бяры кулямёт і краем лесу шпар наперад. Як зраўняешся з іх флангам — лупяні збоку. Толькі нядоўга: дыскі са два. А я іх падражню адгэтуль.

Усхваляваны Матузка не вельмі разумеў аб новым павароце справы, але адчуваў небяспеку. Ды і выгляд таварыша сведчыў, што становішча сапраўды сур'ёзнае. Не кажучы ні слова, ён вылез з акопа і па ўзмежку, прыгінаючыся як мага ніжэй, падаўся да лесу.

Пасля акопа на паверхні баец адчуў сябе неяк зусім адкрытым і безабаронным. Кулі пасвісталі побач, падалі галінкі, падсечаныя іх кароткімі шалёнымі ўдарамі. Нядоўга было трапіць пад іх імклівы лёт, і ўжо наўрад ці давялося б падняцца. Страшна зрабілася хлопцу тут, па паверхні зямлі, воддаль ад выратавальнага акопчыка. Але трэба было рабіць сваю справу — бегчы наперад, каб у час памагчы Галкіну, які адзін зараз шчоўкае з яго вінтоўкі. І Матузка шыбаў праз альховы гушчар, не асцерагаючыся галля, што балюча сцябала яго.

Выглядаць з лесу, каб убачыць, дзе немцы, яму не спатрэбілася. Калі іх страляніна стала зусім побач, Матузка збочыў з гушчару і асцярожна высунуўся з-за маладой елкі на краі ўзлеску. Месца гэтае крыху ўзвышалася над лагчынай, і хлопец на момант сумеўся: ён выразна ўбачыў на роўнядзі крывы ланцуг гітлераўцаў, якія адзін за адным ускаквалі, беглі і падалі.

Матузка лёг у жорсткую папараць пад елкай і нарыхтаваў кулямёт. Пакуль ён даставаў дыск, зараджаў і ставіў прыцэл, прайшло няшмат часу, але менавіта тады настала рашучая хвіліна. Мінныя выбухі зноў затаўклі зямлю ля лазні; немец, што перабягаў апошні за ланцугом, закрычаў штосьці, усе пачалі падымацца і, страляючы з аўтаматаў, хуткім крокам кінуліся да вёскі. Здарылася так, што супраць Матузкі апынуўся гэты задні немец-камандзір, а ланцуг сваім флангам ужо мінуў тое месца, дзе прытаіўся кулямётчык. Малады баец моцна спалохаўся ад думкі, што спазніўся. Як-кольвечы ён прыцэліўся і націснуў спуск. Кулямёт, нібы знайшоўшы выхад злосці, рвануўся ў руках і задрыжаў буйнай сутаргавай ліхаманкай.

Калі б не так гучна грукацеў яго кулямёт, хлопец яшчэ раней пачуў бы новыя гукі, якія з'явіліся за гэты час. У тым баку вёскі, дзе адбівалася галаўная паходная застава, скрозь лютую страляніну пачуліся шматгалосыя крыкі. Адсюль нельга было ўчуць, было гэта «ўра» ці што іншае,

ды Матузка і не слухаў. Немцы зноў заляглі, і па ўзлессю пайшоў моцны трэск, сыпаліся галінкі з лістамі, нібы дзесяткі нябачных бізуноў у розных месцах сцябалі дрэвы. Аднак як ні прыціскаліся к долу залёгшыя ворагі, адсюль яны былі відаць кулямётчыку, і ён, змяніўшы дыск, зноў пусціў чаргу.

У той час аднекуль з варожага боку ўзляцела ў неба дымная ракета і, выцягнуўшы хвост, згасла над логам. Немцы тады шалёна ўскочылі і што было моцы кінуліся назад да свайго раўчука. Матузка задрыжаў увесь ад радасці і апусціў прыклад.

Нястрымная весялосць ахапіла кулямётчыка. Аглушаны выбухамі і стрэламі, ён на ўсё горла крычаў адно і тое ж зларадна-дурасліваe:

— Ага-а! Ага-а! Ага-а!

Праз некаторы час нямногія ўцалелыя ворагі зніклі ў раўчуку, а ў лагчыну высыпалі ротныя ланцугі падышоўшага батальёна. Матузка, раптоўна зрабіўшыся лёгкім і імклівым, узваліў на плячо гарачы яшчэ кулямёт і па-над узлескам пабег да вёскі.

Многа перагрывала яго душа за гэты дзень, але здабытая перамога хвалюючай радасцю засланіла цяпер усё самотнае. Як крыўдныя слёзы маленства, адразу забыліся нядаўнія страхі. Пачатак быў зроблены — цяжкі, але ўдалы пачатак. Хлопец паваяваў, і хоць не зусім ладна, але, бадай, і не дрэнна. Ён сам адчуваў гэта, быў рады, і радасць яго павялічвалася ўпэўненасцю, што Галкін задаволіцца яго ўмельствам і цяпер, бадай, пасябруе з ім. Што ж датычыць Матузкі, дык ён вельмі жадаў гэтага.

Макрэючы ад поту, хлопец імчаўся па ўгрэтай духмянай траве, радасць падганяла яго, і ён спяшаўся падзяліць яе са знойдзеным сёння баявым сябрам.

Яшчэ здалёк Матузка прыкмеціў ля лазні групу афіцэраў (ён пазнаў там камандзіра батальёна) і заўважыў, што яны глядзелі ў гэты бок, нібы чакалі каго. Хлопец пашукаў вачыма Галкіна, але не ўбачыў яго. Не было таго і ў акопчыку, які, пусты і непатрэбны цяпер, туліўся пад лазою. У кусце на ранейшым месцы стаяў кацялок з рэштай вады. Але чаму Змітрок не сустакае яго, няўжо ён стаў зусім абыякавы да свайго былога памочніка? Нешта трывожнае затрымцела ў хлапечым сэрцы, калі ён праладзіў хмызняк на ўзмежку і набліжаўся да камандзіраў.

— Вось ён, гэты кулямётчык,— сказаў камбат, звяртаючыся да незнаёмага, відаць, старэйшага афіцэра.

— Малайчына,— сказаў той.— Малайчына. Прадстаўце да ўзнагароды.

Матузка, аднак, чамусьці змаркатнеў і не адчуваў радасці ад пахвалы начальства: нейкая смутная трывога ўзнімалася ў ім. Сціпла стоячы перад афіцэрамі з узятым да нагі кулямётам, ён адказаў на іхнія пытанні і, адпушчаны, пайшоў памалу на выган да свайго ўзвода.

У вёску прыйшлі ўжо новыя людзі і з поўнай абыякавасцю да ўсяго, што адбылося тут, займаліся сваімі справамі. У дварах гаманілі галасы, стукалі колы па вуліцы; байцы нейкага гаспадарчага падраздзялення маскіравалі галлём нагружаныя вазы пад плотам. Абапал дарогі дагаралі хаты, і ўдушлівы едкі смурод пажарышчаў раздзіраў грудзі. У адным месцы з вуліцы Матузка пазнаў садок, ля якога бег раніцай, каб перадаць загад. Нейкая будыніна збоч саду згарэла дашчэнту, апаліўшы сваім полымем суседнія яблыні. Між імі ўбачыў баец і тую яблыньку ля сцежкі, з якой сарваў надоечы недаспелы яблык. Цяпер чорныя галіны яе маркотна цягнуліся над тынам і, здавалася, у смяротнай роспачы прасілі ратунку.

Пад прыдарожнымі вербамі на выгане сядзелі і гаманілі цяпер байцы былой паходнай заставы. З апошняй надзеяй Матузка пашукаў позіркам сябра і, не знайшоўшы, запытаў у Піліпчука, які курыў на абочыне, спусціўшы ногі ў канаву:

— А дзе Галкін?..

— Галкін? — здзівіўся вусаты Піліпчук.— Галкін забіты, хіба ты не ведаеш?

Нешта цяжкае і душнае навалілася на хлопца, зацяло дыханне, і ў вачах скрывілася дарога. Матузка апусціўся на пыльны ўскраек дарогі і абхапіў рукамі кулямёт. Знямоглае за дзень сонца паволі апускалася над лесам, дарога на насыпе, як хрыбціна шчупака, стракацела палосамі ценяў, кінутых вербамі...

Так баец сядзеў доўга і не чуў, што рабілася наўкола. Толькі калі падалі каманду строіцца і байцы выйшлі на дарогу, Матузка падняўся апошні і, падумаўшы крыху, стаў у галаву калоны, дзе ўчора крочыў Галкін і дзе звычайна становіліся ручныя кулямётчыкі.

*1956*

# СВАЯКІ

— Не! — сказала яна, стукнуўшы аб падлогу вілачнікам.— I не думайце!

Седзячы ля стала, яны пераглянуліся. Старэйшы — высокі, худы, па-юнацку нязграбны Алесь адразу нахмурыўся і зацяўся ў сабе, а на зусім яшчэ хлапечым пухлаватым твары пятнаццацігадовага Сёмкі мільганула нешта ўпартае і злоснае.

— Усё роўна пойдзем!

— Паспрабуйце! Паспрабуйце, ірады! Бач, удумалі! Смаркачы няшчасныя! Я вам пакажу партызанаў!

Гэта была пагроза, але ў ёй адчувалася не так сіла і ўпэўненасць, як бездапаможнасць, ад якой яна ўсхліпнула і з вілачнікам падскочыла да хлопцаў. Яны павінны былі б разбегчыся, як гэта рабілі заўжды дагэтуль, але цяпер нават не крануліся з месца, і гэта зусім раззлавала яе. Сёмка толькі ўзняў руку, яна выцяла яго некалькі разоў, не гледзячы куды, потым адзін раз — Алеся. Старэйшы прыняў яе ўдар з каменнай абыякавасцю на змрочным худым твары, нават не ўздрыгнуў, толькі мацней сцяў вусны, і яна зразумела, што ўсё гэта — дарма. Дарма ўвесь яе гнеў, яе лаянка, яе запазнелая спроба вярнуць сваю ўладу над хлопцамі. Роспач адразу падламіла яе і, кінуўшы вілачнік, яна выйшла ў сенцы.

Некалькі пакутных хвілін яна корчылася на сундуку ад бездапаможнасці і крыўды, не ў стане зразумець, чаму яны такія ўпартыя ў гэтым відавочным і пагібельным сваім намеры? Яна разумела і нават апраўдвала, калі на гэта ішлі дарослыя — акружэнцы і свае мужыкі, але што ў той калатнечы магло прывабіць падлеткаў, амаль што дзяцей? Што яны зробяць у лесе, апроч як па-дурному загінуць, як загінуў той, што тыдзень назад з ночы ляжаў да поўдня на аколіцы, застрэлены нямецкай засадай, такі маладзенькі, прыгожы дзяцюк, у акрываўленай вайсковай сарочцы. Так і яны будуць валяцца дзе-небудзь, і на іх будуць страхавіта глядзець незнаёмыя людзі, і п'яныя паліцаі будуць перакочваць іх сваімі падкутымі ботамі, а на іх босых нагах будуць апантана бегаць прагныя веснавыя мухі...

Не, ужо таму не быць! Хопіць таго, што без пары без часу склаў голаў бацька, а ў іх яшчэ, слава богу, ёсць маці, яна не можа дапусціць іхняй пагібелі. Ён пэўна, вядома,

хто падбіў іх на гэтую гібельную справу, яна знойдзе яго і не пакіне ніводнай валасіны ў ягонай фасоністай белай чупрыне.

З раптоўнай рашучасцю яна падхапілася з сундука, выбегла на падворак, але тут жа вярнулася, сюды-туды кінулася па сенцах, шукаючы якой падпоркі і, не знайшоўшы нічога зручнага, сарвала з крука карамысла. Ахопленая помслівым зларадствам яна туга падперла карамыслам дзверы ў хату і кінулася на вуліцу, на бягу трохі аправіла касынку і ўжо не выцірала слёз, якія ўсё яшчэ цяклі па яе шчоках.

Яна бегла па вуліцы, разганяючы пад платамі курэй, босымі нагамі ўзнімаючы ў доле пыл, і галаву яе распірала ад гнеўных, народжаных яе мацярынскаю крыўдай слоў. Яна скажа гэтаму Яхіму, што ён душагуб, ірад бязлітасны, яна дапытае, навошта яму спатрэбіліся гэтыя зялёныя хлапчукі? Калі ўжо ўдумаў, дык хай бы сабе і ішоў сам куды толькі яму захочацца — хоць у партызаны, хоць у паліцыю, ці самому д'яблу ў зубы, толькі без іх. Хай ён зараз жа аб'явіць ім, што нікога з сабой не возьме, інакш яна паламае на ягонай галаве ўсе чапельнікі, збэсціць яго на ўсю вёску.

Са злосці яна дужа штурхнула дзверы гэтай старэнькай пакаселай хаціны, не зачыняючы іх, ірванула за клямку другія — з хаты патыхнула прахалодай земляной падлогі і бязлюднаю цішынёй. Тады яна тузанула пасцілку ў запечны — з кучы цёмнага ашмоцця прыўзнялася белая галава старога Лукаша, ягоныя падслепаватыя вочы хваравіта заміргалі насустрач.

— Дзе завадатар ваш?

— Гэта Яхімка, ці што? А хто ж яго ведае. Хіба цяперака дзеці пытаюцца ў бацькоў...

— А ўночы ён спаў дома?

— Не ведаю я. Будта не чутно было.

Вядома ж, што мог сказаць ён, гэты амаль асляплы, забыты богам стары, мусіць, Яхіма не так проста было злавіць, яна адчула, што ўвесь запас яе гневу вось-вось мінецца без жаднай карысці і зноў не стрымала сябе. Праўда, слёз ужо не было, былі толькі ўдушлівыя камякі ў грудзях, і пакуль яна, прыпёршыся да печы, перасільвала іх, Лукаш цярпліва стагнаў у запечны, спакучаны ўласнай хваросцю.

І ўсё ж яна іх не аддасць, яны — яе дзеці, яна — для іх маці і не пагодзіцца на іх пагібель, хутчэй сама ляжа

трупам на гэтым іх вар'яцкім шляху, але засцеражэ іх ад смерці.

Яна ўвесь час амаль бегла — праз вёску, міма пунь, хлеўчыкаў, свіронкаў, з дзяцінства знаёмых хацінак, пасля — па выгане з маладой вясновай траўкай, уздоўж свежа і весела прыбранага першай веснавой зелянінай раўка. Як за апошнюю сваю магчымасць, яна ўчапілася цяпер за думку — прасіць Дразда, што жыў у суседняй цераз поле вёсцы. Праўда, ад зімы ён хадзіў паліцаем, з выгляду быў па-начальніцку важны і строгі, але яна ведала яго маці ды і яго ад самага дзяцінства, усё ж ён ёй дваюрадны пляменнік, не абы-хто чужы. Яна раскажа яму аб сваім горы, і ён павінен чымсь пасабіць, як мужчына, і галоўнае — свой чалавек. Хай ён іх напалохае, пасадзіць на колькі дзён у свіронак, хай нават нядоўга патрымае ў турме, але каб толькі не сышлі ў лес і на старасці не асірацілі яе.

Яна толькі баялася, каб Дрозд не паехаў куды, не быў заняты, не адмовіў і тым не адабраў у яе апошнюю магчымасць утрымаць іх. Але сонца апусцілася ўжо нізка, ма- рудна садзілася ўдалечыні за шырокую хмару над лесам,— у такую пару, ведала яна, служачыя ў мястэчку разыходзіліся з установ і займаліся сваімі справамі. Праўда, яна спахапілася, што нічога не ўзяла з сабой, усё ж трэба б прынесці які-небудзь гасцінец ды і бутэльку таксама. Але за ёю не прападзе, няхай толькі паможа.

Ён быў дома, яна адразу сцяміла гэта, як толькі збочыла з вуліцы ў вузенькі абсаджаны вішаннікам завулак да яго ладнай з трысценкам дамоўкі. З двух расчыненых вокнаў неслася гучная музыка, і за радам вазонаў на падаконніку варушылася нечае мужчынскае з пагонам плячо.

Яна яшчэ раз паправіла на галаве хусцінку, скарэлымі ад заўсягдашніх мазалёў рукамі крадком выцерла вочы і, як мага цішэй узышла на ганак. Дзверы ў хату былі расчынены, ён сядзеў на ўслоне і адразу павярнуў да яе насаты голены твар, на якім перш-наперш адзначылася здзіўленне.

— Што табе, цётка?

Тое, што ён назваў яе звыкла па-вясковаму цёткай, надало ёй смеласці, пад ягоным строгім, нібыта нават злаславатым позіркам яна ступіла па засцілцы ад парога і сказала:

— Прыйшла да цябе, Пятровіч, па дзелу.

Патэфон на канцы стала змоўк, хтось павярнуў у ім бліщчасты рычаг, і некалькі мужчын з насцярожанаю ўвагай уставіліся ў яе. Яна крыху збянтэжылася пад гэтымі поглядамі і не ведала, як ёй вытлумачыць сваю такую, здавалася, простую і зразумелую патрэбу. Недзе ў адчуванні яе на імгненне варухнулася прыкрасць, нават шкадаванне, што прыйшла сюды, але якога іншага выхаду на запас у яе не было.

— Ды я каб параіцца. Сыны ў мяне...

— Што сыны? Гавары канкрэтна.

Яна пакутліва шукала словы, каб як мага карацей і зразумела растлумачыць ім, што яе прывяло сюды.

— Ну гавары, гавары, не бойся. Тут усе свае.

— Сыны ў мяне... Нядобрае ўдумалі.

— Што, з бандытамі знюхаліся?

Яны ўсе разам нібыта страпянуліся за сталом, павярнуліся да яе, а Дрозд рашуча ўскочыў — рослы цяжкі мужчына ў споднян блакітнай майцы — і дошкі ў падлозе хістка зазыбаліся пад ім.

— Ну, гавары!

Яна, выразна разумеючы, што павінна адважыцца на самае галоўнае, дзеля чаго гатова была на ўсё, амаль узмалілася:

— Пятровіч, родненькі, толькі ж прашу, не зрабі ж ім благога. Ну, можа, напалохай іх, не карай толькі. Маладыя ж яшчэ, блазнота зусім, старэйшаму васемнаццаты пайшоў са ўздзвіжання. Хіба ж яны разумеюць...

— Ага! Так-так. Ну ясна. Дзе яны цяпер?

— Дома. Я ж запёрла іх.

— Запёрла? Маладзец, цётка. Хадзем!

Ён таропка нацягнуў на сябе свой паліцэйскі мундзір, сарваў са сцяны вінтоўку. Іншыя таксама вылезлі з-за стала, і ў хаце адразу зрабілася цесна. Яна адступіла, усярэдзіне ў яе нешта здрыганулася і апала, і пакуль Дрозд падпярэзваўся тоўстай вайсковай дзягай, яна, сашчапіўшы на грудзях рукі, прасіла:

— Пятровіч, сынок, толькі ж вы па-харошаму каб...

— Мы па-харошаму! Культурна! Барсук, прыхапі канец.

Яны выйшлі на двор і, каб было бліжэй, хутка пусціліся па мяжы ў поле. Сонца ўжо схавалася за хмарай, павясноваму голае шэрае поле тужліва азмрочылася, але яшчэ было відно і ціха.

Тут, на волі, на лепш разгледзела іх. Апроч Дразда,

не вытрымліваюць, ён падае, але боль не павялічваецца — чалавек жыве. Ён збірае ў сабе сілы крыкнуць, нясцерпна паміраць у гэтай нямой маўклівасці, але ў той час да яго слыху даносіцца мернае, вельмі лагоднае цвіркатанне вады. Ну вядома ж, так можа цвірчэць толькі вада! Валока ўжо бачыць у цемры яе зіхаватыя струмень і, адчуваючы, як пакідаюць яго рэшткі свядомасці, выдаўлівае з сябе стогн.

Наступным яго адчуваннем было далікатнае лагоднае казытанне на барадзе, на шыі; здавалася, нейкая жывая істота паўзла за каўнер, на грудзі, толькі на вуснах і ў роце стала лепш і нешта жалезна-цвёрдае дробненька стукала аб зубы. Валока расплюшчыў вочы — у зрок ударыла рассыпчатая яркасць іскраў; яны гойдаліся, скакалі па адным месцы ля самага яго твару, але не пяклі. Пасля ён сцяміў, што ўсё гэта адбівалася ў вадзе. Аднекуль здалёк да слыху даходзілі словы:

— Трынкен, Іван! Трынкен!

Ён глытаў доўга, многа, зубы ўсё ляскалі аб край нейкай пасудзіны, а ў свядомасці коратка і выразна бліснула ява — ён згадаў, дзе ён і хто з ім. «Немец! Фрыц!» На момант адарваўшыся ад вады, ён зірнуў угору,— над ім мільгала ў кулаку запальнічка і расплываўся ў нейкай недарэчнай ухмылцы страшны, тупы ад таго, што быў незвычайна падсветлены знізу, твар з вялікімі і валасатымі ноздрамі, брывастым ілбом, пад якім лыпалі выпуклыя жаўтлявыя бялкі вачэй. Вочы, аднак, таілі ў сабе лагоду і спагадлівасць, і гэта супакоіла байца.

— Трынкен, Іван. Трынкен...

Ён зноў апусціў галаў да пасудзіны; у глыбіні яе, у вадзе, гойдаўся агеньчык ад запальнічкі. Чамусьці Валоку зрабілася блага — ён хіснуўся ад вады, Фрыц штосьці сказаў, пабурчаў і прыбраў ваду ўбок.

Баец сцішыўся ў доле, так яму стала лягчэй — спякотны жар уняўся, толькі галава, плечы і нешта ў сярэдзіне тупа балелі. Ён зноў заплюшчыў вочы, аддаючыся спакою, і раптам прахапіўся ад думкі — дзе аўтамат? Чалавек ірвануўся з долу — немцавы рукі адразу прытрымалі яго, настойліва паклалі назад, і Валока ў нейкім раптоўным прасвятленні здзівіўся з самога сябе: было ад чаго палохацца, калі цяпер ён у поўнай уладзе гэтага немца. І ён адчуў нейкую сталую прыязнасць да яго, быццам яны знаёмы былі ўвесь век і цяпер сталі самыя найбліжэйшыя адзін аднаму і самыя патрэбныя. І таму — прэч усе пада-

зрэнні, засцярожлівасць, недавер! Усё, што стала над іх чалавечаю сутнасцю,— усё, наслоенае іх нацыянальнаю рознасцю, палітычнай варожасцю, вайной,— усё гэта, аддзеленае ад іх магільнаю тоўшчай руін, засталося там, наверсе, у беззваротным мінулым. Два гэтыя пажылыя, труднага лёсу працаўнікі былі тут людзі і толькі дбалі пра тое, як абодвум застацца жывымі дзеля іх сем'яў, мірнае справы, дзеля самых звычайных і незаменных чалавечых радасцей.

Валока памацаў рукой немцава калена побач і слаба паціснуў яго. Фрыц жыва адгукнуўся, падняў яго руку, таксама далікатна паціснуў яе ля локця і асцярожна паклаў на дол. Тлумачыць адзін аднаму нічога не трэба.

Пасля баец сціх і забыўся. Клопат яго знік, боль крыху прыціх, але нейкія ўнутраныя пакуты працягваліся. Невядома, ці гэта быў сон, ці трызненне хворага, толькі пакутныя здані і прывіды доўгі час не пакідалі яго.

Неяк ён убачыў сябе ў Брэслау, на гарадской ускраіне ў садку, дзе з тыдзень да наступлення перафарміроўваўся іх полк. І быццам яшчэ не было гэтага наступлення, але ўжо ўсё, што здарылася цяпер з ім, стала мінулым, і Валока не стараўся зразумець, чаму гэта так. І быццам быў жывы камбат Папрэнка, забіты яшчэ пад Оршай; ён выклікаў Валоку ў штаб, і баец з цяжкім сэрцам прыйшоў у бліндаж, хоць ведаў, што ў Брэслау штаб батальёна змяшчаўся ў ладным катэджы з балконамі, а не ў бліндажы. Але ў бліндажы чамусьці аказаўся не камбат Папрэнка, а капітан Воранаў. «Ну што, нямецкі шпіён?» Такім папрокам сустрэў ён Валоку, хапіў яго за плечы, здзёр пагоны, потым пачаў настаўляць пісталет у кружочкі медаляў на ягоных грудзях. «Немца хаваў? Ворага тытунём частаваў? Чаму не забіў?»

Валока вельмі хацеў вытлумачыць, што і як сталася з ім у гэтым склепе, але мову ў яго адняло і ён адчуваў, што зараз будзе пагібель. І сапраўды, Воранаў стрэліў, але болю Валока не адчуў, і тады здагадаўся: медалі. Медалі яго ўратавалі ад кулі. Але ў той жа час у Воранава замест пісталета апынулася супрацьтанкавае ружжо — гэта ўжо была пэўная смерць.

«Здраднік! Пракурыў Радзіму? Вышэйшую меру табе!» — гучалі страшныя словы, і Валока азірнуўся ў пошуках выйсця. Але раптам аказалася, што ззаду роўнае поле, Воранаў некуды знік, і ён, Валока, як у даўнія, даваенныя часы сядзіць у вясновы дзень на краі баразны,

паставіўшы босыя ногі на мяккі вільготны глей. Побач шнурком сядзяць калгаснікі, яго аднавяскоўцы, у барознах адпачываюць коні, а ззаду, па раллі, клюючы вялікіх белых чарвякоў, скачуць гракі. Усе кураць, жартуюць, снедаюць тым, што папрыносілі ім дзеці і жонкі, п'юць квас. Валоку таксама вельмі хочацца піць, але сняданка яму ніхто не нясе, бо яго дом чамусьці далёка адсюль. Ён адзін тут вайсковец, на ім салдацкія галіфэ і гімнасцёрка, толькі яна без дзягі, якая разам з аўтаматам і скаткай ляжыць воддаль на раллі, і на скатцы сядзіць вялікі, нейкі нерухомы чорны грак. Усе смяюцца і кураць, а Валока ведае, што яму ўжо сняданка не будзе, бо ён асуджаны да смяротнае кары, і што ўсё тое, што ляжыць пад гракам, ужо здадзена старшыні, які зняў яго і са сталавання.

Пасля таго коні, людзі і гракі знікаюць, толькі той, нерухавы, усё сядзіць на скатцы і крумкае. Аказваецца, гэта воран. Валока палохаецца настойлівай загадкавай птушкі, прабуе ўскочыць, тузаецца і ачынаецца.

## 6

За пакутную ноч памутнела яго свядомасць, і Валока не адразу ўцяміў, дзе ён і што з ім сталася.

Перш-наперш яго здзівіла блізкая, устрывожаная страляніна. Недзе таропка патрэсквалі аўтаматныя чэргі, бахалі вінтоўкі. Аднойчы нават данёсся крык, але Валока не зразумеў, у якім баку ён раздаўся. Перамагаючы саплівую аслабеласць, баец расплюшчыў вочы.

У склепе было светлавата. Па-над сцяной, дзе яны выдзіралі зломак, ляжала новая куча друзу,— відаць, тая, што абрынулася на яго,— і над ёю яркім дзённым святлом бліпчала дзірка. Валоку адразу скаланула радаснае імкненне, ён тузануўся ў доле, сеў, але боль у галаве прымусіў яго пакутна схіліцца набок.

Як-колечы ён, аднак, утрымаўся, перамог слабасць, трошкі аддыхаўся і паварушыў у ботах адубелыя ад сцюжы ногі. Пасля ён усё ж сеў і паволі падняў галаву, абкручаную нейкай анучай, шкумат якой звісаў каля вуха. Валока асцярожна памацаў гэты скрываўлены цюрбан і тады, ураз прыпамятаўшы, што з ім сталася, з удзячнасцю падумаў пра немца.

Фрыц Хагеман сядзеў побач, прысланіўшыся спіной да пагнутае бэлькі, і спаў. Галава яго звесілася на плячо,

валасы растрапаліся, ніжняя губа адтапырылася. Шчаціне на яго шчоках за ноч пабольшала, і ўвесь ён выглядаў вельмі стомленым, пажылым чалавекам. Ля яго ног стаяла каска з рэштаю вады. Валока адразу памкнуўся за ёю, але, узяўшы ў рукі, зноў апусціў на зямлю. Вада дужа смярдзела потам, і байца ледзь не зблажыла. Гэта была нямецкая салдацкая каска, сотні якіх валяліся на месцах баёў; хлопцы іх заўжды адкідвалі з-пад ног ботамі,— тым больш што траплялiся адкрываўленыя, прастрэленыя, усякія. Каска адразу напомніла байцу пра варожае і агіднае.

Валока паморшчыўся, зноў прыслухаўся і агледзеўся. У куце за прыступкамі, на закіданай друзам падлозе, цямнела вільготная пляма, і чуваць было, як мерна капае недзе вада: кап-кап-кап. З трубы, пэўна, падумаў Валока, і зноў паглядзеў на немца. Відаць, прытаміўшыся за ноч, той моцна спаў, і баец стаў напружана думаць у цішы, што яму рабіць далей.

Трэба вылазіць. Здаецца, ён здолеў бы сам як-небудзь выкараскацца адсюль — дзірка ёсць,— што яму цяпер немец! Хай спіць, а прачнецца — хай сам дбае; без яго Валоку спакайней, ды і бяды менш будзе. Толькі... Толькі хто там, наверсе? Страляніна, здавалася, яшчэ болей пашырылася — чутна стала і ў адным баку, і ў другім, раз за разам непадалёк гахнулі тры выбухі. Хто гэта? Нашы? А калі немцы? Калі немцы — яму будзе кепска з яго праламанаю галавой, а калі нашы — пападзе немцу. Нарвецца на якога аўтаматчыка, не паспее і рук падняць, як той прашые яго чаргой. Хлопцы ёсць бязлітасныя, у многіх свежыя раны ў сэрцы — усё можа стацца.

Не, прыйдзецца, відаць, разам — здаць Фрыца ў палон, і на душы будзе спакайней.

Так разважаючы, Валока сядзеў каля немца і азіраў таго, соннага, без асаблівай варожасці да яго і без вялікай прыязнасці. У начы было інакш — ён бачыў толькі яго асветлены запальнічкаю, звычайны, як і ва ўсіх, чалавечы твар,— а цяпер перад ім сядзеў немец у прапыленым, з адарваным пагонам мундзіры, у нізкіх скураных ботах, побач валялася ягоная каска з арлом на баку, не хапала толькі нямецкага аўтамата. Валокаў ППШ ляжаў зводдаль, і баец па салдацкай звычцы пацягнуўся да яго рукой, зачапіў за почапку і павалок да сябе. Магазін заскрыгаў па жарсцвянаму долу, і немец, раптам абарваўшы мернае роўнае дыханне, прачнуўся.

Спачатку ён таксама, відаць, збянтэжыўся, залыпаў

вачмі, а затым, пазнаўшы байца, усміхнуўся і трохі здзіўлена азваўся:

— О, Іван, лебенд? Гут, гут.

Заўважыўшы, што Валока прыбраў сабе аўтамат, ён заклапочана варухнуў бровамі. У вачах адбіўся кароценькі неспакой, але ён зараз жа падавіў яго і зноў бадзёра, стараючыся як мага выразна вымаўляць кожнае слова, сказаў:

— Можна ідзі. Туда ідзі. Дзверы туда іх махен...

— Дзверы?

Валока хацеў усміхнуцца, але ў галаве ўраз балюча кальнула, і твар яго зморшчыўся ў пакутнай грымасе.

— Болна?

— Ладна,— паморшчыўся баец.— Жывы будзем — не памром.

Ён не хацеў паказваць немцу свае слабасці — крый божа, не застагнаць — і, дапамагаючы сабе рукамі, устаў на ногі. У галаве адразу закалола, перад вачмі расплыліся рудыя кругі. Ён асцярожна і з вялікай натугай выпрастаўся, але не прастагнаў, стрымаўся. Трошкі пастаяўшы так, аслабела ступіў па друзе да дзіркі ў куце. Фрыц хацеў падтрымаць яго, але Валока ўпарта адняў руку.

Кульгаючы, немец падаўся туды таксама, першы далез да дзіркі і зазірнуў угору; за ім узабраўся на друз і Валока. Яму балюча было закідваць галаў, і баец не змог паглядзець угору. У той час недзе паблізу пратрашчала чарга, другая, пачуліся галасы — нехта крыкнуў, пасля там, наверсе, загаварылі не ціха і не гучна, але так, што слоў разабраць было нельга. Валока сцяў сківіцы; немец, паўразявіўшы рот, з абвостраным неспакоем у шэрых вачах паглядзеў на байца. Яны нічога не сказалі адзін аднаму і на нейкі час замерлі пад тою праломінай. Зноў трывожнае, як подых пагібелі, пытанне «хто?» секанула па іх свядомасці.

Але гамонка наверсе спынілася — можа, людзі адбегліся, а можа, замоўклі,— яшчэ праз хвіліну аднекуль здалёк данесліся доўгія кулямётныя чэргі. Нешта там адбывалася. З пачаткам новага дня ўсчыналіся новыя схваткі, і Валоку ахапіў неспакой.

— Трэба лезці. Туды, наверх,— паказаў ён немцу. Фрыц зразумеў, коратка пацвердзіў:

— Я-я,— і, пакульгваючы, замітусіўся, шукаючы, што б падкласці, каб зручней было дабрацца да дзіркі. З некалькіх кавалкаў бетону ён склаў невысокі падмостак,

прымерыўся — трохі было нізка, тады ён скульгікаў уніз, прынёс каску і паклаў яе наверх. Так можна было ўхапіцца за край праломіны.

Ён і сапраўды ўхапіўся і нават, прыўзняўшыся на руках, выглянуў, але ў нерашучасці апусціўся зноў. Зноў на імгненне сустрэліся іх вельмі сур'ёзныя позіркі, але ніводзін нічога не сказаў другому — абодва толькі слухалі, як прастор наверсе калацілі стрэлы, і стараліся як-небудзь угадаць, хто там. Толькі ўгадаць не было як.

Тады немец нахмурыўся, рашуча напяўся, скочыў, высіліўшыся на руках, упёрся здаровым каленам у край і апынуўся наверсе.

Некалькі секунд ён стаяў там, азіраючыся, а знізу на яго напружана глядзеў Валока. Баец з натугай трымаўся на нагах, у вачах хісталася наваколле, але цяпер — адчуваў ён — рашалася найбольшае, і ён з першай жа секунды не хацеў прапусціць яго. У Валокавай душы раптам узнялося нешта крыўдліва-пакутнае, нейкае адчуванне сваёй аслабеласці, падумалася нават,— немец падасца адсюль, і ён застанецца адзін у гэтай яме. Валока адчуваў у сабе ўжо выразны зачатак прыхільнасці да гэтага незвычайнага ворага — цяпер ён быў яму гэтак патрэбны, як бывае патрэбны ў бядзе таварыш.

Толькі немец нікуды не бег. Ён пераступіў ботамі ля самае дзіркі, агледзеўся, з-пад абцасаў шархотка пасыпаўся ў склеп пясок, і затым з дзіркі ледзь не па локаць высунулася яго рука.

— Іван, шнэль! Быстра!..

Валока ўзлез на падмостак, падняў насустрач руку, але немец незадаволена пераступіў, махнуў кісцю — спярша ён збіраўся пераняць аўтамат. Баец зняў ППШ з пляча, бяздумна сунуў яму і раптам спалохаўся. Аўтамат апынуўся ў немца, і Валоку — кароценька, на імгненне — здалося: абхітрыў! Аднак немец не збіраўся ў яго страляць, а з салдацкай беражлівасцю да зброі паклаў ППШ на дол і працягнуў у дзірку абедзве рукі.

Напяўшыся, Валока даў свае, немец моцна ашчаперыў іх, пацягнуў, баец упёрся ботам у сцяну, да болю сцяў сківіцы, каб не застагнаць, і бокам пераваліўся цераз край праломіны.

Так абодва яны апынуліся наверсе ў руінах вялізнага дома, канец якога, задраўшы ў неба ўцалелую тарцовую сцяну, стаяў, нібы агромністы помнік разбурэнням вайны. На сцяне другога ці трэцяга паверха коса вісела карціна

ў пазалочанай раме, неяк трымаўся яшчэ пасечаны асколкамі габеленчык з ласямі; зачапіўшыся за нешта, тырчаў дагары нагамі ложак з металічнаю сеткай. У выбітым, недарэчным цяпер на выгляд, акне варушылася на ветры фіранка. Ад вуліцы гэтае месца адгароджвала другая сцяна, якая рухнула ўнутр дома і вялізнаю плахай касабочылася ўгору з-пад самых іх ног. Там, недзе за вуліцай, у праяснелым ужо ранішнім небе ціха краталіся верхавіны ліп, у скверы ля якога ўчора хаваўся ад бомбаў Валока.

Яны трошкі аддыхаліся, услухаліся: зноў стала выразна чуваць, як блізка на вуліцы, страляючы, беглі людзі. Данесліся і крыкі, толькі Валока не разабраў слоў, а немец, раптам устрапянуўшыся і размахваючы рукамі, кінуўся па друзе ўгору. Аднак бегчы ў ламаччы было не дужа зручна, ды ён яшчэ і кульгаў, але ўсё ж далёка адарваўся ад байца, які, ледзьве перастаўляючы ногі ў грудах цэглы, брыў следам. Фрыц першы дабраўся да таго месца, адкуль можна было саскочыць на вуліцу, выпрастаўся ўсёй сваёю паджарай постаццю на фоне нябеснае яснасці, і тады Валока вельмі выразна і непапраўна, як смерць, пачуў узрадаваныя галасы ворагаў:

— Хагеман! Хагеман! Ком! Ком! Хагеман!

Валока чакаў іх, увесь ранак быў гатовы на горшае, і ўсё ж у гэтую хвіліну яны абрынуліся на байца нespадзявана. Ён асеў у дол, а Фрыц, крутнуўшыся да яго на цагляным абрыве, з радасцю на раптоўна ажыўленым твары крыкнуў:

— Іван! Іван! Ком!

І памкнуўся скочыць, каб бегчы туды, куды звалі яго таварышы.

— Стой! — не так гучна, але з няскоранай рашучасцю прамовіў Валока.— Стой!

На момант на немцавым твары мільганула разгубленасць, нават боль, а можа спалох, затым ён узмахнуў у паветры рукамі і знік па той бок руін.

Валока таксама на момант быццам самлеў, разгубіўшыся ад такой нечаканасці, а затым, не зважаючы на сваю знямогу, прыпадаючы на рукі, бягом кінуўся наверх, туды, дзе знік Фрыц.

Хагеман далёка не адбег, вуліца таксама скрозь была завалена рэшткамі дамоў, і ён пералазіў цераз цагляныя глыбы якраз пад тым месцам, дзе з'явіўся Валока. Насупраць, па-над чыгуннай агароджай скверыка, адстрэльваючыся і прыгінаючыся, беглі немцы.

— Стой! — крыкнуў Валока, убачыўшы яго.— Фрыц! Стой!

Немец аж скалануўся ад яго голасу, прыўзняў галаву — твар яго, здалося Валоку, зморшчыўся, нібы ад болю. І немец на момант спыніўся, зірнуў на байца, затым — па скверык, дзе немцы — усе, колькі іх было,— прымарудзілі хаду, некаторыя выпрасталіся, здзіўлена ўгледзеліся ў іх двух. Але гэта толькі на імгненне. Зараз жа там загаварылі, і зычны камандзірскі голас, як бізуном, ляснуў па руінах:

— Хагеман, ком! Шыссен!

Фрыц кульнуўся цераз глыбу, што перагароджвала яго шлях да сваіх, а Валока, адчуўшы, што зараз усё скончыцца, але ўжо не думаючы пра сябе, а толькі з усяе свае ўпартасці не жадаючы аддаць ворагам гэтага чалавека, стрыкнуў па-над ім чаргою. Кулі з пералётам і недалётам, у розных месцах абсыпалі навокал яго руіны.

Тады немец яшчэ раз ускочыў, крутнуўся, зірнуў угору на Валоку — у яго вачах адбіўся ўжо страх і азвярэлая лютасць чалавека, у якога не было выйсця. Баец, сцяўшыся, упаў між ламачча, не зводзячы з немца позірку, і ўбачыў, як той ліхаманкавым рухам выхапіў нешта з кішэні, ірвануў другою рукой і, коратка размахнуўшыся, шпурнуў у яго. Яно, гэта невялікае і імклівае, чорнаю птушкай мільганула ў ранішнім небе і, не даляцеўшы да Валокі, гулка-коратка шчоўкнула.

«Граната!» — чамусьці са спазненнем бліснула здагадка, і Валока, адчуўшы канец і не маючы ні сілы, ні якое магчымасці ўратавацца, ірвануў да пляча аўтамат.

Чаргі ён, невядома, чаму, не пачуў, у нейкую долю секунды згледзеў толькі, як апруцянела хіснуўся Фрыц Хагеман, і ў той жа час вышэй ад Валокі, ударыўшыся ў прасценак, аглушальна рванула граната. Гарачы імпэтны ўдар сцебануў яго па плячы, і зараз жа ўсё патанула ў пыле, які ўдушлівым воблакам накрыў байца.

Пыл яго і выратаваў.

Валока адчуў, як немцы ўдарылі з аўтаматаў, некалькі куль раскрышыла цагліны побач, але ён, прыгнуўшыся, з раптоўным спрытам ірвануўся назад, упаў, ускочыў зноў, перакаціўся цераз вялікі зломак, аббег глыбокую варонку, з якой яны толькі што вылезлі, і, запаволіўшы хаду, выбраўся з руін на закіданы друзам падворак. Па дарожцы, вымашчанай бетоннымі пліткамі, дабег да шпурка нейкай калючай загарадзі, прадраўся праз яе гушчар і,

падлезшы пад прадраную драцяную сетку, апынуўся ў нейкім вузенькім незнаёмым правулку.

Яго адразу ледзьве не збілі з ног хлопцы-аўтаматчыкі. Гучна ляскаючы падэшвамі, яны шалёна беглі некуды,— мабыць, напярэймы тым немцам, што адступалі ля сквера. Задні страхавіта зірнуў на яго скрываўленую галаву, але змоўчаў, не сказаў нічога. Ён быў знаёмы, гэты хлапец з рабацінкамі на пераноссі і яснымі насцярожанымі вачмі, але Валока не здолеў прыпамятаць, дзе ён бачыў яго, і адчуў, як забалела параненае плячо.

Правулак быў вузенькі і зусім пусты. Валока паглядзеў у адзін канец яго, у другі і, сцяўшы пад пагонам рассечанае асколкам плячо, хістаючыся, пайшоў туды, адкуль беглі аўтаматчыкі. Угары, у ясным вясновым небе, бахала, сіпела, калацілася гулкае рэха бойкі.

«Што ж гэта? Як жа гэта?» — толькі цяпер акрэслілася ў яго галаве яшчэ няўцямная думка-здзіўленне. Узрушаны і змардаваны, ён нечага ніяк не мог спяміць ці, можа, не мог чагосьці ўспомніць — разгарачаным нутром ён толькі адчуваў, што сталася вялікая, яшчэ не ўсвядомленая да канца несправядлівасць, перад магутнаю сілай якой і ён, і Фрыц Хагеман былі бездапаможнымі. І яму было вельмі пакутна ад таго і хацелася завыць ад крыўды, якая ашчаперыла і душыла яго.

*1961*

# ЭСТАФЕТА

Ён упаў на забаранаваную мякаць агароднай зямлі, не дабегшы якіх дзесяці крокаў да пасечанага асколкамі белага доміка з разбураным чарапічным дахам — іхняга ўчарашняга арыенціра тры.

Перад тым ён, рвучы гімнасцёрку, прабраўся праз калючы гушчар жывой загарадзі, у якой з самага ранку гэтага пагоднага красавіцкага дня гулі, варушыліся пчолы, і, акінуўшы хуткім позіркам рэдкі ланцужок постацей, што па свежа апрацаваных агародах беглі да ўскраінных домікаў, замахаў рукамі і праз стрэлы і выбухі крыкнуў:

— Прыняць улева, на кірху!!!

Пасля прыгнуўся, нейк баднуў галавой у зухавата прыткнутай пілотцы і, выпусціўшы пісталет, тыцнуўся тварам у цёплую мякаць зямлі.

Сержант Лемяшэнка ў той час, размахваючы аўтаматам, зморана трухаў уздоўж калючай, дбайна падстрыжанай зялёнай сцяны і ледзьве не наскочыў на свайго нечакана распластанага ўзводнага. Спярша ён здзівіўся, што той гэтак недарэчна спатыкнуўся, нейкая няяснасць кораценька мільганула ў свядомасці, але затым усё стала на свае месца. Лейтэнант назаўжды застыў, убіўшыся русавалосай галавой у пульхную зямлю, падкурчыўшы пад сябе калена левай нагі, выцягнуўшы правую, і некалькі пчол патрывожана мітусіліся над яго нерухомай прапацелай спіною.

Лемяшэнка не спыніўся, толькі нервова перасмыкнуў вуснамі і, пераняўшы каманду, закрычаў праз грукат бою:

— Узвод, прыняць лявей! На кірху! Гэй, на кірху!!!

Узвода аднак ён не бачыў — два дзесяткі аўтаматчыкаў ужо дасягнулі агароджаў, садкоў, будынкаў і прапалі ў грукаце бою, які ўваходзіў у самую сілу. Справа ад сержанта на суседнім панадворку мільгануў за штыкетнікам шэры твар кулямётчыка Натужнага, недзе за ім паказаўся і знік малады бялявы Тарасаў. Астатніх байцоў яго аддзялення таксама не было відаць, але па тым, як час ад часу патрэсквалі іх аўтаматы, Лемяшэнка адчуваў, што яны недзе побач.

Трымаючы напагатове свой ППШ, сержант абабег домік, запыленымі ботамі трушчачы шкло і паскіданую з даху чарапіцу. У ім усё тлеў невыразны, так і не праяснены смутак аб забітым узводным, у якога, бы эстафету, пад-

хапіў ён чарговы клопат — павярнуць узвод фронтам да кірхі. Лемяшэнка не дужа разумеў, навошта гэта было, але апошні загад камандзіра набыў ужо сілу і вёў яго новым кірункам.

Ад доміка па вузенькай дарожцы, выкладзенай бетоннымі пліткамі, ён дабег да весніц. За шчыкетнай загарадкай цягнуўся нешырокі завулак. Сержант зірнуў у адзін бок, у другі. Дзе-кольвечы сюды выбягалі з панадворкаў байцы і таксама азіраліся. Вунь і яго Ахметаў — выскачыў ля трансфарматарнай будкі, азірнуўся і, згледзеўшы аддзялённага, сярэдзінай вуліцы пашыбаваў да яго. Недзе між садкоў, шэрых катэджаў і домікаў з лютым крэктам разарвалася міна, побач на крутым даху, збітая асколкамі, зрушылася і пасыпалася ўніз чарапіца.

— Улева давай! На кірху!!! — крыкнуў сержант і сам пабег па-над драцяной агароджай, шукаючы дзе якога праходу. Наперадзе з-за кучаравай зеляніны недалёкіх дрэў сінім шпілем тырчала ў неба кірха — новы арыенцір іхняга наступлення.

Тым часам у завулак адзін за адным высыпалі аўтаматчыкі; з'явіўся ззаду нізенькі, камлюкаваты, з крывымі ў абмотках нагамі кулямётчык Натужны, за ім — навічок масквіч Тарасаў, які з самага ранку не адставаў ад спрактыкаванага старога байца; з нейкага двара лез цераз загародзь маруда Бабіч у перакручанай на галаве зімовай шапцы. «Не мог знайсці якога праходу, торба»,— вылаяўся ў думках сержант, убачыўшы, як той спачатку перакінуў цераз плот свой аўтамат, а пасля нязграбна пераваліў на вуліцу няўклюднае медзведзяватае цела.

— Сюды, сюды давай! — махнуў ён, злуючы ад таго, што Бабіч, падняўшы аўтамат, пачаў атрэпваць свае запэцканыя калені.— Хутчэй!

Аўтаматчыкі, нарэшце, зразумелі каманду і, знаходзячы праходы, знікалі ў весніцах, між дамоў, за будынкамі. Лемяшэнка натрапіў на расчыненыя вароты і ўбег у даволі шырокі заасфальтаваны двор, на якім размясцілася нейкая нізкая шэрая будыніна, відаць, гараж. Следам за сержантам убеглі сюды яго падначаленыя — Ахметаў, Натужны, Тарасаў, апошні трухаў Бабіч.

— Лейтэнанта забіла,— кінуў ім сержант, выглядаючы які-небудзь праход.— Ля белага доміка.

У той час аднекуль зверху і зблізку прагрукацела чарга, і кулі, пакідаючы на асфальце свежыя ямкі і зрыкашэціўшы, імгненна разляцеліся ў бакі. Лемяшэнка кінуўся

пад схованы глухой бетоннай сцяны, што агароджвала двор, за ім — астатнія, толькі Ахметаў спатыкнуўся, ухапіўся за біклагу ля пояса, з якой у два струмені нешта лілося.

— Сабакі! Куды ўцэлілі, гітлерчукі праклятыя...

— З кірхі,— сказаў Натужны, узіраючыся праз голле дрэў у бок шпіля. Яго невясёлы, пансуты воспаю твар агарнуўся клопатам.

За гаражом знайшліся веснічы з завязанай дротам клямкай. Сержант выняў фінку і за два ўзмахі перарэзаў дрот. Яны штурханулі старыя дзверы і апынуліся пад разложыстымі галіністымі вязамі старога парку, але тут жа нападалі. Лемяшэнка разануў з аўтамата, за ім ударылі чэргамі Ахметаў і Тарасаў — між чорных жылістых камлёў беглі ўрассыпную зялёныя паджарыя постаці ворагаў. Непадалёку за дрэвамі праглядваў шырокі прастор нейкай плошчы, і за ім высілася ўжо нічым не затуленая кірха. Там бегалі і стралялі немцы.

Неўзабаве аднак ворагі заўважылі і іх, і першая кулямётная чарга пырснула жарствой з бетоннай сцяны, абцярушыла парэпаную кару вязаў. Трэба было бегчы далей, да плошчы і кірхі, уссеўшы на ворага, не злазіць з яго карку, не даць яму апамятацца, але іх было мала. Сержант паглядзеў у бакі — болей пакуль ніхто не прабраўся яшчэ да гэтага парку: чортавы панадворкі і загарадзі сваімі лабірынтамі трымалі людзей.

Кулямёты смалілі па сцяне, па шыфернаму даху гаража, байцы распласталіся на драбнюткай далікатнай вясновай траўцы і тыркалі кароткімі аўтаматнымі чэргамі. Натужны выпусціў з паўдыска і сціх — страляць не было куды, немцы пахаваліся ўжо ля кірхі, а іх агонь з кожнай хвілінай гусцеў.

Ахметаў, лежачы побач, толькі соп, злосна раздзімаючы тонкія ноздры, і паглядваў на сержанта. «Ну, а што далей?» — пытаў гэты позірк, і Лемяшэнка ведаў, што і іншыя таксама пазіралі на яго, чакалі яго каманды, але скамандаваць што-небудзь было не дужа проста.

— А Бабіч дзе?

Іх было чацвёра з сержантам — злева Натужны, справа — Ахметаў з Тарасавым, а Бабіч так і не выбег з двара. Сержант хацеў загадаць каму паглядзець, што здарылася з гэтым мешкаватым байцом, але ў той час злева між дрэў замільгалі постаці аўтаматчыкаў іхняга ўзвода — яны сыпанулі аднекуль даволі густа і згодна ўдарылі з аўтаматаў па плошчы. Лемяшэнка не падумаў нават, а болей ад-

чуў, што час падавацца далей, да кірхі, і, махнуўшы рукой, каб звярнуць на сябе ўвагу тых, злева, рвануўся наперад. Крокаў праз некалькі пад камлём вяза ён упаў, даў дзве кароткія чаргі. Нехта глуха чмякнуўся побач, сержант не ўбачыў яго, але па нечым няўлоўным адчуў, што гэта Натужны. Затым ён ускочыў і яшчэ сігануў некалькі шырокіх крокаў. Злева не сціхалі чэргі — гэта пасоўваліся ў глыб парку яго аўтаматчыкі.

«Хутчэй, хутчэй»,— у такт зморанаму сэрцу стукала ў галаве думка. Не даць апамятацца, наскочыць, разагнаць, бо калі немцы паспеюць агледзецца і ўбачаць, што аўтаматчыкаў не шмат, тады будзе бяда, тады яны тут завязнуць...

Яшчэ прабегшы некалькі паспешлівых крокаў, ён упаў на старанна падграбены, прапахлы прэласцю дол; вязы ўжо засталіся ззаду, побач сціпла жаўцелі першыя веснавыя кветкі. Парк скончыўся, далей за зялёнай драцяною сеткай раскінулася блішчастая ад сонца плошча, вымашчаная дробнымі квадратамі шызай брусчаткі. У канцы плошчы ля кірхі мітусіліся прыгнутыя постаці немцаў у касках.

«Дзе ж гэты Бабіч?» — чамусьці ўсё назаляла думка, хоць з'явіўся цяпер большы клопат: трэба было неяк атакаваць кірху цераз плошчу, а гэтая справа здавалася яму нялёгкай.

Аўтаматчыкі, не дужа зладжана страляючы, выбягалі з-за дрэў і залягалі пад агароджай. Далей бегчы не было як, і сержанта дужа занепакоіла, як выбрацца з гэтага аблытанага дротам парку. Урэшце яго бытцам нешта асвятліла знутры — ён выхапіў з кішэні гранату і павярнуўся, каб крыкнуць іншым. Але што крычаць у гэтым грукаце! Адзінай магчымай камандай тут быў уласны прыклад, надзейны камандзірскі загад: рабі, як я. Лемяшэнка вырваў з запала чаку і шпурнуў гранату пад сетку агароджы.

Дзірка атрымалася невялікая і няроўная. Разадраўшы на плячы гімнасцёрку, сержант праціснуўся праз сетку, азірнуўся — следам, прыгнуўшыся, бег Ахметаў, ускакваў з кулямётам Натужны; побач грымнулі яшчэ разрывы гранат. Тады ён, ужо не азіраючыся болей, што было сілы рынуўся наперад, ляскаючы гумовымі падэшвамі па слізкай брусчатцы плошчы.

І раптам здарылася нешта незразумелае. Плошча хіснулася, збочыла, адным краем кінулася некуды ўгору і

балюча выцяла яго ў бок і скроню. Ён пачуў, як коратка і звонка бразнулі аб цвёрдыя камяні яго медалі, блізка, ля самага твару, пырснулі і застылі ў пылу кроплі нечай крыві. Пасля ён павярнуўся на бок, усім целам балюча адчуваючы непадатлівую мулкасць камення, аднекуль, з сіняга неба, зірнулі ў яго твар спалоханыя вочы Ахметава, але зараз жа зніклі. Яшчэ нейкі час праз грукат страляніны ён чуў побач сцятае дыханне, гулкае тупаценне ног, а пасля ўсё гэта сплыло далей, да кірхі, дзе, не сціхаючы, грукаталі стрэлы.

«Дзе Бабіч?» — зноў скаланула яго забытая думка і каротки забыты клопат за лёс узвода прымусіў напяцца і паварушыцца. «Што ж гэта такое?» — свідравала пачуцці нямое запытанне. «Забіты, забіты»,— казаў нехта ў ім яго-пымі думкамі, і невядома было, ці гэта пра Бабіча, ці пра яго самога. Ён разумеў, што з ім сталася нешта благое, але болю не адчуваў, толькі знямога скавала цела, ды туман засціў вочы, не даваў бачыць, ці ўдалася атака, ці выскачыў з парку ўзвод...

Пасля кароткага правалу ў свядомасці ён зноў адчуў сябе і ўбачыў неба, якое чамусьці ляжала ўнізе, бы адбівалася ў якім агромністым возеры, а зверху на самую яго спіну навалілася пляскатая роўнядзь плошчы з рэдкімі целамі прыліплых да яе байцоў.

Ён паварушыўся, спрабуючы ўбачыць дзе каго жывога — плошча і неба загойдаліся, а калі астаяліся, ён пазнаў кірху, нядаўна атакаваную без яго. Цяпер там ужо не чуваць было стрэлаў, але з варот яе чамусьці выбягалі аўтаматчыкі і беглі за вугал. Закінуўшы галаў, сяржант угледаўся, спрабуючы ўбачыць там Натужнага ці Ахметава, але іх не было, затое наперадзе ўсіх ля рога ён пазнаў свайго навічка Тарасава. Прыгнуўшыся, гэты маладзенькі баец спрытна сігаў да рога, спыніўся, зухавата замахаў некаму «сюды, сюды!» і знік — маленькі і кволы побач з высачэзным гмахам кірхі.

За ім пабеглі байцы, і на плошчы не засталося нікога. Тады сяржант напаследак уздыхнуў і неяк адразу і назаўсёды сціх.

Да перамогі пайшлі другія...

*1959*

# НА ЎСХОДЗЕ СОНЦА

Над крутымі дахамі гарадскіх будынін, над балконамі з павіслымі ў цішы прасцінамі — флагамі капітуляцыі, над шызай брусчаткай вуліцы весела займаўся першы пасляваенны ранак. Ад далёкае ласкі нябачнага сонца прагным бляскам ірдзелі снегавыя вяршаліны гор, у суцэльнай засені вуліцы мацней запахла клейкім тапаліным водарам і хмельнай духмянасцю ўначы зацвіўшых акацый.

Яшчэ гэтак жа востра патыхала пыльнай сухменню бітае цэглы з руін вялізнага вуглавога дома, дзе заляглі байцы трэцяй роты, загнаныя сюды нечаканымі стрэламі з вежы ратушы. Нейкі здзічэлы гітлеравец, засеўшы з кулямётам, на золку спыніў іх тут, не даючы рухацца далей на злучэнне з саюзнікамі.

— Ах, воўчыя душы, ім яшчэ чатырох год мала,— казаў ротны, лежачы за вялізнай цаглянай глыбай і камечачы ў руках толькі што прастрэленую фуражку. Трэба было прызначыць байцоў выкурваць таго нягодніка, пасыльны ад камандзіра палка, прынёсшы такі загад, чакаў выніку, тулячыся ў каменні ззаду, а камандзір вагаўся. Было б гэта яшчэ ўчора ці калі раней, хіба адчуў бы ротны гэткую раптоўную нерашучасць! Але сёння... Сёння іх жыццё падаражэла ўдвая — яны дачакаліся міру.

— Вунь, вунь ён! — крыкнуў плячысты сержант у залапленай на спіне гімнасцёрцы. Ён адзін тут стаяў, хаваючыся за ўцалелым прасценкам.— Вунь пад цыферблатам руля вытыркаецца. Во гадзюка!

Сінцоў, малады светлавокі баец, што ляжаў побач з ротным, асцярожна выглянуў і сцішана, але так, каб чуў камандзір, вымавіў:

— Чаго з ім цацкацца! На ўра атакаваць, і канец.

У гэты час чорная пляма рулі пад вежавым гадзіннікам раптоўна бліснула чырвонай іскрынкай — і ад прасценка, ад жалезных бэлек абрушанага перакрыцця сыпанулі ва ўсе бакі кулі. Людзі хуценька дзёўбнулі галовамі — кожны за сваё сховішча; на каменне пасыпалася тынкоўка, і ў прыцемках руін ціха закурылася лёгкае воблачка пылу.

Калі шоргат спыніўся, ротны ўпарта варухнуў галавой і звыклым камандзірскім голасам выкрыкнуў:

— Вераб'ёў... Чарняк... Туркоўскі...

Сержант у прасценку азірнуўся, нібы не адразу паве-

рыўшы, што назвалі яго, неяк сумна глянуў на ратушу і зняў з пляча аўтамат. Нездаволена прабурчаў нешта ззаду між цагельнага друзу Чарняк, стараваты ўжо, аброслы шчаціннем баец — вохкаючы і лаючыся, ён палез наперад. За ім аднекуль з цёмнага кута, сагнуўшыся ў тры пагібелі, з'явіўся тонкі, як дубец, Туркоўскі.

Ротны не глядзеў на іх, і яны ні разу не зірнулі па камандзіра — усім было чамусьці няёмка. Пасля кароткай паўзы старшы лейтэнант павярнуў галаў убок і напаткаў позірк Сінцова. Баец зразумеў адразу і раней чым было названа яго прозвішча, падхапіў аўтамат і падаўся да сержанта ў прасценак.

— Ну вось, Сінцоў, табе першае пасляваеннае заданне,— услед яму неяк фальшыва пажартаваў камандзір.— А то ўсё бедаваў, чым будзеш займацца.

Сінцоў не адказаў і не ўсміхнуўся. Гэта праўда, што ўсе апошнія дні ён не на жарт клапаціўся, як уладкавацца пасля вайны — хлопец быў адзін, без бацькоў і радні, з чатырнаццаці год — выхаванец палка.

Сержант падавіў уздых і, з асцярогай пазіраючы на вуліцу, пачаў прабірацца па-за сценамі ў бакавы пралом. Чарняк пастаяў яшчэ ў нейкай задуменнай нерашучасці, выцер рукавом ложу карабіна, вылаяўся і ўрэшце, няспрытна валюхаючыся, рушыў следам. Воддаль, яшчэ болей прыгнуўшыся, шмыгнуў Туркоўскі, і апошні спакойна перайшоў адкрытае месца Сінцоў.

Ля пралому яны спыніліся, сержант выглянуў, хвіліну счакаў і, нібы ў сцюдзёную ваду, імкліва рынуўся цераз вуліцу да сцяны процілеглага дома. Сінцоў і Чарняк скіравалі следам, а Туркоўскі нешта прамарудзіў, і калі высунуўся бегчы, ад ратушы загрукалі стрэлы. Высякаючы на камянях бруку сінія іскры, наўкола разляцеліся кулі, а Туркоўскі вёртка сігануў назад і знік у праломе.

Пад сцяной з агромністай, скіраванай уніз стрэлкай рэкламы байцы аддыхаліся, тут яны былі ў нейкай бяспецы, закрытыя ад ратушы вуглом шэрага, падзёўбанага асколкамі дома. Сержант узіраўся ў руіны, дзе застаўся іхні чацвёрты таварыш і, не ўбачыўшы яго, крыкнуў:

— Гэй, давай бягом!

Туркоўскі нясмела высунуўся з-за пашчэрбленага ўскрайка сцяны, але кулямёт з ратушы зноў сыпануў па тынкоўцы бязладнаю чаргой, і баец борзда схаваўся.

— Ладна,— сказаў Сінцоў.— Пайшлі. Траіх управімся.

Яны пачакалі яшчэ, а пасля адзін за другім паўз

шархоткую сцяну дома пачалі прабірацца да ратушы. Чарняк чамусьці хутка адстаў, і за сержантам бег адзін Сінцоў. Ад рога яны пераадолелі ўскраек сквера і схаваліся пад густымі кронамі акацый. Кулямётчык з вежы ці не заўважыў іх, ці, можа, зусім не мог бачыць.

Нарэшце ў ранішняй сцішанасці перад імі вырасла змрочная высачэзная ратуша.

Сінцоў з сержантам, сігаючы праз два прыступкі, хуценька ўзбеглі па шырокай лесвіцы да насцеж расчыненых вялізных дзвярэй. Неўзабаве, старанна хаваючыся пад сцяной, іх дагнаў насуплены, задыханы Чарняк, і яны стаіліся, услухоўваючыся ў падазроную таямнічасць будыніны. Але скрозь было ціха, кулямётчык маўчаў. Праз першыя расчыненыя дзверы відненіся другія, такія ж вялізныя. Яны былі зачынены, а побач у змрочным куце пад стрэльчатай аркай пачыналіся нейкія прыступкі ўгору. Стараючыся не парушаць цішыні, усе трое засцярожліва падаліся да таго ўваходу.

Тут аказалася вузенькая вінтавая лесвіца, стромкая і скручаная ў штопар,— яна ўпарта ўвінчвалася ў цесную вежу ратушы. Праз тры крокі наперадзе яе спіраль зусім ужо заварочвала ўбок, і далей нічога не было відаць, хоць вузенькія маленькія акенцы з аднаго боку добра асвятлялі яе пашчэрбленыя прыступкі.

Байцы асцярожна крочылі пры сцяне, дзе круцізна была меншая. Першы ішоў сержант, за ім — Сінцоў і ззаду, сапучы і зрэдку пакырхваючы, няўклюдна карабкаўся Чарняк. Яны ўжо парадкам узняліся ўверх, і ў чарговым акенцы паказаліся дахі горада, верхавіны акацый, далей— прасцяг вузкай даліны з дарогай і над усім — Альпы, падсветленыя сонцам, якое неўзабаве павінна было вырвацца ў неба. Па яркай набрыняласці снегавых вяршынь яно мелася сёння быць асаблівым — яркім і захмялела вясёлым, гэтае веснавое сонца першага дня міру.

Людзі абышлі па спіралі яшчэ некалькі кругоў, і Сінцоў, неяк неўпрыцям зманугы цішынёй, аж забыўся, куды і навошта вяла іх апошняя вайсковая патрэба. Ён усё больш зачаравана ўглядаўся ў кожнае акенца на ўсход і чакаў, што вось-вось з-за пазубленай сцяны гор пырсне тое самае незвычайнае і дзівоснае сонца. Але яно, відаць, рухалася марудна, быццам баючыся растраціць поўную меру сёняшняй радасці, няспешна і плаўна ўзнімалася за гарамі; і гэтак жа няспешна, спыняючыся і ўслухоўваючыся, падымаліся ўгору байцы.

Раптам блізкая чарга ўгары гулкім грымоццем аддалася ў будынку, у вузкай, як калодзеж, лесвіцы, імкліва рассыпалася над горадам, і байцы ад нечаканасці сталі. Сяржант узняў да грудзей аўтамат, побач укленчыў на прыступках Сінцоў, за ім з раскрытым ротам і наморшчаным старэчым ілбом утаропіўся ўгору Чарняк. І калі яшчэ кулямётнае рэха зусім не заціхла ў гулкім нутры ратушы, зверху загрукацелі таропкія чалавечыя крокі.

Сяржант зірнуў на Сінцова і скамянеў ад увагі, хруснуўшы засцерагальнікам аўтамата. Але крокі прагрукацелі і сціхлі — пэўна чалавек спыніўся, можа пачуў што ці проста перамяніў пазіцыю.

Тады сяржант, счакаўшы якіх паўхвіліны, марудна і няёмка, быццам на балючай шыі, павярнуў галаў, зірнуў па чарзе на абодвух падначаленых і каротка кіўнуў Чарняку. Той прывычна падпарадкаваўся, але, ступіўшы крокаў два, чагосьці спыніўся, паглядзеў на сяржанта, і ў гэтым яго позірку востра адбілася нейкая незвычайная жаласлівая знямога.

Угары зноў нехта заварушыўся, ці то аддаляючыся, ці мо спускаючыся, і зноў доўгая кулямётная чарга громам раскацілася ў будынку. Байцы напружыліся, сяржант, на нешта рашаючыся, прыжмурыў вочы, Чарняк абедзвюма рукамі ўзяўся за карабін. І Сінцоў раптам прыпомніў, што Чарняк у гэтую вайну шэсць разоў паранены, што ў яго дома старая маці і чацвёра дзяцей, а сяржант Вераб'ёў пайшоў на вайну з апошняга курса універсітэта, меў два ордэны Славы і быў разумны адукаваны чалавек. І баец, нервова перасмыкнуўшы вуснамі і адразу забыўшыся і пра сённяшнюю раніцу, і пра канец вайны, і пра свае клопатымары, шырока сігануў угору і апынуўся наперадзе.

Ён хацеў як мага хутчэй дабегчы даверху, не даць апалеламу недабітку апамятацца і заўважыць іх. Падхопленыя яго парывам, ззаду беглі таварышы. Гумовыя падэшвы ботаў мякка прыглушалі іх крокі.

Кулямётчык з'явіўся раптоўна. Гэта быў нейкі даўгашыі гітлеравец у цыратовым зялёным плашчы — укленчыўшы на запэцканых галубамі прыступках, ён вадзіў у акенцы кулямётным ствалом, збіраючыся націснуць на спуск.

— Хэндэ хох!!! — зычна крыкнуў Сінцоў, і ў той жа момант вораг з дзівосным спрытам адкінуў кулямёт, скочыў угору, і з яго рук грымнулі запар два стрэлы. Сяржант і Чарняк амаль адначасова ўдарылі з двух аўтаматаў —

немец бразнуўся на прыступкі, ляснуў аб каменні браўнінг, а пад самыя ногі байцоў ціха, без аніводнага стогну апусціўся раптоўна збялелы Сінцоў.

...Праз пяць хвілін на шырокі ганак ратушы Вераб'ёў і Чарняк вынеслі яшчэ цёплае цела таварыша. Пераскокваючы цераз клумбы сквера, да іх ужо беглі байцы, бег Туркоўскі, камандзір роты, а гэтыя двое моўчкі паклалі трэцяга на сцёрты граніт прыступак і стаялі так, збянтэжаныя і разгубленыя, баючыся зірнуць адзін аднаму ў вочы. Чарняк крактаў усё, пераступаў з нагі на нагу, смаркаўся і размазваў па аброслым твары брудныя пісягі пад вачыма.

А з-за гор радасным рассыпістым бляскам пырснула запозненае сонца і весела асвяціла змрочную ратушу з вежай, шырокі ганак, недарэчна застылых у немай журбоце байцоў і таго, на зямлі, што на пяць хвілін не дажыў да чаканага дня.

*1959*

# НА СЦЯЖЫНЕ ЖЫЦЦЯ

Дзверы былі старыя, высокія і цяжкія. Адчыніўшыся нават на вузенькую шчылінку, яны незадаволена, спаважна рыпелі: «хр-р-р-р-ы-іп» — быццам пратэставалі супраць парушэння іх старэчага лянотнага спакою. Фрузына некалі змазвала іх адмысловыя паржавелыя завесы, але дзверы, счакаўшы дзень-другі, зноў упарта пачыналі свой надакучлівы хрып. І яна спакваля прывыкла да гэтага іх голасу, таксама, як і да выгінастых медных ручак-поручняў, за якія было няспрытна брацца, як і да сваіх нескладаных абавязкаў вахцёркі. Дый дзіва было не прывыкнуць, калі мінуў ужо шосты год, як упершыню села яна за невысокай фанернай перагародкай у куце ля дзвюх доўгіх вешалак ды толькі і ведала — глядзець, каб хто не вынес з будынка які ўстаноўскі набытак.

Два разы ў дзень — уранку і ўвечары — таропка тупаючы па прыступках на ганку і ў вестыбюлі, адзін за адным яе міналі супрацоўнікі ўстановы — занятыя справамі, заклапочаныя, сур'ёзныя людзі. Яна ведала ўсіх і, нават заплюшчыўшы вочы, магла ўгадаць кожнага па яго кроках, па тым, як ён адчыняў ці зачыняў дзверы або ішоў па лесвіцы. З'яўленне дырэктара Івана Кузьміча Фрузына пазнавала па яго аўтамабілю, які заўсёды раптоўна паяўляўся за акном насупроць установы. Яна чула кароткі пошчак дзверцаў машыны, а затым праз нейкі час з працяжным асаблівым скрыпам адчыняліся вялікія дзверы і ўваходзіў ён. Ён быў вялізны, тоўсты і надзьмуты з твару, яго вельмі паважалі ўсе, а Фрузына баялася і таму першая казала «дзень добры». Іван Кузьміч чамусьці заўсёды незадаволена падціскаў ніжнюю губу і толькі адным ледзь прыкметным рухам правага брыва адказваў на яе прывітанне.

Пяць год узапар па два разы ў дзень Фрузына бачыла яго толькі такім, іншакшым яго не ўяўляла — ён быў для яе загадкавы і далёкі.

Гэткім жа далёкім і незразумелым быў яшчэ таварыш Петрачэнкаў — вельмі худы, жоўты і надзвычай старанна апрануты чалавек. Фрузыне часам здавалася, што, апроч як выстаўляць напаказ свае адмысловай прыгажосці гарнітуры, паліто і паўпальткі, ён не меў іншакшых абавязкаў у жыцці. Паводзячы сюды-туды маленькай лабастай галавою, Петрачэнкаў праз тоўстыя шкельцы акуляраў усё

аглядаў свае плечы, рукавы, грудзі і тонкімі худымі пальцамі страсаў нябачныя парушынкі. Заўсёды ён быў заняты сабою, болей амаль нікога не прыкмячаў і рэдка калі вітаўся з Фрузынай.

Жанчын ва ўстанове працавала нямнога, і сярод іх самай прыкметнай была Нонка, маладая жонка немаладога і несімпатычнага намесніка дырэктара Дубчанкі. Зранку, калі пачыналі рыпаць дзверы, яна чутна была яшчэ здалёк, яшчэ з вуліцы, калі, дробна тупаючы абцасікамі па шматлікіх прыступках, узбягала на ганак. Маладзіца ўмела спрытна шмыгнуць у дзверы, здаецца, амаль не расчыняючы іх, заўсёды спазнялася, заўсёды спяшалася, але ніколі не прамінала ветліва ўсміхнуцца вахцёрцы. Фрузына з прытоеным замілаваннем глядзела ўслед: Нонка падабалася ёй, падабалася як малодшая сястра, як прывабная і недасяжная жаночая прыгажосць.

Яшчэ нешта прыхільнае ў сэрцы вахцёркі было да інжынера Шаўрова — простага, вясёлага і гаваркога чалавека. Зранку ў гэтым вестыбюлі ён звычайна з'яўляўся першы, бо жыў тут недалёка, за рогам ля аўтобуснага прыпынку. Па-гаспадарску прыстукнуўшы дзвярыма і выціраючы аб дарожку падэшвы, ён жартоўна кідаў жанчыне:

— Прывет, Фруза! Як жысць маладая?

Яна стрымана ўсміхалася, сарамліва па-дзявочы азірала яго паўнаватую, у шэрым гарнітуры, постаць і апускала вочы. Здавалася Фрузыне, што інжынер бачыў у ёй нешта патаемнае, захаванае, у чым яна неахвотна прызнавалася нават самой сабе, і ад таго ёй рабілася няёмка.

— Не смуткуй вельмі — не бяда. Вось падшукаем табе жаніха, адгрукаем вяселле, і будзеш жыць-пажываць ды дзяцей нажываць,— казаў ён, узбягаючы па прыступках, азіраючыся і заўзята смеючыся шэрымі жвавымі вачыма.

Фрузына апускала вочы, разгладжвала на каленях спадніцу, а потым уздыхала і доўга пазірала ў акно.

Яна была адзінокая, працавітая жанчына, што не зведала ні ласкі, ні якой блізкай чалавечай спагады ў жыцці. Адзінай даступнай для яе радасцю была радасць працы. Яна працавала з маленства, як толькі пачала памятаць сябе, а можа нават і раней. Няньчыла братоў і сястрычак, пасвіла жывёлу, пасля жала, касіла, арала, секла дровы. У маладосці яна магла падняць шасціпудовы мех збожжа, усцягнуць на зруб бервяно, забратаць бадлівага быка.

Праца зрабіла яе моцнай, каржакаватай, засцерагала ад хворасці, загартавала да нягодаў жыцця, але жаночай прывабнасці, таго нечага патрэбнага і незаменнага, што вабіць мужчын, у яе, відаць, не было. Міналі гады, яе сяброўкі павыходзілі замуж, мелі дзяцей, а яна ўсё заставалася ў дзеўках і пакрысе старэла.

Адзінокае жыццё прывучыла яе многа думаць, пільна прыглядацца да людскіх адносін і спраў. Часта ёй здавалася, што людзі бываюць несправядлівыя да саміх сябе, не цэняць, не бачаць тое вялікае ў жыцці, што так цаніла і чаго доўгія гады прагнула яна.

З ёй разам працавала вахцёркай Драздова — сярдзітая, знерваваная, абсыпаная дзецьмі нестарая яшчэ кабета. Заўжды яна была незадаволеная, раздражненая, лаяла ўвесь свет і асабліва свайго мужа Арцёма, маўклівага падатлівага цесляра з будтрэста. Зрэшты, гэтак жа груба ставілася яна і да дзяцей — усё крычала і скардзілася, што гэтая сям'я спарахніла яе маладосць. Фрузына, бываючы часам ва ўстанове ў яе дзяжурства, моўчкі без спачування слухала яе нараканні на шматлікія турботы жыцця і думала, што гэтая жанчына проста не бачыць свайго вялікага неацэненага шчасця. Нават маленькая частачка з таго, што гэтак дапякала Драздовай, магла б ашчаслівіць Фрузыну. Яна ніколі не лаяла б мужа за тое, што той з палучкі прапіў з таварышамі якую дзесятку, што ён шмат курыць ці часам запозніцца з працы. Яна не сварылася б на дзяцей, маленькіх пяці-сямігадовых карапузаў, калі тыя, несучы маці на працу сняданак, зазяваюцца на вуліцах і астудзяць ежу. Яна вельмі б даражыла гэтым ціхім маленькім шчасцем, калі б толькі яно было ў яе. Але ішлі гады, і ніхто яшчэ не сказаў ёй ніводнага слова пяшчоты, усе былі заняты сваімі справамі, сем'ямі, і радасць толькі мроілася ў яе далёкіх, недасяжных марах.

Яна часта казала людзям і самой сабе: кожнаму сваё, што каму на раду напісана, таго не мінеш. І яна пакрысе прывыкла да адзінокага лёсу немаладой бабылкі, цешыла сябе людскім шчасцем, радавалася чужой радасцю і бедавала з чужых бедаў. Свайго — ні добрага, ні благога, ні асаблівых трывог — у яе не было.

Так яна пражыла б да канца сваіх дзён, каб не тыя акалічнасці лёсу, што нарыхтавалі нечаканы паварот на яе сцяжыне жыцця.

Аднойчы ўжо глыбокай снежнай зімою, седзячы ля тых вялікіх дзвярэй, яна запрыкмеціла, як у адным месцы

рассохліся старыя філёнкі, утварылася шчыліна, у якую прадзімае вецер. Жанчына прыбрала з прыпола клубок з недавязанай рукавіцай і праз чорны ход пад лесвіцай выйшла на панадворак. Тут быў гараж, у вялізных адчыненых варотах стаялі машыны, і Фрузына хацела ўбачыць каго са знаёмых шафёраў, каб папрасіць пакулля.

Аднак знаёмых нідзе не было. Параскіданыя ля гаража на ўтаптаным, заплямленым снезе валяліся цяжкія скаты, скрыпкі, бочкі. Гарластая шафёрская братва падалася, відаць, у сталоўку, толькі ў апошніх дзвярах чуўся бразгат жалеза. Схаваўшы ў кішэнькі ватоўкі астылыя на марозе рукі, Фрузына нясмела падышла да гэтых дзвярэй і спынілася. У машыне з задраным угору капотам, перагнуўшыся цераз радыятар, калупаўся незнаёмы, нядаўна прыняты на працу шафёр, і яна звярнулася да яго з нясмелай сваёй просьбай.

Шафёр не адразу адказаў ёй, спярша прыкруціў у маторы нейкую трубку, пасля выпрастаўся, узняў да яе немалады ўжо, не дужа часта голены, замурзаны твар, выцер ватнім рукавом успацелы лоб, і спытаўся:

— Гэта куды? А, да дзвярэй. А што, некаму паправіць? А заўхоз дзе?

Ён казаў гэта грубавата, як чалавек, якому замінаюць, у якога безліч сваіх пільных спраў, і яна ўжо пашкадавала, што звярнулася да гэтага малазнаёмага шафёра. Але затым ён саскочыў з высокага буфера, узяў нешта ў кабіне і, упэўнена ступаючы шырокімі падэшвамі падшытых валёнак, накіраваўся ў будынак.

— А ну, дзе, паказвай.

Яна паказала тое месца, шафёр, усё нічога не гаворачы, нешта прыстукнуў, нешта прыціснуў, забіў цвік і напаследак грукнуў кулаком у счарнелыя філёнкі.

— Ну вось, парадак. Цяпер не прадзьме.

Яна стала дзякаваць яму, ды за адным разам паскардзілася, што пад акном падцякае батарэя, надакучыла ўжо выціраць анучай, што колькі ўжо прасіла заўхоза, але таму не даходзіць, усё болей швэндаецца па піўных, без ста грамаў не падступішся. Дастаючы закурку, шафёр слухаў, глядзеў на яе сур'ёзным няласкавым позіркам і, зацягнуўшыся разы два, паабяцаў:

— Ладна, паправім. Цяпер няма калі, а пасля абеду папраўлю. Напомніш, цётка.

Напаследак ён, здаецца, усміхнуўся ледзь-ледзь, аднымі толькі куточкамі вачэй і, пакінуўшы ў вестыбюлі моц-

ны, непрывычны тут пах махоркі, выйшаў. Ёй чамусьці адразу зрабілася вельмі самотна адной і захацелася яшчэ зірнуць у акно, як ён, няспешна тупаючы па снезе, ішоў да сваёй машыны.

Батарэю ён адрамантаваў, праўда, не пасля абеду, а на другі дзень і зноў, закурваючы, спыніўся ля Фрузыны, пазіраючы, як спрытна мільгаюць у яе руках сталёвыя пруткі і ўвачавідкі даўжэе, расце рукавіца.

— Ладныя рукавіцы будуць,— сказаў ён і, злёгку ўсміхаючыся, з цыгаркай у руцэ, быццам ад сцюжы, пацёр свае шырокія парэпаныя далоні.

Фрузына вязала рукавіцы на рынак, дзе патроху прадавала ў нядзелю, і цяпер адчула, што за ягоны клопат нечым абавязана гэтаму чалавеку.

— А што, падабаюцца? — спытала яна і нясмела ўзняла вочы.— Можа, звязаць вам, калі не маеце?

— Не, дзякуй,— сказаў шафёр.— Што толку з іх — на адзін рэйс. Каб тут якія скураныя і то — на тыдзень, не болей.

Яны зноў разышліся, і зноў Фрузыне стала ніякавата адной — хацелася яшчэ пагаманіць з гэтым зважлівым чалавекам, але жанчына ведала, што яна нецікавая, дык ці будзе ён бавіцца з ёю?

Можа, праз тыдзень ці болей пасля гэтай размовы Фрузына ўжо ўпрыцемкі вярталася з працы дадому. Яна жыла на самым ускрайку горада, ля шашы, у цесным кутнім пакойчыку дашчанага, пракуранага вугальным дымам барака. Каб дабрацца сюды з цэнтра, ад яе ўстановы, трэба было, два разы перасаджваючыся, ехаць аж на трох аўтобусах, а пасля яшчэ з кіламетр абходзіць пустку. Зімой, праўда, можна было сцяжынкай перайсці праз роў з замёрзлаю ручаінай і такім чынам зрэзаць добры крук дарогі.

Яна ўжо выбралася з рова, выйшла на агароды і набліжалася да шашы, цесна атуленай дамамі гэтай ускраіннай вуліцы.

Тым часам добра сцямнела, чорнае, без зорак неба мяккім змрочным полагам вісела ўгары, на снезе, ў нясмелых паўзмроках чарнелі навокал будынкі, дрэвы, невыразныя плямы зямлі. Снег быў мяккі, мароз адпусціў нанач, бралася на адлігу, і было золка.

Жанчына зранку не была дома і цяпер спяшалася,— на сконе дня прывычна вабіла хатняе цяпло, спакой і адпачынак. У кірзавай чорнай сумцы яна несла з сабою не-

багаты харч — хлеб, селядзец, кілаграм круп і ўсё гадала, каб як абысціся гэтым якіх два ці тры дні і сэканоміць на дровы.

На шашы яе асляпіла святлом фараў, абдало грукатам і лязгам імклівых аўтамабіляў. Якраз у тым месцы, дзе яна заўсёды зварочвала з дарогі на сцяжынку да свайго дома, нерухома стаяла машына. Фрузына не стала звяртаць на яе асаблівай увагі — ці мала машын спыняецца на шашы — пастаяць, шафёры зробяць што трэба і паедуць далей. Жанчына ўвайшла ў сенцы, намацала ў кішэні ватоўкі ключ, адамкнула дзверы. У пакойчыку было халадна — ужо два дні яна не паліла грубкі, пахла нечым неабжытым і пакінутым. Чагосьці тут не хапала ў гэтай кватэры, хоць і было ўсё прыбрана — і вузкі ложак з высока падбітай падушкай і лебедзямі на танным дыванку на сцяне, і вымытая падлога, засланая наўскасяк палавічком, і пакрыты марляю посуд на невялічкім століку. Яна прыслухалася — суседзяў штось не чуваць было. Распрануўшыся, жанчына адчула холад і падумала, што трэба было б прапаліць у грубцы, каб былі насечаны дровы.

У гэты час у дзверы пастукалі.

Да яе рэдка калі хто заходзіў, і кожны раз на стук Фрузына насцярожвалася. Але не паспела яна што адказаць, як дзверы адчыніліся і ў пакой увайшоў апрануты ў паўшубак чалавек. Не зважаючы на зіму, ён быў увесь расхлістаны — і паўшубак, і кашуля, і шапка, ссунутая на патыліцу, з рота вырывалася бачная на холадзе пара. Яна адразу пазнала — гэта быў яе нядаўні знаёмец, іх шафёр. Прыжмурыўшыся ад яркага святла, ён пераступіў з нагі на нагу і, відаць, не пазнаючы жанчыны, загаварыў:

— Добры вечар, гаспадыня. Ці не паможаце ў бядзе, так сказаць? Ліха на яе, машына занаравілася — аднаму не справіцца.

Фрузына ўжо развязала хусцінку, але зноў чамусьці пачала закручваць на шыі рагі, пазірала на чалавека, як ён не дужа ёмка таптаўся ля парога, і сэрца жанчыны ў нейкім недарэчным прадчуванні хутчэй затукала ў грудзях.

— А што здарылася? — як мага спакайней спыталася Фрузына.

— Э,— здзівіўся шафёр, прыгледзеўшыся і толькі цяпер пазнаючы яе.— Гэта вы? Тут жывяце?

— Ды тут. Вось прыйшла толькі.

— А я гляджу — святло загарэлася, думаю, дай пасту-

каю,— казаў ён ужо больш упэўнена і з прыкметнай іскрынкай радасці ў голасе. Адталымі пляскатымі валёнкамі прагінаючы маснічыны, ён адышоў ад парога.

— Чорт бы яе ўзяў, шафёрскую долю. У Мінск ездзіў учора, праз ноч туды, цяпер адтуль і вось не дацягнуў — кандэнсатар прабіла. А тут адзін, машыну не кінеш і завесці нельга — хоць плач. Можа б, вы паглядзелі, каб не чапаў хто? Ці, можа, у гараж падскочылі б, там у хлопцаў ёсць запасныя. А то проста бяда...

Яна, усё яшчэ недарэчна хвалюючыся, запрашала шафёра прысесці, пагрэцца, казала нешта пра холад у пакоі — не паспела насекчы дроў, а сама тым часам апранала ватоўку, гатовая ўслужыць чалавеку.

— Што ж, калі трэба, дык трэба. Я хутка, аўтобусам. Але як яе, гэтую частку?

— Кандэнсатар, там у Змітрукова ці ў Цярэшчанкі спытаеш — дадуць,— казаў ён, выпраўляючыся за ёю.— Я і сам збегаў бы, ды груз у машыне, на шашы ўсё ж.

У яго голасе чулася вінаватасць за тое, што турбуе, ён збіраўся выйсці следам, але яна запрапанавала:

— А вы нішто, не турбуйцеся. Пагрэйцеся тут. Калі што, дык у акно відаць.

Ён падзякаваў і застаўся, стомлена апусціўшыся на лаўку ля акна, а яна, на хаду зашпільваючыся, падалася ў горад — трэба было спяшацца, каб не зачынілі гараж.

Кандэнсатар Фрузына адразу ж дабыла ў Змітрукова, ён аказаўся маленькай лёгкай штуковінай, але часу на абодва канцы шляху ўсё ж мінула нямала. Калі яна зноў адчыніла свае дзверы, святло ў пакоі было выключана, пэўна, каб лепей бачыць у акно. У расчыненай грубцы, пырскаючы іскрамі, трашчалі сукаватыя смалякі, што нерассечаныя гады два валяліся на панадворку, а побач, на табурэтцы, зморана, аблакаціўшыся на шырока расстаўленыя калені, драмаў шафёр. Ён не варухнуўся на стук дзвярэй і, звесіўшы долу заблытаныя валасы, ціхенька і мерна высвістваў посам.

Фрузына паклала на стол кандэнсатар, зняла ватоўку, стараючыся не нарабіць шуму; пацерла густа запацелую шыбу, каб бачыць машыну, і прысела на лаўцы.

Невядома, колькі мінула часу, а шафёр усё драмаў. Дровы ў печцы спакваля дагарэлі, пакінуўшы груду зіхатлівага вугалля. На сцяне пад столлю варушыліся густабарвовыя водбліскі; схіленую галаў, плячо і рукаў чалавека заліло гарачай мігатлівай чырванню. Ад грубкі на ўвесь

кут і паўстолі нерухома падаў вялізны раскідзісты цень чалавека.

Раз-пораз пазіраючы праз акно на шашу і на гэтага здарожанага чалавека, жанчына пакрысе пранікалася ціхай жаласлівай спагадай да яго нялёгкага турботнага жыцця. Тая спагада ўсё глыбей і глыбей пранікала ў яе ўзрушаныя пачуцці, шырылася недзе ў душы, паступова перарастаючы ў лагодную пяшчоту. Уцчалася і прывычная шчымлівая самота па сваім няўтульным неўладкаваным жыцці, паціху ўваскрасала былая паўзабытая прагнасць жаданага чалавечага цяпла. Але Фрузына, як магла, усё стрымлівала, глушыла ў сабе тыя няясныя адчуванні, толькі ціхенька ўздыхала, баючыся патрывожыць шафёра.

Праз нейкі час ён, аднак, схамянуўся, глыбока ўздыхнуў і здзіўлена агледзеўся:

— О, ты ўжо? — прамовіў ён і ўзняўся.— Ну што?

— Вось прынесла,— сказала яна, устаючы з лаўкі і падаючы яму кандэнсатар. Але ён, відаць, адпачыў зусім мала і, яшчэ не прачнуўшыся як след, пазяхаючы і пацягваючыся, зноў сеў на табурэт.

— Ага, во добра... Ну дзякуй. А што гэта нікога не чуваць, ці ты адна жывеш?

— Ды ўжо ж, адна,— адказала яна і ўздыхнула.

— А дзе ж твой... муж? — паволі вызваляючыся ад санлівай знямогі, пытаўся чалавек.— Ці не было?

— Не было, ага,— пацвердзіла Фрузына.

Пасля яна таксама прысела на лаўку насупроць яго і раптам адчула сябе слабай, маленькай і нават у нечым вінаватай ад гэтай стрыманай мужчынскай цікаўнасці.

Ён трохі памаўчаў, аб нечым задумаўшыся, жанчына ўсё пазірала на яго, ледзь прыкметнага ў прыцемках дагарэлай грубкі, быццам чакала чаго.

— Адной кепска,— сказаў ён счакаўшы.— Цяжка адной... Гэта я ведаю...

Ён пачаў закурваць, прыпаліў паперкай ад вугалля, асвяціўшы на момант зашчацінены, зусім не прывабны, але добры, спагадлівы твар, а яна сядзела, стаіўшыся, ля акна і, бы злоўленая на якой несумленнай справе, баялася паварушыцца.

Накурыўшыся, ён кінуў у печ недакурак, падышоў да яе, стрымана і далікатна дакрануўся да яе пляча сваёй заскарузлай далонню і пагладзіў.

— Цяжка адной, толькі што зробіш... Ну, не бядуй! Дзякуй за турботы... Так.

Калі ён выйшаў, Фрузына, не зашчэпліваючы за ім дзвярэй, таропка павярнулася да акна, прыціснулася лбом да запацелай шыбіны і доўга пазірала, як ён там поркаўся ў маторы, бразгаў капотам, тупаў ля машыны. Яна нічога не думала, не выцірала слёз, што няпрошаныя і нястрымныя паціху каціліся па шчоках, толькі глядзела ў прыцемкі ночы і не магла ўжо заглушыць роспачнай трывогі ў сваёй душы.

З таго зімовага вечара Фрузына стала яшчэ болей маркотная. Часта ўздыхала на дзяжурстве, радзей усміхалася на жарты інжынера Шаўрова, часцей выходзіла на панадворак, дзе часам сустракала яго. Калі-нікалі, завіхаючыся ля машыны, ён кідаў ёй некалькі звычайных малазначных слоў, але — чула яна — ставіўся добразычліва і ветліва, зусім не так, як другія зубаскалы-шафёры. Ёй хацелася запытаць гэтага чалавека пра яго жыццё — адчувала жанчына, што і ён не вельмі шчаслівы, што добры і нечага лепшага ў жыцці хацелася яму. Яна ўжо ведала яго прозвішча — Пархомаў — ведала, што ён з Баранавіч, але ці сямейны, ці не — было невядома.

Так у маўклівай жаночай тузе мінула зіма і наступіў першы месяц вясны — сакавік. Снег па вуліцах растаў, рэшткі яго вывезлі на машынах за горад; удзень з дахаў, гулка лопаючы аб асфальт, падалі рэдкія цяжкія кроплі. У парках і за горадам, праўда, было яшчэ снежна, але з кожным сонечным днём усё шырэлі, злучаліся адна з адной праталіны, наліваліся пупышкі лазы і вербаў.

У жаночы дзень — 8 Сакавіка Фрузыне якраз быў выхадны, і яна, прыбраўшы зранку ў пакоіку, узялася перашываць свой стары шарсцяны сарафан. Звычайна яна любіла такую работу, любіла прымерваць, прыкідваць, каб зрабіць што як мага танней і лепей. З гэткім жа стараннем яна ўзялася і цяпер, але спакваля неяк цікавасць да работы пачала знікаць. У думках усё часцей з'яўляўся Пархомаў, усё думалася, што ён за чалавек, чаму так уважліва, не як другія, паставіўся да яе, што ў яго самога на сэрцы? Час ад часу жанчына ўздыхала, апускала на калені шыццё і затуманеным зрокам доўга пазірала ў чыстае сонечнае акно на шашу, дзе некалі зімой ён ладзіў машыну. Чамусьці ёй усё болей і болей хацелася зноў убачыць яго, пачуць яго спагадлівы разважны голас. Часам, схамянуўшыся, Фрузына лаяла сябе за недарэчныя мары, палохала тым, што, можа, у яго — сям'я, дзеці. Урэшце, колькі ёсць і маладзейшых, і прыгажэйшых, а

яна — саракагадовая баба,— ні хараства, ні шчасця — навошта каму такая? Але звыклае імкненне да яго ўзгаралася з новай сілай, і яна ўсё пазірала ў акно, трывожылася, хацела саўладаць з трапяткім сэрцам ды не магла.

Урэшце перад змярканнем яна трохі адагнала ад сябе свае неспакойныя летуценні, пачала думаць аб іншым — аб людзях іхняй установы — трошкі ганарыстых, але ніштаватых супрацоўніках, аб простых, часам языкастых, але няшкодных шафёрах, прыбіральшчыцах, вахцёрах. Успомнілася, што чагосьці радзей стала смяяцца Нонка — мусіць, нешта не ладзіцца ў яе замустве; успплыло ў памяці, як апавядала Драздова пра сваю сварку з мужам; прыгадалася, як узімку хварэў на нейкі цяжкі грып Петрачэнкаў і як усе клапаціліся і непакоіліся аб ім.

І вось у такую хвіліну ўспамінаў-роздумаў, адкусваючы нітку, яна незнарок зірнула ў акно і спалохана здрыганулася. Ад шашы сцяжынкай да барака ішоў Пархомаў.

Ён, відаць, раней яшчэ прыкмеціў яе ля акна і цяпер здалёк усміхаўся. У руках яго і пад пахай былі папяровыя скруткі. На ім непрывычна тапырыўся добры чорны гарнітур, неяк зухавата прыткнулася на галаве чыстая шэрая кепка. Фрузына вельмі спалохалася, кінулася да дзвярэй, пасля — да стала, скамячыла кавалкі тканіны, кінула іх на ложак, а пасля перахавала пад лаўку. Яна зусім разгубілася, а ён ужо стукаў у дзверы. Фрузына нічога не адказвала на гэты стук, толькі шаптала роспачнае «ай божачка!», а ён усё ветліва пастукваў і чакаў дазволу ўвайсці.

Трохі счакаўшы, яна сцяміла, што трэба сустракаць госця, і, прыдушыўшы ў сабе сарамлівую збянтэжанасць, адчыніла дзверы. Ён з усмешкай зірнуў на яе, далікатна пераступіў парог, зняў кепку і пачаў старанна выціраць аб палавічок забруджаныя чаравікі.

— Дзень добры, гаспадынька. Са святам! З жаночым днём! Вось здумаў, што адна, прыйшоў павіншаваць, бо я таксама адзін...

Яна, усё яшчэ бянтэжачыся, запрашала яго садзіцца, падстаўляла табурэтку, тупала сюды-туды. Ён, перш чым сесці, паклаў пакункі, выняў з кішэні бутэльку гарэлкі, паставіў на стол. Фрузына здзівілася і спалохалася, не ведаючы, навошта гэта, і што яно можа азначаць, але прыкінулася, што не заўважае тае незвычайнасці, і дрыжачымі ад хвалявання рукамі круціла рагі хусцінкі.

Ён быў нязвыкла прыбраны — пры гальштуку, паголены, нейкі вясёлы, не падобны на будзённага, запэцканага і сур'ёзнага Пархомава. Ці то з прычыны сваёй прыўзнятасці, ці мо разумеючы стан гаспадыні, ён ні аб чым не пытаўся, а ўсё гаварыў сам.

— Думаю, што будзе жанчына адна марнець у гэткае свята? Дай, думаю, з'езджу, добра недалёка.

— Ого, недалёка,— упершыню ўсміхнулася яна, не ведаючы, куды дзець свае вялікія нязграбныя рукі.

— А якое там далёка? Тры-чатыры кіламетры — не адлегласць для чалавека, так сказаць аўта-фота-мота. Ну, як ты тут жывеш? — спытаўся ён і агледзеў пакойчык.— Што, цячэ? — кіўнуў ён на мокрую пляму ў століі.— Рамонту дабівацца трэба, а то што ж гэта такое — жаночае свята, а ў жанчыны дах працякае. А можа, проста дзірка, трэ паглядзець. Э, ды і падлога тут рук просіць. Перасланць бы, калі яшчэ лагі не згнілі, а то што ж?

Ён закурыў, па-гаспадарску расклаўшы на стале курэцкія прылады — бліскучы партабак з папяросамі, запалкі. У пакоі прыемна запахла духмяным дымком добрых папірос, і ад гэтага паху Фрузыне чамусьці стала лягчэй і весялей на душы. Яна ўжо перамагла ў сабе першае замяшанне, зразумела ўсё, што трэба было ёй рабіць, і, счакаўшы колькі хвілін, пачала даставаць са стала сякі-такі посуд.

Пархомаў ахвотна апавядаў пра свае шафёрскія справы, пра парадкі ў гаражы, і яна па-маладому лёгка завіхалася ля стала — дастала гуркоў, дробнымі кольцамі пахалася каўбасу з пакунка, абчысціла селядца. Да гарэлкі, аднак, яна не дакранулася, бутэлька ўсё стаяла, дзе была пастаўлена. Фрузына расставіла талеркі, напаследак дастала шклянку і невялічкі кілішак. Пархомаў добра не адмытымі ад мазуты пальцамі ўзяў кілішак, пакруціў у руках, незадаволена адставіў убок.

— А што ж гэта? Хіба большай няма?

— Няма,— схлусіла яна, зноў прысоўваючы кілішак. Ён з жартоўнай падазронасцю зірнуў на яе і ўзяўся за бутэльку.

— Ну што ж, давай адзначым жаночае свята. Сядай, чаго там,— запрасіў ён. Яна паслухмяна і няўпэўнена, бы ў гасцях у чужой хаце, прысела на лаўку.

Яны выпілі — ён паўшклянкі, яна са свайго кілішка. Пархомаў пачаў апетытна закусваць селядцом, яна таксама ўзяла кольца агурка і паціху жавала. Першы кілішак

узняў у ёй цэлы рой добрых, імклівых пачуццяў, адразу стала радасна і светла, але яна хавала гэта ў сабе і толькі ўсміхалася. Ён ветліва падсоўваў ёй талерку з каўбасой і, быццам яна была яго госцяй, запрашаў:

— Ты еш, каўбаса смачная, маскоўская, самы раз: не цвёрдая, і сала ўвакурат.

Пасля яны выпілі яшчэ...

Ніколі ў жыцці ёй не было так хораша і па-маладому весела. Пархомаў добра еў, аж пачырванеў з твару ад выпітага і з'едзенага і з нейкай лёгкай сяброўскай шчырасцю абыходзіўся з ёю. Ён нешта гаварыў і гаварыў усё, але яна дрэнна ўнікала ў сэнс яго слоў. Яна ўся аддалася ва ўладу сваіх пачуццяў — ціхага шчасця ад прывабнай цеплыні блізкай чалавечай душы.

Урэшце, відаць, наеўшыся і напіўшыся, Пархомаў адсунуў ад сябе талеркі, адчыніў партабак. Яна, поўная захаплення да гэтага чалавека, усё пазірала на яго памаладзелы ўпарты твар, які заставаўся па-ранейшаму разважны і цвярозы, быццам гарэлка не мела ніякай улады над ім. А Пархомаў, смачна зацягнуўшыся, падсунуў лаўку бліжэй да яе табурэткі і раптам проста, упэўнена, але зусім не груба і не абразліва прыгарнуў яе да сябе.

І яна не вырывалася, не супраціўлялася, не аднеквалася, яна, як да жаданага, падалася да яго ўсім целам, прыціснулася да яго шырокіх, разагрэтых хатнім цяплом і гарэлкай грудзей і ўтуліла ў яго пінжак свой гэткі ж гарачы твар. Ён моўчкі і моцна туліў яе, гладзіў па плячах сваімі шорсткімі далонямі, а яна, здавалася, гатова была памерці за тыя хвіліны незвычайнага, ніколі не зведанага шчасця чалавечай блізкасці. Нейкая хваля шчаслівай бяздумнай знямогі ахапіла яе, узняла на страшную вышыню, ад якой зацяло дух і панесла, аж покуль яна перастала адчуваць сябе...

Уранку, ледзьве памыўшыся, і дужа спяшаючыся, Пархомаў сабраўся і пайшоў. На парозе ён пацалаваў яе ў лоб, таропка прыгарнуўшы да сябе, і скупа сказаў на развітанне:

— Ну, будзь здарова. Не смуткуй, нічога. Харошая ты, праўда.

Яна пачала наводзіць дома парадак, прыбрала пасцель, перамыла посуд. Увесь час яе перапаўнялі ўзнёслыя, радасныя адчуванні ад усяго, што здарылася, ад таго, што ёсць гэткі просты і гэткі цудоўны чалавек на зямлі. Ёй вельмі прыемна было адчуваць, што яна,— як і ўсе жан-

чыны, не якая-небудзь пагарджаная няўдаліца, а таксама вось прывабная і любая мужчыне, што ён аддаў ёй столькі пяшчоты і шкадуе яе. Ураз знікла тая застарэлая маркота, якая ў адзіноце гэтулькі год дапякала ёй,— Фрузына адчула незвычайную дзявочую лёгкасць, зухаватасць,— здавалася, вярнулася яе даўняя забытая маладосць.

З гэтымі новымі радаснымі адчуваннямі яна прыйшла на працу, змяніла ў вестыбюлі Драздову, замяла падлогу, выцерла падаконнікі і не ведала, куды яшчэ падзець сваю сённяшнюю імклівую энергію. Як заўсёды, за акном бразнулі дзверцы і паўз яе, важна сапучы, прайшоў Іван Кузьміч. Яна павіталася з ім, але ўжо не тым палахлівым голасам, а з нейкай годнасцю і незалежнасцю ў тоне. Неўзабаве мякка, па-кацінаму ступаючы на тоўстых падэшвах, прайшоў Петрачэнкаў, і ён не здаўся ёй сёння такім недасяжным і далёкім, як заўсёды. І калі, адстукаўшы абцасікамі на ганку, у вестыбюль з'явілася Нонка, Фрузына не вытрымала і на прывітанне ветліва адказала:

— З мінулым святам вас, Нона Васільеўна!

Увесь гэты дзень Фрузына з прытоеным бляскам шчаслівых вачэй усміхалася знаёмым. Хацелася ёй, каб хто спыніўся, загаманіў з ёю, нешта вялікае бруіла ўвесь час у яе душы, не змяшчаючыся там, і жанчыне карцела падзяліцца з людзьмі сваёю радасцю, толькі дзяліцца не было з кім.

З таго дня Пархомаў стаў часта наведваць яе. На працы ва ўстанове, сустракаючыся з ёю, ён быў ранейшы — па-дзелавому строгі, заклапочаны, нават трошкі нясласкавы — як і ўсе. Яна не падыходзіла ўжо да яго, як раней, толькі віталася пры сустрэчах — і ўсё. Здавалася ёй: тое, што сталася між імі, трэба берагчы ад староннягa вока, і не таму, што хтосьці можа перашкодзіць ім, а так, проста было неяк сорамна ад людзей. Яна чакала суботы, нядзелі, калі ў яго і ў яе супадалі выхадныя, прыбірала ў пакоіку, апранала сваю сінюю з мярэжкамі сукенку і садзілася ля акна. Ён заўсёды прыходзіў перад вечарам, часам прыносіў бутэльку, а болей ішоў так. Яна ўсё па-ранейшаму хвалявалася, сустракаючы яго, а ён ужо асвойтаўся ў яе пакоі, трымаў сябе роўна і ўпэўнена. Пакуль яна гатавала на дваіх вячэру, ён, каб не сядзець без справы, браў сякеру, малаток і ладзіў што-кольвечы па гаспадарцы — замасціў дзіркі ў падлозе, затуліў дах, паправіў лаўку на прызбе. Суседкі перашэптваліся і хітра ўсміхаліся, сноў-

даючы па панадворку, але яна не саромелася іх. Наадварот, яна ціха таіла ў сабе стрыманую жаночую гордасць, гордасць за сябе і за чалавека, які стаў поруч з ёю.

У доўгія гадзіны пяшчотнай блізкасці яны болей маўчалі. Ён часта прытульваў яе да сябе, гладзіў, зрэдку ўздыхаючы — здагадвалася яна — шкадаваў яе. Ён амаль ніколі не казаў нічога пра свае пачуцці, ні пра сям'ю, якая, яна ўжо ведала, была ў яго ў Баранавічах. Хоць ёй і вельмі хацелася ведаць пра ўсё гэта, але яна не пыталася, каб не парушыць чым свайго нечаканага, няпэўнага, толькі трошкі зведанага шчасця. Яна вельмі берагла і вельмі баялася за тое шчасце — чула яе душа, што яно кволае і кароткае, як усё неспадзяванае, цудоўнае...

Тым часам прыйшоў сонечны квяцісты май. Зранку над горадам зіхацела чыстае блакітнае неба, пад сценамі туліліся сінія цені, на рагу пачалі прадаваць газіроўку. Петрачэнкаў апрануў клятчасты, бы шашачная дошка, скошаны ў плячах пінжак, Нонка ляскатала ў асляпляльна белых басаножках на вострых абцасах. Ля ганка ўстановы былі дзве вялікія клумбы, і на іх, ледзьве прарэзаўшыся з зямлі, чысцюткай сінявой стракацелі анюціны вочкі.

Аднаго ранку, счакаўшы, пакуль перастануць рыпець дзверы і ўсе супрацоўнікі разыдуца па кабінетах, Фрузына ўзяла пад лесвіцай палівачку, набрала ў бочцы вады і выйшла паліць клумбы. Пасля застылай засені вестыбюля на сонечным угрэве вуліцы было цёпла і ўтульна. У Фрузыны, як і ўсе гэтыя дні, было добра і спакойна на сэрцы. Тая ўзрушаная радасць, што спачатку поўніла яе і бруіла ў ёй, спакваля саступіла месца роўнаму замілаванаму пачуццю,— так хацелася пражыць жыццё, і шкадаваць не было б чаго.

Жанчына палівала, стараючыся ступаць як мага асцярожней, каб не парушыць цудоўнага харавства гэтых мігатлівых, як зоркі, кветак, і ўсё думала, думала пра яго,— незвычайнага гэтага Пархомава. Ён ужо тыдзень, як быў у камандзіроўцы, таму ёй не было каго сустракаць ні дома, ні на панадворку ўстановы, заставаліся толькі думкі, успаміны, розныя меркаванні.

У гэты час адчыніліся дзверы, і прыбіральшчыца Ганка, санлівая, леная дзяўчына, чухаючы бок, прамовіла:

— Цётка Фрузына, вас Петрачэнкаў клічуць.

У яе адразу нядобрым прадчуваннем здрыганулася сэрца, але яна знешне спакойна выйшла з клумбы, паста-

віла на асфальт палівачку і, паправіўшы на грудзях брошку, нетаропка пайшла ў будынак. Яна ўзнялася на другі паверх і, прыпыніўшыся ля чорных дэрмацінавых дзвярэй, нерашуча пацягнула ручку.

Петрачэнкаў пісаў. На яе прыход ён нават не ўзняў свайго акулярыстага твару, толькі буркнуў: «Ага, зараз». Апроч яго, тут яшчэ за трыма сталамі сядзелі людзі — усе былі заняты сваімі справамі і, здавалася, не звярталі на яе ніякай увагі. Фрузына стала ля петрачэнкаўскага стала і з хвіліну чакала, усё робячы здагадкі, якая патрэба прымусіла гэтага чалавека клікаць яе.

Напісаўшы, што трэба было, ён пачаў поркацца ў паперах на стале і, нібы аб якой простай будзённай справе — надвор'і ці нясвежай вадзе ў графіне, задаў пытанне, ад якога ў яе пахаладзела ўнутры.

— Слухайце, Сямашка, ці праўда, што вы таго... з шафёрам гэтым, як яго?.. З Пархомавым?

Петрачэнкаў коратка бліснуў акулярамі, а яна, счырванелая і збянтэжаная ад гэтай бессаромнай праматы, стаяла і пакутна ламала свае непрыгожыя пляскатыя пальцы.

— Га? — зноў запытаўся гэты выглянцаваны чалавек.— Відаць, плёткі, праўда?

Яна ніколі не хлусіла нікому, ніколі не апраўдвалася, калі была вінавата, і, хоць цяпер была здзіўлена і абражана гэтай бесцырымоннасцю, сказала:

— Ну, а што? Ну, ён прыходзіць калі...

Петрачэнкаў варухнуў брывамі, здзіўлена пераглянуўся з некім за яе спіной, крыва ўсміхнуўся і загаварыў прыкра і нудна:

— Прызнацца, не чакаў такога... здзіўляючага сваёй класічнай праматой адказу... А вы ведаеце... што такімі сваімі... ганебнымі, я сказаў бы, паводзінамі кідаеце цень неблагачыннасці, так сказаць, на ўсю ўстанову, вось... Вам вядома, што гэты ваш, як яго... Пархомаў мае сям'ю, так сказаць, да якой ён нейкім чынам павінен захоўваць свой абавязак. Вось. І цяпер, у свеце вашага недвухсэнсоўнага прызнання, я, як старшыня мясцкома, буду вымушан не абмежавацца гэтай гутаркай, а прыняць, так сказаць, дзейсныя меры, з тым разлікам, каб...

Да яе дрэнна даходзіў сэнс гэтых слоў, яна да болю ў душы адчувала толькі, што сталася нешта агіднае, нешта ганебнае і што яна вінавата ў нечым. Затуманеным зрокам жанчына глядзела цераз лысаватую галаў гэтага ча-

лавека праз акно на панадворак, там відаць быў канец гаража, апошнія вароты, дзе стаяла машына Пархомава. Цяпер гэтыя вароты былі зачынены. І ёй стала вельмі сумна ад таго, што яна адна і што ёй за дваіх трэба прымаць гэты цяжкі ўдар. З прыкрым адчуваннем нейкай так і не зразуметай віны Фрузына неўзабаве спусцілася ўніз на сваё месца ля вешалак і прысела, абапёршыся на падаконнік.

Жанчыне нават стала дзіўна, як гэта яна не прадбачыла, што яе могуць абвінаваціць, зняславіць. Пасля горкіх калючых слоў Петрачэнкава было ясна, што людзі не даруюць ёй гэтай блізкасці да Пархомава, але зноў жа — у чым была яе віна, Фрузына так і не магла зразумець. Хіба яна дабівалася чаго, хіба на што благое падбівала Пархомава, хіба чаго злачыннага жадала ад яго?

Нейкі агідны цень запаў у яе душу, і жанчына ўсё не магла зразумець, каго тут вінаваціць — сябе ці Пархомава,— ад гэтага было вельмі тлумна і прыкра. Змаркатнелая, яна ледзьве дачакалася вечара і, так і не разабраўшыся ў сабе, ад крыўды немаведама на каго і завошта, ціха паплакала, ідучы дадому.

На другі ранак пасля тае размовы з Петрачэнкавым яна сядзела ў вестыбюлі і баязліва чакала дзевяці гадзін, калі пачнуць зыходзіцца людзі. Першы, як, бадай, заўсёды, з'явіўся інжынер Шаўроў, як заўсёды, ён старанна выцер ногі і кінуў ёй:

— Прывет! Ну што? Як жысць?

Яна нешта новае ўлавіла ў яго тоне і насцярожылася, сціснулася нутром, чакаючы якой нетактоўнасці. І ён не замарудзіў — выпаліў ці то жартам, ці ўсур'ёз, бы пра якую дробязную справу:

— Кажуць, ты ўжо гэтае самае... жаніха знайшла. І недалёка, толькі сямейнага, так сказаць. Што ж, брава, брава.

Сігаючы цераз прыступкі, ён узнімаўся па лесвіцы, мабыць, адразу забыўшыся пра свой жарт, а Фрузына адчула раптам, як хіснулася столь, скрывіліся калоны — ёй стала млосна. Але жанчына стрымалася, прыхінуўшыся да падаконніка, і ўжо амаль не прыкмячала і не віталася ні з кім — ні з Іванам Кузьмічом, які нават не зірнуў у яе бок, ні з Петрачэнкавым, які сёння чамусьці ўважліва агледзеў яе халодным позіркам бялёсых вачэй, ні з Нонкай, якая падкрэслена ветліва і са смяшынкай у вачах

павіталася з ёю. Фрузыне было вельмі крыўдна і на сябе, і на людзей, і на ўвесь белы свет.

Увечары таго дня вярнуўся з камандзіроўкі Пархомаў.

Праз акно пад лесвіцай з вестыбюля яна адразу ўбачыла яго машыну, калі ён заварочваўся, каб заехаць у гараж, і яе сэрца зноў, як некалі, у час яго першага прыходу, нязладна забілася ў грудзях. Яна памкнулася на панадворак, але спынілася ля акна, пачакала трохі, пакуль ён уладкуецца з машынай, і пасля, з намаганнем пераступляючы ногі, пайшла да варот.

Ён зняў акумулятар і ануччай выціраў яго клемы, але, пачуўшы крокі, адразу ўстрывожана азірнуўся. Відаць, нешта кепскае азначылася на яе твары, бо шафёр адразу ўстрапянуўся і выпрастаўся. Фрузына, прыкмеціўшы гэта, спрабавала няўдала ўсміхнуцца і, павітаўшыся, сказала:

— Ведаеш, мяне Петрачэнкаў выклікаў. Лаяў... Пытаўся, ці праўда, што ты да мяне ходзіш?

— Што? — не зразумеў ён.— Што? А скуль ён ведае?

На яго запыленым, змораным твары мільганула трывога. Фрузына патупіла вочы.

— Ну... А ты што? Што ты сказала?

— А што мне было казаць? Сказала, што прыходзіш...

— Дурніца! — Пархомаў з прыкрасцю шпурнуў на зямлю анучу. Потым патаптаўся на месцы, узняў на яе раззлаваныя вочы.— Хіба так можна? Эх, ты!..

Яна ўраз зразумела, што ён не так, як чакала яна, паставіўся да гэтае справы, і ў жанчыны стала пуста і самотна ў душы. Страціўшы надзею і сілу, яна ледзьве дабрыла да свайго месца за перагародкай і ўжо не стрымлівала роспачных слёз, што душылі яе. Побач рыпелі дзверы, хадзілі людзі, нешта казалі, пыталіся, але яна не глядзела ні на кога, не адказвала, не слухала.

Наступілі гаротныя дні.

Пархомаў болей да яе не прыходзіў, пазбягаў сустрэч, па працы яна часта бачыла ў акно, як прызвычаіўся ён да шафёрскай кампаніі, сядзеў, курыў, размаўляў нароўні з усімі. Фрузыне было ад таго дужа балюча, яна па-ранейшаму імкнулася да яго, ні ў чым не вініла, цяпер ужо яна папракала сама сябе, што адкрылася тады Петрачэнкаву, але фальшывіць, хлусіць, ашукваць яна не ўмела.

Ёй было вельмі пакутна ў адзінокія ночы ў сваім пакойчыку — думаць, уздыхаць, успамінаць нядаўнія, поў-

ныя хмельнага шчасця, дні. Часта яна зноў адчувала сябе вельмі адзінокай, пагарджанай, ды ўжо куды мацней і нясцерпней, чым у ранейшыя разы.

І тады аказалася, што яна будзе маці.

Спачатку Фрузына вельмі спалохалася ад тае навіны — яе ахапіў жах, калі яна прыгадала, як паставяцца да яе на рабоце, што скажуць суседзі. Ёй карцела некуды бегчы, неяк ратавацца ад той бяды, якая навісла над ёю. Але на змену спалоху неўзабаве з'явілася новая думка, што вельмі дзівіла яе: у яе будзе дзіця — свая маленькая родная істота, самая важная і самая дарагая ў жыцці. Яна прыпомніла знаёмых суседскіх дзяцей, блізнятак Драздовай, і неспадзявана яе ахапіла супярэчлівая хвалюючая радасць. Яна ведала ўжо, што будзе шмат гора наперадзе, што Петрачэнкаў, бадай, не адступіцца са сваімі нуднымі пропаведзямі, што будуць насмешкі і сорам, але ўсе гэтыя нягоды марнелі перад новай вялікай радасцю мацярынства.

І Фрузына пакрысе супакоілася, павесялела, яна пачала прыглядваць за сабой — у час паесці, не заседжвацца начамі, у меру хадзіць. Са сваёй трохсотрублёвай зарплаты яна пачала ашчаджаць грошы — яны так патрэбны ёй будуць тады, як з'явіцца ён. Жанчына зноў, як калісьці ў шчаслівую пару яе адносін з Пархомавым, адчула сябе ладнай, здольнай, разумнай, такой, як і ўсе задаволеныя жыццём людзі. Пра свой новы стан яна не сказала нікому, як мага глыбей тоячы свае надзеі. Яе цяпер вельмі цікавілі дзеці, і яна часта, ідучы дадому, спынялася дзе ў скверы і падоўгу пазірала на малых карапузаў у калясках, на дарожках, на руках маці.

Так ішоў час, і надышла пара, калі людзі пачалі прыкмячаць перамены ў яе аблічы. Неяк у час змены Драздова ўважліва, з падазронасцю паглядзела на яе закругленлы жывот і з заўсягдашняй грубаватай праматой, уласцівай гэтай жанчыне, спытала:

— Што гэта ты растаўсцела? Ці не дзіцёнак?

Фрузына сканфузілася, затуліла далонямі жывот, але хіба можна было ўтаіць тое, што адбывалася ў ёй? І, зразумеўшы гэта, яна ўсміхнулася са стрыманай шчырай радасцю ў вачах і паведаміла, як найвялікшую сваю таямніцу:

— Ага, дзіцёначак.

— Ах, каб ты праваліліся! — са знарочыстай злосцю загаманіла Драздова.— Што ж гэта ты дапусціла сябе, не

ў час агледзелася? Трэба ж было раней, цяпер жа можна і нядорага... Ах, каб цябе!..

— Навошта? — зразумеўшы, пра што кажа жанчына, сказала яна.— Хай.

— Хай?! — здзівілася тая.— Вось дык гунора! Хай! Што ты сабе думаеш, баба? Як жа так можна? Не замужам і хай! Ты думаеш, гэта што — дзіця? Гэта катарга, жызні сваёй не ўзлюбіш, свет праклянеш! Гэта ты ненавучаная, вядома. А я ўжо шасцярых выградзіла, хай ім дно з прарэхай — дзецям гэтым. Праз іх да часу ў магілу ляжаш...

Фрузына маўчала, папраўляючы на сабе кофту, пакарацелую наперадзе спадніцу. Трэба было б пашыць што шырэйшае, вальнейшае, але яна шкадавала грошай, дый навошта? Яна не саромелася, ні ад каго не таілася, яна ўжо зжылася з думкай аб сваім маленькім і да часу яшчэ ганарылася ім.

А Драздова ніяк не магла ўгаманіцца, і кожную раніцу, сустракаючыся з ёю (пэўна, і за вочы таксама), лаяла ўсё яе дурасць, а яшчэ болей Пархомава.

— Ах ты зладзюга, каняга няшчасны! Што нарабіў бабе! — не зважаючы на людзей, што праходзілі міма, злосна лапатала яна за сваёй перагародкай.— Я яму вочы выдрала б, фізіяномію расквасіла. Папомніў бы ён мяне, вырадак пракляты. Не, я гэтага не даравала б так ціхагладка. Што стаіш? — крычала яна на Фрузыну.— Ідзі да дырэктара, да мясцкома, хай яго, нягодніка, жаніцца прымусяць.

Але яна не ішла ні да кога, нікому не скардзілася, на Пархомава яна проста забылася сярод сваіх новых турбот. Праўда, яна разумела, што крыху памылілася ў ім, што залішне панадзеялася на яго прыхільнасць да яе, але хіба ён учыніў ёй што кепскае? Усё, што датычыла яго ў яе ўспамінах, было добрае і светлае, і калі ён перамяніўся да яе пасля, дык што ж... Ведама ж, яна не нявеста, дый ён не які там жаніх. Адным словам, крыўдаваць, злавацца на яго Фрузыне, здавалася, не было за што. І яна жыла сама па сабе, як і да яго, жыла марамі аб маленькім,— цяпер ужо ёй не страшна была адзінота і не дужа патрэбны і Пархомаў.

Але хоць яна і замкнулася ў сабе, у сваіх надзеях і клопатах, людзі ўсё ж не перасталі турбаваць яе. Жонка Пархомава, відаць, нешта дачулася ў Баранавічах і неўзабаве балюча нагадала аб сабе. Аднойчы ў пагодны дзень,

толькі што заступіўшы на дзяжурства, Фрузына захацела нечага выйсці і ў тых скрыпучых дзвярах спаткалася з дырэктарам. Жанчына спаважна саступіла ўбок, павіталася, імкнучыся як найхутчэй размінуцца. Але дырэктар, невыразна буркнуўшы нешта на яе «дзень добры», нечакана спыніўся, перахапіў у руцэ жоўтую папку і, гледзячы зверху ўніз, з затоенай пагардай у строгіх вачах сказаў:

— Ага, дарэчы, таварыш Сямашка, што гэта ў вас з Пархомавым? Жонка ліст прыслала, судом пагражае. Яго я ўчора зволіў па ўласнаму жаданню, але вы што сабе думаеце?

І, нахмурыўшы касмылявыя крутыя бровы на выгаленым укормленым твары, ён утаропіўся ў жанчыну і чакаў, што яна скажа. А Фрузына раптам адчула, што ёй замінаюць рукі, пачала церабіць аборку кофты на вялікім ужо жываце і гатова была праваліцца ў зямлю ад гэтага яго дапытлівага позірку. Ёй зрабілася млосна і крыўдна, у горле захраслі ўсе словы, і яна нічога не магла адказаць, толькі думала, каб як перабароць сябе, не хвалявацца, бо гэта шкодна яму, маленькаму. Добра, што дырэктар не настойваў, пастаяў троху, паўзіраўся ў яе збянтэжаны твар і, пакруціўшы галавой, падаўся да лесвіцы.

Толькі б не хвалявацца, толькі б стрымаць сябе, не заплакаць — патрабавала яе мацярынская рупнасць і пасля, калі яна зноў вярнулася да свайго акна, і на другі дзень — дома, калі ёй давялося ўчуць, як, сабраўшыся на прызбе за рогам, абгаворвалі яе суседкі. Яна прымушала сябе аглухнуць да ўсяго благога, фанатычна школіла сваю волю, каб не раздражняцца нічым, не хвалявацца ад людской нядобразычлівасці.

Так мінула лета і паціху пачала ўсталёўвацца восень. Фрузына данашвала апошнія месяцы, ёй было трудна штурхацца ў аўтобусах, і яна ўсё часцей з працы і на працу хадзіла пехатой. Водпуску яна не брала — ніхто ёй не прапаноўваў таго, а прасіць у яе не хапала адвагі. Усё ёй здавалася, што яна нечым не дагадзіла людзям, нешта зрабіла не так, і ад таго хацелася як мага меней трапляць ім на вочы і турбаваць іх. Добра, што на дварэ стала халадней, пачаліся нудныя восеньскія дажджы, і яна апранула фуфайку, каб меней вылучацца сваёй цяжарнасцю.

Драздова неяк змяніла свае грубаватыя адносіны да яе, не лаяла ўжо, нічога не дамагалася. Аднойчы толькі, калі Фрузыне нешта занядужылася на працы, вахцёрка

прагнала жанчыну дадому, накрычаўшы за яе няўвагу да сябе. Заадно яна палаяла і Пархомава, а таксама пачала наракаць на сваю горкую долю, якая ніколі не дае ёй спакою.

Чаго Фрузына найбольш баялася, тое пачалося на працы. Зранку было дужа сцюдзёна, дзьмуў моцны вецер, яна не ўлезла ў перапоўненыя аўтобусы і цераз увесь горад ішла пешшу. Заступіўшы на дзяжурства, жанчына як села на табурэтку ля акна, так і не магла ўжо ўстаць. Ёй рабілася горача, млелі ногі, але яна дужалася з немаччу і неяк дацярпела да абеду. Далей ужо трываць было нельга, і Фрузына зразумела, што прыйшоў той час.

Яна папрасіла прыбіральшчыцу Ганку падзяжурыць да змены, а сама асцярожнай, кволай хадою, мацаючы сцены будынкаў, выправілася ў радзільны дом. Добра, што ісці было недалёка, хоць і вельмі трудна, і яна праз гадзіну з супынкамі дабралася туды.

Увечары яна радзіла. Радзіла без аніводнага крыку, без стогну, задушыўшы ў сабе ўвесь пякельны боль — яна ўсё не хацела турбаваць людзей. Дакторка пахваліла яе за цярплівасць, і, калі паведаміла, што нарадзіўся спраўны, ніштаваты хлопчык, Фрузына адразу забылася на пакуты.

Хлопчык абурана, гарласта крычаў, пакуль яго выносілі прэч, і яна той раз на ўсё жыццё запамятала яго патрабавальны, характарны крык. Пасля яна ўбачыла яго маленькі ружаваты тварык з прыплюшчанымі вачанятамі і прагнай маленькай прысоскай на верхняй губе. Ссаў ён добра, жвава, смачна цмокаючы маленькім роцікам, і яна аж замірала ад нязведанай мацярынскай асалоды.

У раддоме ёй было добра. Праўда, з дванаццаці гадзін, калі ў калідоры пачыналі бегаць санітаркі, носячы перадачы, выклікаючы парадзіх, яна адчувала цьмяны неспакой у душы. На ўсіх тумбачках у палаце ў спецыяльна прыгатаваных на тое вазах стракацелі кветкі, яе ж ваза стаяла пустая. Праўда, кветкі, розныя прысмакі зусім не патрэбны былі жанчыне і нічуць не турбавалі яе, вось хіба толькі людскія вочы... Ад людзей цяжка ўтаіць, што ў сваёй душы, суседкі ў палаце і сёстры, відаць, разумелі ўсё, але маўчалі, не распытвалі, і яна за гэта была вельмі ўдзячна ім.

Але яна ніяк не магла пагасіць у сабе ўсё болей агартаўшай яе трывогі. Ёй прыгадаўся даўні выпадак, што адбыўся некалі ў яе роднай вёсцы. То былі цяжкія часы, калі толькі што скончылася вайна і з франтоў вярталіся

салдаты. Усе, у каго хто-небудзь быў у войску, чакалі служывых, адна толькі Галена, маладая салдатка, не чакала свайго Яўхіма, які ў шаснаццатым годзе склаў сваю галаву ў невядомай далёкай Галіцыі. Даведаўшыся аб тым страшным здарэнні, Галена дзён колькі несуцешна галасіла на ўсю вёску, а пасля запрагла буланага і паехала араць свой надзел.

Фрузына была тады зусім маленькай дзяўчынкай, у ворыва насіла бацьку на поле яду і ўсё не магла зразумець, чаго гэтая маладзіца так мала арэ, а ўсё сядзіць у баразне ля плуга і плача. Аднак пасля нехта памог кабеце, яна супакоілася, павесялела, а яшчэ праз нейкі час нарадзіла маленькую крыклівую дзяўчынку. Фрузына добра памятае гэтую яе крыкушку ў плеценай зыбцы на бярозавай жардзіне — яна тады з другімі дзецьмі не раз падбягала пад вокны глядзець на малую, што нарадзілася без бацькі. На вёсцы гэтае нараджэнне стала незвычайнай падзеяй, аб ім з'едліва і абразліва гаварылі мужчыны, бабы і нават дзеці. Пасля здарылася такое, што страшна нават і ўспамінаць. Дзед Пахом, свёкар Галены, круты, ваўкаваты стары, напіўшыся на нейкае свята, да паўсмерці пабіў маладую ўдаву. Галена з паўгода пакашляла крывёй і памерла, і ніхто не шкадаваў яе, не апраўдваў. Нябогу пахавалі на краі могілак, і яе курганчык неўзабаве зарос быльнягом, а вясковыя бабы пачалі ёю палохаць дзяцей.

Праўда, цяпер часы іншыя, але ўсё ж людзі бываюць розныя, хіба не знойдзецца хто пакпіць з адзінокай нямаладой жанчыны. Фрузыне ўсё здавалася, што пасля ўсяго, што здарылася, ва ўстанове не даруюць ёй такога ганебнага мацярынства. Яна ўжо прадбачыла, як будзе выгаворваць ёй Петрачэнкаў, можа, нават выклічуць на мясцком і дадуць якое спагнанне. Праўда, яна ўсё намагалася пазбыцца турбот аб сабе, дбаць толькі пра свайго малога, але заглушыць неспакой было немагчыма. І Фрузына ўгаворвала сябе трываць — усё перажыць адной, адасобіцца ад людзей, жыць толькі ім, аглухнуць да ўсяго благога.

Папраўлялася яна добра, і праз некалькі дзён адчувала сябе няблага. Ёй дазволілі ўставаць, і Фрузына, сеўшы на ложку і захінуўшыся ў халат, чакала ўсё часу кармлення, калі прывозілі малых. Яшчэ здалёк на парозе яна пазнавала свайго ў радку зусім падобных белых скруткаў на калясцы і, не могучы ўтрымаць замілаванай радасці, першая ўзнімалася насустрач, карміла і з вялікай неахвотай аддавала яго назад. Сёстры хвалілі яе малога, дактар-

ка шматзначна назвала вагу — 4 800, і мацярынскае сэрца поўнілася ціхім гонарам. Ніколі яшчэ так не ганарылася яна ў сваім жыцці. Гэта было сапраўднае, вялікае шчасце.

І вось прыйшоў дзень, калі трэба было пакідаць бальніцу.

У апошнюю ноч ёй стала асабліва неспакойна на душы. Звечара яна прысніла непрыемны, благі сон, ратуючыся ад пакутаў якога яна прачнулася і ўжо болей не заснула да ранку. Ёй сніўся Петрачэнкаў, і дырэктар Іван Кузьміч, і Шаўроў, быццам яны з'явіліся ў раддом і злосна патрабавалі ў яе вярнуць некуды яе малога. Яна вельмі спалохалася, бо яе абвінавачвалі ў крадзяжы дзіцяці, на якога яна не мела права, а як апраўдацца, даказаць, што гэта яе дзіцёнак, яна чамусьці не мела сілы. І яна толькі пакутавала і бегала па пакоях, па вуліцах, хавала малога, а за ёй ганяліся людзі і атукалі, як у полі на воўка.

Яна не стрывала да канца гэтага страшнага відовішча, але ўжо ведала, што заўтра здарыцца нешта благое. На світанні яна ўзнялася і стала клапаціцца, каб сабраць свае рэчы, званіла па тэлефоне ва ўстанову. Ноччу там дзяжурыла Ганка, якая, аказваецца, цяпер замяніла яе ля дзвярэй, Фрузына папрасіла перадаць Драздовай, каб тая прынесла з кватэры малому бялізну. Пасля яна стала чакаць, калі папрыходзяць дактары і напішуць яе дакументы. Ёй было ніякавата ад таго, што ніхто не прыйдзе за ёю, што і ў апошнюю хвіліну ёй не мінуць украдкам кінутых позіркаў сясцёр, санітарак,— позіркаў, у якіх празмерная цікаўнасць, здагадкі і прытоенае асуджэнне.

Час ішоў вельмі марудна. Мінула ўжо і дзесяць, і адзінаццаць гадзін, а Драздовай усё не было. Фрузыне ўжо выдалі дакументы — даведку, што ў яе нарадзіўся хлопчык, што яму зроблены ўсе прывіўкі. Гэтую даведку, бы найдаражэйшы дакумент, яна загарнула ў паперку і схавала за пазухай. Яна ўсё хадзіла па калідоры і чакала, агорнутая клопатам, як данесці малога дадому па такой сцюжы, што трэба было б купіць цёплую коўдрачку, ды вось дагэтуль на ўсё не хапіла грошай.

Жанчына аж здрыганулася, калі сястра адчыніла ў калідор дзверы і паклікала яе апранацца. Там, у пярэднім прахадным пакойчыку, яна спаткалася з Драздовай — захутаная ў цёплы шалік, у плюшавым жакеце, вахцёрка чакала яе са скруткам у руках. Яна ледзь прыкметна ўсміхнулася насустрач Фрузыне знарок сярдзітымі вачыма і загаварыла сваім грубаватым голасам:

— Ну што, выхадзілася, нябога? Ну, нябось пазнала, дзе ракі зімуюць? А што, не казала я?! Ну! Дзе ён — твой крывапівец? На вось, сабралі тут. На кватэру я не хадзіла — далёка, ну яе.

Яна сунула ў рукі Фрузыне тугі скрутак — коўдрачка, прасцінкі, сіняя шаўковая стужка. Жанчына здзівілася: чыё ж усё гэта?

— Бяры, бяры,— папіхнула яе Драздова.— Сабралі тут. Нонка, Куцячыха, Шаўроў даў паўсотні. Я сваіх пару пялёнак загарнула — спатрэбіцца.

— Дзякуй,— сказала Фрузына і прыплюшчыла вочы. Ёй раптам стала нечага вельмі жаласліва на душы — і да сябе, і да іх, што не забыліся, не пагрэбавалі...

— Ну ідзі, ідзі, паказвай свайго крывасмока,— падштурхнула яе Драздова.

Яна хуценька апранулася ў сваё пакамечанае, несамавітае адзенне, ад якога ўжо паспела адвыкнуць, і ўсё пазірала на дзверы, прыслухоўвалася — адтуль у першы свой шлях па зямлі павінен быў выйсці сын, яе ўцеха і яе вялікае шчасце ў жыцці.

Вельмі занятая, рухавая і заклапочаная сястра вынесла ёй акуратна загорнуты пульхны скрутак, падала ў рукі і развіталася. Фрузына асцярожна ўзяла яго, адхінула ражок прасцінкі — ён соладка спаў, сцяўшыся тварыкам у маленькі ружовы камячок. Драздова таксама зірнула пад прасцінку.

— Спіць? Іш ты, Пархом халерны. Ну ладна, расці. Дай сюды, я...

Яна бесцырымонна забрала яго з рук маці, спрытна адчаперыла, штурхнула нагой дзверы, і жанчыны выйшлі на вуліцу.

Пакуль яны ішлі глухаватымі завулкамі, Фрузына паступова набіралася лёгкага радаснага забыцця. Ёй было добра — зноў тонкай, памаладзелай, перанёсшай труднае ў жыцці; радасна, што прыдбалася ў жыцці блізкая, дарагая істота, частачка яе жыцця; прыемна, што вось Драздова — заўсёды злаславая Драздова — гэтак дарэчы ўслужыла ёй.

А вахцёрка ішла крыху наперадзе і ўсё нешта прыгаворвала малому — нешта знарочыста сварлівае. Фрузына даўно ўжо прывыкла да гэтага яе тону і цяпер неяк асабліва выразна адчувала ў ім і спагаду, і пяшчоту, якія заўсёды былі старанна захаваныя пад гэтай знешняй яе незадаволенасцю. Яшчэ Фрузына вельмі ўдзячна была

Нонцы і Шаўрову. Адчувала яна, што шматлікія пакуты пеяк зблізілі яе з людзьмі, далі, відаць, ёй нейкае няпісанае права на людскую прыхільнасць.

Падыходзячы да іх установы, Драздова нечакана на-вярнула ўбок, да ганка.

— Ідзі, пакажам твайго крыкуна. Хай паглядзяць. А то — Фрузына такая, Фрузына сякая... Ідзі, ідзі, чаго там,— прыкрыкнула яна на жанчыну, калі тая нерашуча спынілася на вуліцы.

Фрузына збянтэжылася: ёй вельмі няёмка было несці туды дзіця, але Драздова ўжо адчыняла нязладныя дзверы. Нічога не заставалася рабіць, і яна вымушана была пацягнуць за тыя медныя ручкі-поручні. Дзверы працяжна прарыпелі, бы прывіталіся са старой знаёмай, і гэты іх рып душэўным болем працяў нутро жанчыны.

У вестыбюлі было цёпла, да іх адразу прытупала ў скрыўленых валёнках Ганка. Драздова, прымасціўшыся ля батарэі, пачала расхутваць малога.

— Во глядзі, якога мужыка займела баба. А то думалі, што Фрузына горш за людзей. Вунь як пазяхае, пражора! Толькі есці давай,— прыгаворвала яна, спрактыкавана разгортваючы пялёнкі.

Заўважыўшы навіну ў парозе, аднекуль з калідораў прыбеглі дзве прыбіральшчыцы, угары на лесвіцы дробна застукалі абцасікі, і цераз поручні нагнулася кучаравая галава Нонкі.

— О, што там у вас робіцца? — гукнула маладзіца і зноў заляскатала абцасамі, збягаючы ўніз.

— Ой, які маленькі, які карапузік, дайце мне, дайце я,— загаманіла яна, беручы малога і няўмела прытуляючы яго да сябе.

Фрузына вельмі баялася, каб ён часам не выпаў як на падлогу, яна ўсё падстаўляла рукі, непакоілася за кожны яе ліхаманкава-радасны рух. А Нонка ўсё хапала малога, шугала, прыціскала да сябе — дзіва было, колькі таілася пяшчоты ў гэтай жанчыне.

У той час у вестыбюлі аднекуль з'явіўся Шаўроў. Як некалі, у даўнія часы, ён здалёк басавіта гукнуў Фрузыне:

— Прывет, Фрузына! Як жысць маладая, вясёлая? О, я гляджу — з прыбаўкай цябе! Ну, маладзец,— казаў ён, падыходзячы да яе ў сваім шархоткім чорным плашчы.— Дайце ж і мне патрымаць чалавека.

Ён узяў маленькі скрутачак, асцярожна шугнуў яго ўгору-ўніз, і малое неспакойна заварушылася.

— Харош, харош, гвардзеец,— радасна ззяў вачыма інжынер.— Як жа назваць яго? — спытаў Шаўроў і паўзверх жаночых галоў зірнуў угору. На лесвічнай пляцоўцы, нерашуча занёсшы нагу на ніжэйшы прыступак, стаяў Петрачэнкаў.

— Эй, Петрачэнкаў, хадзі сюды!

Фрузына на момант спалохалася: ёй прыгадаўся сон і здалося, што Петрачэнкаў, як некалі, пачне дакараць яе. Але старшыня мясцкома руплі́ва заклаў пад стракаты пінжак такі ж стракаты гальштук і, асцярожна намацваючы прыступкі, паслухмяна пайшоў уніз. На яго заўчасна абвялым, нездаровым твары з'явілася ні то вінаватая, ні то цікаўная ўсмешка.

— Вось, глянь,— казаў да яго інжынер,— чалавек! Што, брат? Жыццё жывое творыць, ці не праўда?

Усё ўсміхваючыся, Петрачэнкаў падышоў да людзей, агледзеў малога, якога ўсё варушыў інжынер, здаецца, упершыню з цікаўнай павагай паглядзеў на Фрузыну. Праўда, ён не дакрануўся да яе сына, але ад яго зважлівасці ў Фрузыны паспакойнела ўнутры.

— Ну, што ж, чалавек, канешне, факт, гэта безумоўна,— паводзячы бліскучастымі акулярамі, зазначыў ён і, яшчэ, паўсміхаўшыся, дадаў, кажучы Фрузыне:— Вы вось што, Сямашка... Напішыце заяву ў мясцком... Рублёў гэтак на трыста... І яшчэ дырэктар сказаў, на яго «Пабедзе» адвязуць вас. Так што пехатой не ідзіце.

І Фрузына нечакана адчула, як разлілася па яе целе хваля нейкага цёплага пічымлівага пачуцця. Хвалюючыся і ўжо не збіраючыся супакойваць сябе, яна ўпершыню пачала спавіваць таго, хто здабыў ёй гэткую прыхільнасць людзей. Драздова гэты раз адступілася ад жанчыны, не памагала, толькі пільна назірала за яе яшчэ няўмелымі рухамі, тоячы на вуснах ледзь прыкметную ўсмешку. Шырока і шчыра, бы разумеючы штось таемнае, усміхаўся Шаўроў, спагадлівая весялосць свяцілася ў марудлівых вачах Ганкі і на тварах дзвюх прыбіральшчыц. Адна толькі Нонка чамусьці згубіла сваю нядаўнюю радасць, спахмурнела і, насупіўшы тонкія броўкі, патупілася.

Ап'янелая ад вялікага шчасця, Фрузына аднак не прыкмячала нічога, старанна затульвала малога і сарамліва ўсміхалася. Упершыню за шмат год жыцця адчула яна сябе чалавекам — нароўні з усімі людзьмі.

*1958*

# НЕЗАГОЙНАЯ РАНА

Мінаюць часіны — знікаюць руіны,
Злятаюць з палёў груганы.
І толькі ў сэрах баляць, не сціхаюць
Незагойныя раны вайны.

*Міхась Васілёк*

Буяе над абшарамі сцюдзёны асенні вецер, змятае пад прызбы пажоўклае лісце, гайдае мокрае галлё ў садку. Гарэзным свавольнікам выскаквае ён з-за вуглоў на цесны панадворак, здзірае саламяную страху хлеўчука, нібы дурэючы, матляе па Тэклінай спіне блытаныя махры яе хусткі. Ад ветру і холаду ў старой макрэюць запалыя вочы, яна раз-пораз выпростваецца і, прыставіўшы да чурбана выслізганае тапарышча, ражком хусткі выцірае слёзы. Потым яна стомлена ўздыхае і акідвае позіркам тыя некалькі паленцаў, што ўжо адсечаны ад жардзіны. Жанчына вельмі стамілася, а насекла столькі, што не хопіць і разу прапаліць у печы. Спачыўшы з хвіліну і аддыхаўшыся, яна зноў прыступае нагой на тую жардзіну і ўзмахвае вышчарбленай сякерай.

Над пустым бульбянішчам Тэклінага агарода, над недалёкім выганам і дарогай, што, узбегшы на ўзгорак, хаваецца ў шэрай далечы, марудна паўзе восеньскі адвячорак. Некуды спяшаюцца імклівыя пакудлачаныя хмары ў небе, за хатамі ў вёсцы трывожна бляе авечка і недзе разважна гяргечуць гусі.

Тэкля сячэ, адпачывае ў кароткіх перапынках і ўвесь час азірае дарогу. Відаць па ўсім, што яна кагосьці чакае, і гэтае чаканне балючым адбіткам тугі і надзеі свеціцца ў яе слязлівых вачах.

Нарэшце на пагорку з'яўляецца імклівая постаць веласіпедыста, і Тэкля па нейкіх адной ёй вядомых прыкметах пазнае ў ім калгаснага пісьманосца. Веласіпедыст набліжаецца абочынай дарогі, потым унізе, пад пагоркам, злазіць з машыны, выводзіць яе з калдобін і зноў сядае, локцем адкінуўшы на спіну цяжкую сваю сумку.

Па меры яго набліжэння старую ўсё больш ахоплівае нецярплівасць. Яна кладзе сякеру і з незагароджанага двара выходзіць на гразкую вуліцу. Рукі яе неспакойна блукаюць па грудзях, без патрэбы абмацваюць світку, твар зморшчыўся ў пакутлівым выразе чакання, і ў вачах — нясцерпная туга надзеі. Калі пісьманосец звярнуў з дарогі

ў вуліцу, жанчына па гразі шкандыбае насустрач, нібы баючыся, што ён без увагі абміне яе.

Пісьманосец прыцішвае бег веласіпеда, але не спыняецца, а ўзняўшы на жанчыну насуплены твар зморанага чалавека, груба папракае старую:

— Ну што ты мяне пільнуеш усё? Няма ж табе нічога. Нічога няма! — крычыць ён у твар жанчыне і знікае за рогам.

Старая нібы камянее на месцы, доўга яшчэ глядзіць услед праезджаму, і ў вачах яе — боль і здзіўленне. Нейкі час яна стаіць так без слоў і руху, аглушаная няласкай чалавека. «Нічога няма»,— шэпчуць яе засмяглыя палінялыя вусны, і жанчына павслі ўнікае ў сэнс гэтых грубых слоў. Разбітай цяжкай хадою яна вяртаецца на панадворак да сваёй сякеры, але не падымае яе, а доўга стаіць над жардзінай і ўсё пазірае ў імглістую далеч. Па яе пасівераных рудых шчоках ціха коцяцца слёзы.

Яна доўга яшчэ глядзіць на сумны пагорак, гразкую дарогу і бачыць над гэтай мясцінай цёплы ліпеньскі дзень, высокае яснае неба і густое жыта абапал дарогі. Гэта было ў той, ужо далёкі, памятны год, калі пачалася вайна. І тады яна таксама стаяла тут і з роспаччу ў сэрцы пазірала на гэты шлях, а ногі яе імкнуліся бегчы туды, за ім, адзіным сынам, яе Васем. Шпаркай хадой рухавага чалавека ён хутка аддаляўся, па самыя плечы затулены ўмалотнай высокай збажынай, не азірнуўся, аж покуль не адышоўся далёка. А яна, не адрываючы ад яго позірку, несціхана галасіла, вочы засцілалі слёзы і не давалі наглядзецца апошні раз на сваю васемнаццацігадовую надзею, сваё шчасце, частку яе матчынага сэрца. Толькі пасля ён спыніўся, павярнуўся да маткі, да роднай хаты і вёскі, пастаяў так, памахаў рукой, бы навек развітваўся з усім родным, сваім маленствам, маладосцю, і потым хутка знік за пагоркам.

І знік, відаць, назаўсёды...

Шаснаццаць страшных, нясцерпных год штогадзінным болем адмералі свой лік у матчыным сэрцы. Шаснаццаць год чакання, надзей, нязбыўнага трывожнага спадзявання. Часам прыходзілі пісьмы ў розных канвертах і з зусім аднолькавым зместам: радавы Сподак Васіль Іванавіч у спісах забітых і прапаўшых без вестак не значыцца. Яны бянтэжылі і абнадзейвалі, гэтыя пісьмы, але ішоў час, а надзеі не спраўджваліся. Суседзі часам казалі такое, супраць чаго з усёй матчынай сілай пратэставала сэрца,

якое верыла і чакала ўдзень і ўначы. Гэтая вера трымала старую ў жыцці, вымушала на клопаты аб сабе, але ж гэтулькі год мінала дарэмна...

Тым часам марудна цямнела, далячынь спавілася шэрай смугою, у паветры заспявала надакучлівая восеньская золь. Абудзіўшыся ад задумення, старая сабрала на руку нарыхтаваныя паленцы і, крануўшы закрутку сенцаў, увайшла ў хату. Тут было ўжо цёмна, ледзь свяцілася ў паўзмроку абшкрэбаная закураная печ, стуліліся ў куце стол і дзве лаўкі — уся хатняя абстаноўка жанчыны. Светлымі квадрацінамі сінелі яшчэ два акенцы, у адным чарнела заткнутая шыба. Старая паклала ля печы дровы, прыслухалася да знаёмай цішыні пустой хаты і, не распранаючыся, апусцілася на лаўку. Так яна сядзела доўга, думала ўсё пра адно і тое ж: дзе ён, ці жывы, ці не?

Спакваля змрок зусім затуліў пакой, толькі ўсё яшчэ бялела ля парога печ ды шарэлі вокны. Тэкля ўсё сядзела не кратаючыся, склаўшы на каленях рукі і схіліўшы ў задуме галаў. Яна моцна скаланулася, калі на ганку грукнулі нейчыя крокі, і, як заўсёды на ўсялякі стук, абамлела яе сэрца. «Ён!» Не маючы ўжо сілы ўскочыць і кінуцца насустрач, яна застыла ў напружаным пакутным чаканні. Нехта ўвайшоў у сенцы, зашкрэбаў рукой па сцяне, шукаючы клямку, і хутка адчыніў дзверы. «Няўжо, няўжо, няўжо?» — у нямым запытанні стукала сэрца і прагнула, каб было так. Але спадзяванні жанчыны хутка рушыліся.

— Ці тут вы, цётка? — пачуўся з парога знаёмы голас суседскай дзяўчыны Ульянкі. Збянтэжаная неспадзяванасцю Тэкля маўчала, не ў стане супакоіць даўні прывычны боль.

— Што ж гэта вы лямпы не паліце? А я прыйшла па запалкі, калі багаты. У нас, каб на іх ліха, гэтыя курцы за дзень усе павыцягалі. Не накупляешся на іх, дымакураў.

Тэкля моўчкі слухала і не чула дзявочай гамонкі, у галаве яе плылі маркотныя даўнія думкі. Неяк няўцямна старая намацала на прыпечку няпоўны карабок запалак, аддала дзяўчыне. Тая ўсё балбатала пра тое ды гэта, а потым, нібы адчуўшы, як далёка яе размовы ад сэрца жанчыны, змоўкла і, ужо ўзяўшыся за клямку, уздыхнула.

— Не мучцеся вы ўжо. Што ж зробіш? Калі дзе жывы, дык вернецца. А калі не... Калі не, дык трэба забыцца ўжо.

— Ці ж можна забыцца? — пакутліва адгукнулася Тэкля.— Калі б хоць ведала, што няма, дык лягчэй было б.

А так вось... У заўтрашні дзянёк якраз нарадзіўся ён, перад пакровамі. Нарадзіўся на белы свет, а шчасцейка, відаць, не суджана было. Ляжаць можа дзе адны костачкі — ведаць бы хоць у якой зямельцы — ці ў сваёй, ці — крый божа — у нямецкай.

Дзяўчына няёмка пераступіла ля парога, баючыся, што старая расплачацца і немаведама як тады супакоіць яе матчына гора. Але працяглы боль ужо высушыў слёзы старой Тэклі, толькі сэрца гарэла ад нясцерпнай пакуты.

У гэты вечар яна не паліла ў грубцы і не засвяціла лямпы. Яна ўзлезла на печ, трохі яшчэ цёплую аранку і, накрыўшыся світкай, скурчылася на ўскрайку. Яна не заснула, ды і не намагалася зрабіць гэта, а ляжала так, не заплюшчваючы вачэй, і ў змроку хаты перад ёй паўставалі даўнія, але незабыўныя малюнкі.

...Ён нарадзіўся ў гэткі ж, як сёння, ветраны восеньскі дзень — маленькі крыклівы хлопчык. Бацька толькі што перахварэў на тыф, ужо ўзняўся, хадзіў, але быў яшчэ кволы і слабы. Першы сынок стаў вялікай уцехай у гэтай крайняй у вёсцы хаціне. Абое з бацькам яны выняньчылі, выхадзілі яго, радаваліся яго першым крокам і першым словам. Ішоў неўзаметку час, і рос бялявы, ціхманы хлопчык — ласкавы, велікалобы, жвавы. У пяць год ён ездзіў з бацькам у поле, на начлег, пасвіў гусі, а потым, калі нарадзілася Марыська, стаў няньчыць яе. Вучыўся ён добра, на святы прыносіў маленькія школьныя прэміі: сшыткі, пенал, каляровыя алоўкі. Суседзі хвалілі сына, і часта матчына сэрца мацней білася ад радасці.

І Васілька пасля школы падаўся далей, у гарадскі тэхнікум, дзе вучыліся на настаўнікаў. Тады ж яна зведала першы боль растані і першую чароўную радасць сустрэчы. Ён быў зусім яшчэ падлетак, а ўжо яго паважалі ў вёсцы, суседкі зайздросцілі Тэклі, мужчыны хвалілі сына, а ён усё, як і ў дзяцінстве, быў ціхманы, сарамлівы і стрымана ласкавы з маці. Яна тады ўжо засталася адна — бацька не шмат пражыў са слабым здароўем і неяк памёр на прадвесні. У той год Васілька канчаў вучобу, пасталеў, падрос, раздаўся ў плячах. І аднойчы, на нейкае свята, у час яго кароткага гасцявання дома, адчула маці, што ўжо скончылася дзяцінства яе белагаловага хлапчука і з ім — яе, матчына, улада над сынам.

Ёй добра памятны той цёплы майскі адвячорак, калі ў паветры пахла таполяй, маладым бярозавым лісцем. Гудзелі на панадворку хрушчы, недзе ў вёсцы граў гармо-

нік, і яна, успомніўшы, што трэба да вечарынкі накарміць сына, пайшла за хату ў агародчык гукнуць яго. Ён там чытаў нешта, але калі маці ўбачыла яго, Васіль, безуважны да кнігі, неяк устрывожана і пільнаназіраў з-пад рабіны на палымяны разліў зары. Маці пяшчотна паклікала, але ён не паварушыўся нават, усё глядзеў на захад, а потым азваўся і сказаў такое, што назаўжды разбурыла спакой у матчыным сэрцы:

— Мама, глянь: бачыш, які захад? Праўда, падобна на вялізнае пажарышча? А бадай, і сапраўды запалае зямля. Вайна будзе, мамачка. Я пайду тады, застаняцеся вы адны з Марыськай.

Яна моцна спалохалася, памятае, зразумеўшы страшны сэнс тых слоў, заплакала, а ён ускочыў, абняў яе і супакойваў, як мог, кажучы, што, можа, яшчэ ўладкуецца ўсё паціху. Але калі яна сціхла, прыцяла благое прадчуванне, ён сказаў ужо сур'ёзна і цвёрда, як узмужнелы сталы мужчына:

— Усё ж, калі што здарыцца, я пайду, мама. Прызавуць ці не, а пайду: так трэба.

Яна не разумела ўсяго, але верыла, што калі казаў ён гэта, то сапраўды так трэба было, і не адгаворвала, не ўпрошвала яго.

І ўсё ж у сэрцы яе ён заставаўся маленькім, добрым белагаловым хлопчыкам, якому патрэбна была яе любоў і яе клопат. Усё здавалася ёй у страшныя гады вайны, што яму недзе цяжка, што ён знемагае ад болю, ад сцюжы, ад голаду. І яна не знаходзіла сабе месца ў хаце — хацелася бегчы, знайсці яго, памагчы, прыняць частку яго цяжару на свае плечы. Але куды было бегчы і дзе шукаць?

Ішлі гады. Яны неслі роспач, радзей кароткую, як пробліск восеньскага сонца, радасць. Людзі прыходзілі з вайны, з партызан, многія былі параненыя, але жывыя, за другіх прыйшлі весткі аб іх гібелі. Па іх паплакалі маці і патроху супакоіліся — страчанага не вернеш. Тэкля ж усё чакала — доўга, цярпліва, без скаргаў, а ён не ішоў, не адзываўся. Яе суцяшалі суседзі, колькі разоў угаворвала Марыська, якая ўжо выйшла замуж і жыла ў далёкай вёсцы. Зяць пры кожнай сустрэчы цярпліва запрашаў яе да сябе — там гадаваліся ўнукі, і яна была дужа патрэбна. Але Тэкля ўсё не магла адцурацца хаціны, дзе парадзіўся сын і якую яна ўпарта доўгія гады берагла для яго.

У хаце пакрысе ўсталёўваецца сляпая асенняя ноч,

глухая ціш, апроч Тэклі тут нікога няма. Быў некалі кот, ды і той звёўся чамусьці. Вялікае гора прыбіла ўсякі інтарэс да жыцця, зламала характар, спарахніла душу — нічога няміла цяпер старой, адзінокай жанчыне.

Яна ўсё ляжыць, расплюшчыўшы вочы, думае свае невясёлыя думы і напружана ўслухоўваецца. Так ужо прывыкла за шаснаццаць год і трывог і чаканняў — слухаць кожны шолах і кожны гук у ваколіцы.

Але ўсюды ціха, толькі шамаціць у страсе халодны вецер ды недзе на дарозе гудзе машына. Яна, відаць, набліжаецца, буксуе, пэўна ў калдобінах тых, ля пагорка. Знячэўку сіняватае дрыготкае святло яе фар слізгае па вокнах і кладзе ў куце пад столлю вузенькую бліскучую паску. Машына гудзе бліжэй, паска паволі сунецца па закураных, патрэсканых бярвеннях, шырэе; з'яўляюцца чорныя палосы рамы, і вось ужо на сцяне — бліскучы косы адбітак Тэклінага акна з адной чорнай заткнутаю шыбай. Акно ўсё хутчэй слізгае па сцяне ў другі кут і ўрэшце знікае, асвяціўшы на момант вялізны цвік і каўнер павешанага на ім кажушка. У хаце зноў робіцца цёмна, машына з цяжкім ляскатам і гулам мінае Тэклін панадворак.

Тэкля нерухома слухае, думае сваё і раптам усхопліваецца ад новай надзеі. А можа, гэта ён, можа, ён са станцыі, прыехаў, стаіць цяпер ля роднае хаты, вось-вось увойдзе. Тэкля ўзнімае галаў, слухае і сапраўды чуе няпэўныя крокі на ганку і ціхі кароткі стук. Ён! Старая ўзнімаецца на печы, спускаецца, і, сцягнуўшы за сабою ватоўку, таропка бразгоча зашчапкай. Яна расчыняе дзверы сенцаў — у твар ёй б'е вільгаць і холад восеньскай ночы, наўкола цішыня і цемра. На ганку нікога, на панадворку змрок. З хвіліну яна ўзіраецца ў ноч, слухае, і сэрца яе зноў захлынаецца ад роспачы, не хоча ніяк пагадзіцца з крушэннем надзеі. Асцярожна мацаючы ботамі гразкі дол, яна заходзіць за рог, доўга ўглядаецца ў вуліцу — нідзе нікога.

Потым яна вяртаецца і зноў ляжыць на печы з расплюшчанымі вачыма і слухае, слухае ўсю ноч. Пад ранак жанчына ўсё ж засынае і нібы ў працягу сваіх думак бачыць дзівосны сон.

Бачыць яна: нібы настае новы, заўтрашні дзень — дзень нараджэння Васількі. Яна нешта завіхаецца на панадворку і ўсё пазірае на дарогу, чакае і пэўна ведае, што сёння павінен з'явіцца ён, яе надзея. Жанчына ўсё рыхтуецца да гэтай сустрэчы, але чамусьці няма радасці на яе

сэрцы ад хуткага спаткання — нешта замінае ёй, гэтай радасці. Урэшце чаканне сустрэчы і зусім знікае. Жанчына паліць у печы, ёй памагае дачушка Марыська. Яны пякуць бліны і між справай ласуюцца святочным наедкам, зусім забыўшыся ўжо пра Васільку і яго хуткае вяртанне. І раптам суседская Ульянка стукае і нешта крычыць у акно — Тэклі не чутна слоў, але яна здагадваецца, што гэта вяртаецца ён. Старая выбягае з хаты і бачыць, як на той жа дарозе, што і шаснаццаць год назад, ідзе яе сын, яе дарагі Васілька. Але ён ідзе вельмі марудна, часта спыняецца, становіцца на калені — з ім штосьці здарылася, яму, відаць, вельмі цяжка. Маці, ахопленая нястрымным роспачным хваляваннем, наўпрасткі, праз бульбянішча і гразь, у адной кофце, без хусткі бяжыць насустрач сыну. Яна ўжо ведае, што нешта страшнае, непапраўнае здарылася з яе Васількам. Жанчына, галосячы, падбягае да сына — ён, прыўзняўшыся на руках, ляжыць на дарозе, і яго малады, такі ж, як і шаснаццаць год назад, без ніводнай маршчынкі, твар спагадліва ўсміхаецца. Але што гэта? Чаму ў сына няма ні рук, ні ног, замест іх адны толькі кароткія кульцяпкі? І чаму кроў на яго пілотцы з маленькай зялёнай зорачкай, якія насілі франтавікі? Маці, млеючы ад жаху, хапаецца за сына, прабуючы ўзняць, і галосіць, а ён спакойна так кажа: «Нічога, мама, усё благое скончылася. Цяпер жыць будзем...»

А потым яна бачыць яго ў роднай хаце, быццам ён сядзіць на покуці і ўжо не ў чырвонаармейскай форме, а ў шэрым пінжачку, які справіў перад вайной, і сур'ёзна кажа маці: «Ну і нічога, хоць я і загінуў, але зноў жывы».

Ад нясцерпных жахаў яна прачынаецца на досвітку і, знясіленая ад перажытага за ноч, нерухома ляжыць, не ведаючы, што і падумаць. Яна прыпамінае сон, удумваецца ў яго адметныя драбніцы, зноў пакутуе ад такога выразнага свежага ў пачуццях відовішча, і чым далей, тым болей у старой мацнее ўпэўненасць, што ён вернецца. Гэтая ўпэўненасць і жаданне, каб яна здзейснілася, ужо не даюць старой чакаць у бяздзейнасці, яна ўзнімаецца, хуценька накідвае на плечы сваю світку. У хаце сцюдзёна, ужо даўно і зусім астыла печ, у вокнах сінее свежы ранак, і Тэкля кідаецца да таго, з разбітай шыбай, каб убачыць дарогу. Але дарогі яшчэ не відно, ледзь-ледзь цямнее пад нізкім хмарным небам пусты пагорак — і ўсё. Старая сноўдае па хаце, не ведаючы, што рабіць, за што ўзяцца, а думкі яе — на той дарозе, і сэрца ўсё больш ахоплівае не-

цярплівасць. Яна ўжо верыць, што ён недзе вяртаецца, і ўвесь час то падбягае да акна, то выходзіць на панадворак і да болю ў вачах узіраецца ў шэрую далячынь.

Калі добра развіднела, Тэкля ўжо не магла стрымаць сябе і, выйшаўшы на вуліцу, пачала ўглядацца ў дарогу. Спачатку там было пуста, потым з'явілася нейкая фурманка, на ёй сядзела двое мужчын і кабета. Старая ўсё ўглядалася ў іх — пільна і доўга, захлынаючыся ад нецярплівасці, а яны, бесклапотна гутарачы аб нечым і перасмейваючыся, так і мінулі вёску. Потым зноў на дарозе доўга не было нікога, аж пакуль здалёк не паказалася нейкая адзінокая постаць. Яна з'явілася, паматлялася на краявідзе і недзе знікла. У Тэклі адразу адарвалася нешта ўнутры, тупа ўдарыла ў галаў здагадка: «Ён!» Яна прыгледзелася яшчэ і ўжо не магла стрымацца. Не зачыніўшы нават сенцаў, у бахілах на басаног старая хутка пайшла па дарозе. Спачатку яна абмінала гразь, пазіраючы то пад ногі, то на пагорак, потым прыбавіла кроку і ўжо не разбірала дарогі. У нізіне ля калдобін, калі знік з вачэй пагорак, яе ахапіла трывога. Здалося жанчыне, што яна позніцца, што ён упаў там і ляжыць пакалечаны, і маці, цяжка дыхаючы, кінулася подбегам.

Сэрца яе ледзь не разрывалася ад гора і напружання, пакуль яна выйшла з лагчыны. Вось-вось, здавалася, яна ўбачыць яго, як у тым сне, на дарозе, знямоганага, пакалечанага. Яна, захліпаючыся ад стомы і хвалявання, узлезла на пагорак, але дарога была пустая. Гэта было першае расчараванне, але яно не пахіснула веры жанчыны. А можа, ён далей, можа, за параснікамі ці ў лужку, думалася ёй, і старая, не спыняючыся, бегла далей.

Над шырокімі прасцягамі, раллёй і голымі пералескамі непрыкметна зачаўся сумны восеньскі дзень, было ветрана і сцюдзёна. Нізкае неба поўнілася цяжкімі азызлымі хмарамі — яны суцэльным бясконцым статкам плылі з захаду, несучы першы зазімак.

Тэкля не спынілася ні на пагорку, ні ля параснікаў, яна не магла ўжо суцішыць хады — усё ў ёй рвалася наперад, туды, адкуль яна чакала яго. Увесь час здавалася старой, што вось-вось яна дасягне горкі ці абміне хмызняк і ўбачыць яго, і жанчына ўсё прыбаўляла хады.

Але ён не паказаўся ні з-за горкі, ні з-за параснікаў, а сілы старой пачалі слабець. Адзін раз яна прытулілася да тэлефоннага слупа, нібы ўпершыню здзівіўшыся марнасці надзеі, зірнула назад, наперад. Як добра, падумала

старая, што бацька пахаваны дома, на вясковых могілках, што ў яго дагледжаная магілка, а дзе ён? Дзе пахаваны ён? — нема крычала яе душа. Няўжо сапраўды ўсё скончана і ніколі ёй не дачакацца яго і давядзецца падацца ў чужыну да зяця?.. Але чаму пахаваны? Не можа быць, каб памёр ён, ён павінен жыць, ён ідзе гэтай дарогай, дык трэба спяшацца сустрэць яго. І яна шкандыбала па гразі ў невядомую далеч дарогі.

Апоўдні мінула знаёмыя мясціны, вядомыя вёскі. Дарога ўсё вілася ў восеньскіх прасторах, усё з прагнасцю азірала яе маці, але яго не было нідзе. Яна ўсё ішла, але вельмі знемагла ўжо, часта адпачывала на ўзмежках, ля слупа, на камянях. Спыніцца яна не магла, не магла і вярнуцца: ёй здавалася, што жыццё яе сына — у той дарозе.

А то ёй сустрэўся трактар, ён цягнуў вялізную чырвоную малатарню, а на ёй і на трактары сядзела некалькі хлопцаў. Старая саступіла з дарогі ў бок ад грукату і лязгу і ўважліва агледзела седакоў. Адзін, што сядзеў збоч трактарыста ў кабіне, здаўся ёй неяк вельмі падобны да яе Васількі; трактар праехаў, а яна ўсё глядзела ўслед. Хлопец у расшпіленай ватоўцы на малатарні нешта крыкнуў ёй і засмяяўся — яна не пачула яго слоў, але чамусьці аж схамянулася ад яго маладога свавольніцкага смеху.

Падвечар яна ўжо ледзь брыла дарогай, спынялася, задыхалася ад стомы. Старэчы позірк, што так натхнёна вёў яе ўдалеч, пагас пакрысе, як пагасла і яе нясцерпная надзея сустрэць яго. І ўсё ж яна з дрыготкім сэрцам узіралася ў дарогу з-за кожнай павароткі.

Урэшце беспадстаўная вера жанчыны пачала марнець. Усё часцей вярталася думка, што дарэмныя яе надзеі, бескарысны клопат. Не прыйдзе ён і сёння і ніколі, бо яго няма ўжо на белым свеце. Усё быў зман, пустыя спадзяванні, і яна прагла толькі даведацца, дзе пахаваны яе сын. Гэта было іншае пытанне, але яно апанавала маці з гэткай жа нязмернай сілай, як і тое, што датычалася яго жыцця.

У небе ўсё гусцелі барвовыя хмары, яны не плылі цяпер, а збіраліся, тоўпіліся над прасторамі, быццам задумаўшы нешта нядобрае. Расплываўся з-за краявіду сінявы змрок, далячынь сцямнела, насупілася ў прадчуванні непагадзі. Пэўна, блізіўся вечар, ці мо ад хмар цямнела да часу. На сіверным ветры замільгалі рэдкія сняжынкі.

Тэкля некуды ішла, ужо і сама не ведала, куды і па

што. Усё больш апаноўвалі яе роспач і гора, яна ведала пэўна, што шчасце не спаткае яе на гэтай дарозе. Але не магла яна і вярнуцца назад — не было ўжо сілы ў яе на тое вяртанне.

Дарога прывяла старую ў нейкі лясок. Абапал шляху цесна стаялі елкі, шумелі, гулі ў ветранай высі іх верхавіны. На доле шамацела змеценае ў каляіны лісце, блішчалі лужыны рудой, мутнай вады. Тэкля ішла па дарозе, абапіраючыся на кій, ледзь пераступаючы збалелымі натруджанымі нагамі. Аднак лес неўзабаве скончыўся, дарога пабегла ўніз да самотнай пустой лугавіны, і жанчына, схамянуўшыся, раптам спынілася.

На пагорку, збоч ад дарогі, на ўзлеску незвычайна ярка і чыста неяк у гэты халодны восеньскі вечар бялеў каменны абеліск з зоркай наверсе — звычайны вайсковы помнік тым, хто не дайшоў да Берліна. Хістаючыся ад горкіх прадчуванняў, што хлынулі ў яе душу, Тэкля сышла з дарогі і, узнімаючы нагамі некрануты пласт шапатлівага лісця, падалася да помніка.

Ён быў дагледжаны, падпраўлены і нядаўна пабелены, гэты журботны напамінак вайны. Невялікая магілка з завялай травою і высахлымі немудрагелістымі вянкамі старанна падраўнана; пагабляваныя шчыкеціны агароджы афарбаваны зялёнай фарбай — як і належыць вайскоўцам. На адным баку абеліска чарнела ўмураваная ў яго дошчачка з не дужа зграбна напісанымі, але выразнымі літарамі — спісам пахаваных байцоў. У роспачы павісшы грудзьмі на агароджы, старая ўпілася ў гэтыя радкі жалобных слоў.

Не, яго не было і тут. «Лейтэнант Авяр'янаў, гвардыі старшына Кузняцоў, радавыя Бондараў, Ціліпенка, Чарных і іншыя». Але хто ж гэтыя іншыя, чаму не напісаны іхнія імёны? А можа, і ён тут у ліку гэтых невядомых «іншых».

Яна ўжо не магла ісці адгэтуль, учапілася рукамі ў халодныя шчыкеціны, і з глыбіні яе жарам гарэўшых грудзей вырвалася страшнае пытанне:

— Сыночак мой, дзе ж ты?

Чарнела неба ад хмар, шумеў голым веццем узлесак, стыла шэрая далячынь. Доўга яшчэ ляцела на ветры тое яе запытанне, і нема крычала матчына сэрца ад нясцерпнае раны вайны.

*1957*

# КРУТЫ БЕРАГ РАКІ

Звычайна ён прыходзіў сюды на заходзе сонца, калі міналася спёка і ля ракі на яе крутых, зарослых хмызняком берагах пачынала цягнуць прахалодай. Надвячоркам амаль сціхаў вецер, знікала дакучлівая рабізна на вадзе, наставаў час начное рыбалкі. Прыезджыя з горада рыбакі таропка растыкалі па камяністых водмелях кароценькія вудзільні донак і тут жа, кінуўшы на траву якую адзежыну, рыхтаваліся скаратаць на ёй нядоўгую ліпнёвую ноч.

Пятровіч выходзіў з травяністага ляснога раўка ад недалёкай прырэчнай вёскі і адзінока садзіўся на краі камяністага, амаль навіслага над вадой абрыву. Яго тут многія ведалі і зводдаль жартоўна гукалі, задаючы пустыя, неабавязковыя для адказу пытанні. Заняты сабой, ён болей маўчаў, не дужа ахвотна ішоў да людзей, відавочна, шануючы адзіноту на сваім улюбёным, нязручным для рыбалкі, заваленым камянямі абрыве. З гэтага абрыва адкрываўся, аднак, шырокі пагляд на ўвесь, ужо ахінуты вечаровым прыцемкам, бераг, плаўную паваротку ракі з парожыстым перакатам пасярэдзіне і высокай аркай чыгуначнага моста воддаль, на пакаты схіл таго берага, які нанач густа цямнеўся хвойнікам.

Яшчэ праз нядоўгі час з-за бетонных апор моста на прыціхлы рачны прастор імкліва вылятала «казанка». Расцягваючы ва ўсю шырыню ракі даўжэзны шлейф кармавой хвалі, яна спрытна мінала перакат і, памалу збаўляючы газ, кіравала да берага. Яшчэ здалёку было відаць, што ў лодцы сядзела двое — Юра Бартош, хлопец з суседняй вёскі, які працаваў у горадзе і наязджаў у тутэйшыя мясціны палавіць рыбу, і яго гарадскі прыяцель Каламіец, з якім яны ўдвух купілі гэтую срабрыстую «казанку» з новым дваццаціпяцісільным маторам.

Як і заўжды, у той вечар за рулём сядзеў Каламіец, крутаплечы чалавек з шырокімі даланямі рук і цяжкаватым позіркам з-пад доўгага цэлулоіднага казырка насунутай на лоб фуражкі. Паволі збаўляючы абароты вінта, ён упэўнена набліжаўся да берага, на якім ужо згледзеў адзінокую постаць Пятровіча.

— А ну падхапі! — крыкнуў ён, спыніўшы матор, і яго басавіты голас над ціхай ракой прагучаў дабрадушнай камандай.

— Навошта! — нязгодна прыўстаў за ветравым шклом Юра.— Я сам.

Ён спрытна перакінуў цераз верх шкла сваё загарэлае, доўгае, надта худое цела, лёгка саскочыў на водмель, і яны разам з Пятровічам усцягнулі між камянёў на бераг дзюралевы нос лодкі. Затым, пакуль Каламіец адкідваў і зачахляў матор, Юра ў закасаных да каленяў сініх трыко выгружаў з лодкі рукзакі, донкі, падкормку, а стары, як незнаёмы, стаяў убаку і пільна глядзеў цераз раку на той яе бераг, быццам убачыў там штосьці дужа важнае. Ён засяроджана, амаль маркотна маўчаў, і яны, занятыя сваёй справай, не звярталі на яго ўвагі.

Калі несамавітыя рыбацкія прылады былі выгружаны на бераг, Каламіец адразу ж, пакуль не зусім змерклася, заняўся сваімі донкамі, а Юра, скалануўшыся ад рачной свежасці, пачаў таропка нацягваць на плечы сіні спартыўны світар.

— А як у нас з па́лівам сёння, Пятровіч?

Стары не адразу адарваў ад таго берага засяроджаны позірк сваіх выцвілых, слязлівых вачэй і вузлаватымі пальцамі вялікіх спрацаваных рук перабраў роўны рад гузікаў на зашмальцаваным вайсковым кіцелі.

— Трошкі назбіраў. Але мала.

Юра па камянях узбег на абрыў, дзе ляжаў невялікі, перавязаны старой вяроўчынай абярэмак ламачча.

— Э, малавата.

— Я так думаю, што звечара можна і не паліць,— марудна, са старэчым намаганнем ускараскаўшыся на абрыў, ціха загаварыў Пятровіч.— Пад ранак лепей. На золку. Звечара людзі ўсюды, калі што — памогуць. А як пад ранак паснуць, хто паможа?..

Цяжка валюхаючы ў кірзавых ботах, ён адышоўся на тры крокі ад абрыву і сеў. З расстаўленых каленяў звесіў свае пакручастыя, быццам карані, рукі. Пакутлівы позірк яго хутка абмінуў раку і звыкла спыніўся на тым яе беразе з лодкамі.

— Яно можна і пад ранак,— згадзіўся Юра.— Але і ноччу не шкодзіла б. Можа, я падскачу, таксама чаго пашукаю ў рове?

— Ноччу б, ведама, лепш... А то як пазнаюць? Раней дык вунь хутар быў. А цяпер няма. І гэты мост новы... Незнаёмы.

— Вось іменна.

— Маленькае хаця б вогнішча. Абы тлела — будзе відаць.

— Павінна відаць. Дык я збегаю, пакуль не спямнела! — крыкнуў Юра з абрыву, і Каламіец унізе, які начаплаў прынаду, незадаволена павярнуў галаву.

— Ды кінь ты з гэтымі вогнішчамі! Пакуль не сцямнела, давай лепш пазакідаем! А то агонь — патрэба такая! Вунь кухвайка ёсць.

— Ладна, я зараз! — кінуў Юра і спрытна палез па камянях да прыцьмелага ў раўку алешніку.

Стары моўчкі прыціх на абрыве, і яго аброслы шызаю шчэццю твар набыў выраз даўняй звыклай задумлівасці. Ён доўга напружана маўчаў, машынальна перабіраў пальцамі зашмальцаваныя краі кіцеля з чырвоным кантом па краі; слязлівыя вочы яго праз пагусцелыя прыцемкі ўпарта глядзелі ў зарэчча. Каламіец унізе размахаў канцом вуды і спрытна закінуў яе ў масляністую гладзь вады. Бліснула капронавая нітка, і грузіла з ціхім пляскам нырнула ў раку, лёска струнка напялася.

— Ты во што, дзед,— рэзкім голасам сказаў ён пад абрывам.— Гэта самае... Кінь дурня строіць, камедзію іграць. Ніхто ўжо адтуль не прыйдзе. Паняў?

Пятровіч на абрыве лёгенька схамянуўся, нібы ад сцюжы, пальцы яго на грудзях знерухомелі, і ўся яго худая, кастлявая пад кіцелем постаць жаласна сцялася. Але позірк яго па-ранейшаму быў скіраваны да зарэчнага берага, на гэтым, здавалася, ён не заўважаў нічога і быццам бы нават і не ўчуў няласкавых слоў Каламійца.

— Яны ўсе цябе, дурня, за нос водзяць, паддакваюць. А ты і верыш. Прыйдуць! Хто прыйдзе, калі ўжо вайна вунь калі скончылася? Падумай сваёй башкой!

На рацэ прыкметна цямнела, шэрая постаць Каламійца невыразна варушылася ля самай вады. Болей ён нічога не сказаў старому і ўсё корпаўся з прынадай і вудамі, а Пятровіч, нейкі час пасядзеўшы моўчкі, загаварыў з застарэлым болем у голасе:

— Дык гэта малодшы, Толік... Вачамі захварэў. Як змеркнецца, нічога не бачыць. Старшы, той бачыў добра. А калі са старшым што?

— Што са старшым, тое ж і з младшым! — груба абарваў яго Каламіец.— Вайна, яна ні з кім не лічылася. Да яшчэ ў блакаду.

— Ну,— проста пагадзіўся стары,— акурат блакада была. Толік з вачамі тыдзень дома пабыў, аж прыбягае

Цімка. Кажа: абклалі з усіх бакоў, сілы мала. Ну і пайшлі. Малодшаму шаснаццаць было. Астацца прасіў — ні ў якую. Як немцы ўбяруцца, сказалі, каб агонь расклаў...

— Ось галава! — здзівіўся Каламіец і нават прыўстаў ад сваіх донак.— Сказалі раскласці! Калі гэта было?

— Ды на пятроўку. Акурат на пятроўку, ага...

— На пятроўку! А колькі таму гадоў мінулася, ты кумекаеш?

— Гадоў?

Стары, падобна было, з нейкай натугай здзівіўся і, здаецца, упершыню за вечар адарваў свой пакутлівы позірк ад ледзьве прыкметнай у прыцемках лясной лініі берага.

— Ага, гадоў? Гэта ж дваццаць пяць год мінула, галава яловая.

Грымаса глыбокага болю зморшчыла старэчы твар чалавека, вусны яго зусім па-дзіцячы крыўдліва скрывіліся, вочы хуценька зацепалі, і погляд разам патух. Відаць, толькі цяпер да азмрочанай яго свядомасці пачаў марудна даходзіць увесь страшны сэнс яго шматгадовай памылкі.

— Дык гэта... Дык гэта як жа?..

Напяўшыся ўвесь у якімсь намаганні, ён, мабыць, хацеў і не мог выказаць нейкую важную сваю думку, і ад гэтага непасільнага напружання позірк яго стаў нерухомы, страціў усякі сэнс і зышоў з таго берага.

— Я табе кажу: кінь гэтыя забаўкі,— корпаючыся ля вудаў, пераконваў унізе Каламіец.— Рабят не дажджэшся. Амба абодвум. Ужо дзе-небудзь і костачкі згнілі. Ось так!

Стары маўчаў, як глухі. Заняты сваёй справай, змоўк і Каламіец. Змрок блізкае ночы хутка паглынаў бераг, хмызняк; з прырэчных равоў папаўзлі шэрыя космы туману, лёгкія дымчастыя струмені яго пацягнуліся над ціхім плёсам. Хутка цямнеючы, рака губляла свой дзённы бляск, змрочны той бераг шырока перакуліўся ў яе глыбіню і заліў рачную паверхню гладкай бліскучай цемрай. Землечарпалка перастала грукатаць, зрабілася зусім глуха і ціха, і ў гэтай цішыні тоненька і нясмела, як з невядомае далёкай далечы дзынкнуў маленькі званочак донкі. Захлябаўшы па камянях падэшвамі гумовых ботаў, Каламіец кінуўся да крайняй на беразе вуды і таропка замятляў рукамі — пачаў даставаць з вады лёску. Ён не бачыў, як Пятровіч на абрыве трудна падняўся, хіснуўся і згорблена, моўчкі падаўся кудысь — прэч з гэтага берага.

Напэўна, у цемры стары недзе размінуўся з Юркам, каторы неўзабаве паявіўся на абрыве, кінуў пад ногі тра-

скотнае бярэма галля — вялікае бярэма побач з маленькай вязанкай Пятровіча.

— А дзе дзед?

— Глядзі, якога ўзяў! — пачуўшы сябра, бадзёра загаварыў пад абрывам Каламіец.— Колбік што трэба! Паўкіла пацягне.

— А дзе Пятровіч? — адчуўшы нядобрае, паўтарыў сваё пытанне Юра.

— Пятровіч? А хто яго... Пайшоў, мабыць. Я сказаў яму...

— Як? — аслупянеў на абрыве Юра.— Што ты сказаў?

— Усё сказаў. А то водзяць за нос. Падтакваюць...

— Што ты нарабіў? Ты ж прыкончыў яго!

— Ды ўжо ж — прыкончыў. Жывы будзе!

— От жа калун! От жа тумак! Я ж табе казаў! Яго ж тут берaглі ўсе! Ашчаджалі. А ты?..

— Што там ашчаджаць! Хай праўду ведае.

— Такая праўда яго даканае. Яго ж сыноў абодвух забілі ў блакаду. А перад тым ён іх сам вунь туды на лодцы адвёз. І чакае.

— Чаго ўжо чакаць?

— А што ж, лепш не чакаць? Як жа яму тады жыць? Эх ты!

— Ну ладна, ладна...

— Ды не ладна! Пайшоў ты, ведаеш куды! Дзе мой рукзак?

Пад завалочаным цемрай абрывам пачуўся ціхі стук камянёў пад нагамі, рэзкі лязг ланцуга па гулкай абшыўцы лодкі, і неўзабаве некалькі крокаў, якія хутка заціхлі ўначы. Над берагам запанавала цішыня. Ледзьве паблякваючы аспіднай паверхняй, цякла ў вечнасць рака, і паступова ў розных мясцінах на нябачных у змроку яе берагах, блізка і далёка загараліся кастры рыбакоў. Сярод іх у той вечар не загарэўся толькі адзін — на абрыве насупраць ляснога перавозу, дзе да ранку было незвычайна пустынна і глуха.

Не загарэўся ён і ў наступную ноч.

І, мабыць, не загарыцца ніколі.

*1972*

# Змест

**Быкаў В.**

Б 95 Збор твораў. У 4-х т. Т. 4. Аповесці і апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1982.—479 с., 4 л. іл.

У пер.: 2 р.

Чацвёрты том складаюць аповесці «Праклятая вышыня», «Пастка», «Мёртвым не баліць» і апавяданні.

Б $\frac{4702120200 - 155}{М\ 302(05) - 82}$ падпіснoе

ББК 84 Бел 7
Бел 2

ВАСИЛИЙ ВЛАДИМИРОВИЧ БЫКОВ

Собрание сочинений в четырех томах

ТОМ IV

*Повести, рассказы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар А. Д. Куліш. Афармленне і мастацкае рэдагаванне Л. Я. Прагіна. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктары А. Т. Глушчанка, Т. В. Трубач.

ІБ № 1393

Здадзена ў набор 19.05.82. Падп. да друку 03.11.82. АТ 05259. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 2. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 25,20+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 26,04. Ул.-выд. арк. 28,22. Тыраж 76 000 экз. Зак. 2098.
Цана 2 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.